# НАШ КРАЙ




№ 11 (38) 1928 ЛІСТАПАД

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!



# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ



№ 11 (38) Лістапад 1928

ГОД ВЫДАНЬНЯ ЧАЦЬВЕРТЫ




ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1928

# Аб некаторых практычных задачах мясцовых краязнаўчых організацый у социялістычным будаўніцтве.

Праца мясцовых краязнаўчых організацый мае сваёй мэтай комплекснае вывучэньне свайго краю: яго прыроды, насельніцтва, гаспадаркі, культуры, быту. Асаблівасьцю краязнаўчай працы зьяўляецца яе масавасьць, шырокі організаваны ўдзел мясцовых дасьледчыкаў і практычных працаўнікоў у розных галінах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Другой, найбольш характэрнай асаблівасьцю краязнаўчай працы, па нашай думцы, павінна быць утылітарнасьць гэтае працы, яе практычнае служэньне і дапамога ў вырашэньні задач соцыялістычнага будаўніцтва.

Краязнаўчая праца на мясцох павінна адказваць на практычныя запатрабаваньні гаспадарчага і культурнага будаўніцтва сягоньнешняга і заўтрашняга дня. Краязнаўчыя організацыі павінны ўвязваць сваю працу з пэрспэктыўнымі плянамі мясцовых гаспадарчых і культурных установ у першую чаргу, што забясьпечыць гэтай працы найбольшую жыцьцёвасьць і вікліча зацікаўленасьць з боку партыйных, савецкіх і грамадзкіх організацый. Нашы краязнаўчыя організацыі можа затым яшчэ і малапопулярны, што ня зусім блізка падышлі да вырашэньня практычных задач соцыялістычнага будаўніцтва. Краязнаўчая праца павінна ўзяць выразны напрамак дапамогі ў вырашэньні пытаньняў паднясцьця і разьвіцьця мясцовай прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, коопэрацыі, палепшаньня дабрабыту насельніцтва і г. д. Вывучэньне мінулага краіны, хаця і важна і неабходна для пазнаньня свайго краю, але не зьяўляецца неадкладна неабходным для працоўных мас. Пры нізкім культурным узроўні працоўных мас, асабліва ў вёсцы, пытаньні, ня зьвязаныя з практычным жыцьцём, мала яшчэ даступны і мала цікавяць працоўных. Гэта зусім ня значыць, што мясцовыя краязнаўцы не павінны займацца археолёгіяй, гісторыяй мінулага, фольклёрам, зусім не: гэтыя пытаньні толькі не павінны засланяць сабой тыя першачарговыя жыцьцёва неабходныя пытаньні, аб якіх гаварылася вышэй. Мясцовыя краязнаўчыя організацыі працуюць сярод працоўных мас, на іх павінны абапірацца і выходзіць з іх запатрабаваньняў.

Якія-ж гэтыя запатрабаваньні? Асноўныя з іх былі вызначаны XV зьездам УсеКП і знайшлі сваё практычнае вырашэньне ў пастановах ліпнёўскага пленуму Ц. К. УсеКП. У ажыцьцяўленьні пастаноў зьезду адносна індустрыялізацыі краіны, паднясцьця сельскай гаспадаркі на вышэйшую ступень шляхам яе інтэнсыфікацыі, індустрыялізацыі і колектывізацыі, а таксама і ў ажыцьцяўленьні культурнай рэволюцыі побач з партыйнымі організацыямі, савецкімі і гаспадарчымі ўстано-

вамі значны ўдзел могуць прыняць і мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі. Маючы агульную мэтавую ўстаноўку пры вырашэньні кожнага з вышэйзазначаных пытаньняў, краязнаўчыя арганізацыі ў мясцовым маштабе і ў адпаведнасьці з мясцовымі асаблівасьцямі змогуць заняцца адшуканьнем мясцовых крыніц гаспадарчага росту свайго раёну, акругі, вывучэньнем культурнага стану насельніцтва і адшуканьнем шляхоў скарэйшага культурнага яго разьвіцьця і г. д.

Вельмі важным і сур'ёзным у сучасны момант пытаньнем разьвіцьця мясцовай прамысловасьці ў нас на мясцох досыць мала займаюцца, або і зусім не займаюцца. З гэтае прычыны мы маем такія выпадкі, калі некаторыя прамысловыя прадпрыемствы (пільні, млыны, цагельні і інш.) без належнага абгрунтаваньня зьчыняюцца, а праз год-два зноў адчыняюцца; часамі адчыняюцца прамысловыя прадпрыемствы там, дзе не хапае мясцовай сыравіны і няма рынку збыту. Вывучэньне краязнаўчымі арганізацыямі мясцовай прамысловасьці наагул і паасобных прадпрыемстваў у прыватнасьці паводле пляну, узгодненага з кіруючымі гаспадарчымі ўстановамі, шмат дапамагло-б правільнаму вырашэньню пытаньня адносна далейшага разьвіцьця прамысловасьці ў даным раёне. Досыць актуальнымі пытаньнямі ў сучасны момант зьяўляецца: рост прагулаў у шмат якіх галінах прамысловасьці, паслабленьне тэмпу вытворчасьці, недахоп запасаў сельгаспадарчай сыравіны[1]), усе гэтыя пытаньні зусім пасільны для вывучэньня і сіламі мясцовых краязнаўчых арганізацый, якія (арганізацыі) свае высновы і прапановы могуць прадставіць у кіруючыя ўстановы для палепшаньня справы.

Нашы мясцовыя прыродныя багацьці: гліны, пяскі, торф, якія маглі-б быць скарыстаны для мясцовай прамысловасьці, мала і ня ўсюды дасьледваны. Цагельні, напр., у нас адчыняюцца выпадкова, без належнага абсьледваньня запасу і гатунку гліны. Патрэбнасьць у гліне для розных вырабаў пасуды, чарапіцы расьце, і краязнаўчыя арганізацыі павінны заняцца дасьледваньнем гэтых багацьцяў.

Для пабудовы соцыялізму неабходны скарэйшы пераход сялян да колектыўных форм земляробства, да ўзбуйненьня гаспадарак. Між тым мы ня маем належнага дасьледваньня аб тым, як жывуць і працуюць колектыўныя гаспадаркі і арцелі, як ідзе рост пасёлкаў, якія перашкоды сустракаюцца на шляху да колектывізацыі і ўзбуйненьня гаспадарак. Матар'ялы ведамственных абсьледваньняў ляжаць у канцэлярскіх шафах ці портфэлях. Перад краязнаўчымі арганізацыямі стаіць вялікай важнасьці задача заняцца ўсебаковым вывучэньнем і апісаньнем нашых савецкіх гаспадарак (хлебных фабрык), колектыўных гаспадарак і гаспадарак пасёлкавага тыпу.

Нам неабходна популярызаваць новыя формы сельскай гаспадаркі, але разам з тым і заняцца вывучэньнем, чаму, напр., досыць часта распадаюцца сельска-гаспадарчыя хаўрусы і колектыўныя гаспадаркі.

Аднэй з асноўных задач Комуністычнай партыі і Савецкай улады зьяўляецца падняцьце ўраджайнасьці нашых палёў. І тут краязнаўчыя арганізацыі шмат могуць зрабіць, выяўляючы сялян-дасьледчыкаў і розныя іх дасягненьні ў справе падняцьця сел.-гаспадарчай тэхнікі, ужываньня штучных угнаеньняў і г. д. Досыць адзначыць, напр., што дасьледчык Марозаў (у „Фатыні") стаў вядомы на мясцох галоўным чынам праз краязнаўцаў і краязнаўчы часопіс „Наш Край".

---

[1]) В. Куйбышев. „О хозяйственном положении СССР". Даклад на сходзе актыву Ленінградзкай арганізацыі УсеКП(б) 19-IX, 1928 г.

Пытаньне палепшаньня дабрабыту ў вёсцы і мястэчку зьяўляецца неадкладным пытаньнем. Дасьледча-краязнаўчая праца краязнаўчых організацый зможа высьветліць нам, у якім напрамку павінны праводзіцца мерапрыемствы мясцовых органаў Савецкай улады і грамадзкіх організацый у справе палепшаньня дабрабыту мястэчак і вёсак. Ёсьць, напр., вёскі і мястэчкі, дзе зусім няма лазьняў, а калі і ёсьць, дык яны не адпавядаюць свайму прызначэньню. На становішча нашых вуліц, двароў мы мала зварачалі ўвагі, а між іншым гэта ўсё важныя пытаньні ў сыстэме соцыялістычнага будаўніцтва, іх трэба выяўляць і на іх трэба зварачаць увагу нашай савецкай грамадзкасьці.

Нашы пляны па ўвядзеньні ўсеагульнага навучаньня, па ліквідацыі няпісьменнасьці, па правядзеньні рознага роду культурных мерапрыемстваў ня могуць быць належным чынам ажыцьцёўлены без дастатковага і ўсебаковага высьвятленьня ўсіх прадпасылак і ўмоў, выходзячы з якіх і можна будзе праводзіць практычную працу культурнага будаўніцтва. Мала, напр., ведаць толькі лік няпісьменных у тэй ці іншай вёсцы, каб адчыняць там лікпункт; трэба яшчэ ўлічыць адносіны да ліквідацыі няпісьменнасьці самога насельніцтва, характар яго заняткаў і інш., і тады можа быць выявіцца, што больш мэтазгодна лікпункт адчыніць у іншай вёсцы. Краязнаўчыя організацыі павінны пытаньням культурнай рэволюцыі наагул і пытаньням народнае асветы ўдзяліць належную ўвагу. Важна выявіць, якім чынам зьмяняецца быт насельніцтва, яго погляды, вядзеньне гаспадаркі ў сувязі з павышэньнем пісьменнасьці.

Надзвычайна цікавыя і характэрныя процэсы адбываюцца цяпер у грамадзкіх узаемаадносінах паасобных груп насельніцтва. Барацьба паміж старым і новым ладам жыцьця, барацьба беднаты з кулакамі, глыбокія зьмены ў сямейным жыцьці, у рэлігійных поглядах—усё гэта цікавыя і далёка немалаважныя пытаньні ў новым соцыялістычным будаўніцтве.—Улавіць напрамак, законамернасьць у тых зьменах, што адбываюцца ў розных групах насельніцтва, выявіць крывую, па якой ідзе новае жыцьцё ў залежнасьці ад розных соцыяльна-бытавых умоў,—гэта таксама адна з задач краязнаўчых організацый. І чым скэрэй і вярней мы выявім усе складаныя процэсы росту новай грамадзкасьці, тым бліжэй мы падыйдзем да практычнай задачы пабудовы новага соцыялістычнага ладу.

Заўважаецца часамі, што нашы краязнаўчыя організацыі мала цікавяцца „дробнымі“ мясцовымі пытаньнямі, лічачы, што гэтыя пытаньні ні для каго няцікавы і наагул малапатрэбны, пытаньні-ж вялікага маштабу ім непасільны, і дзеля гэтага краязнаўчая праца спыняецца ў сваім разьвіцьці, ня прыцягвае да сябе мясцовыя культурныя сілы. Такі погляд, бязумоўна, памылковы і шкадлівы для самае краязнаўчае справы і для соцыялістычнага будаўніцтва сваёй краіны.

Трэба добра помніць, што калі ня будуць вывучацца і вырашацца належным чынам „дробныя“ пытаньні, дык ня будзе тады і вялікіх пытаньняў. Трэба больш уважліва прыглядацца і прыслухоўвацца да запатрабаваньняў новага жыцьця, імкнуцца да найлепшага вырашэньня гэтых запатрабаваньняў, тады сама сабой паўстане неабходнасьць усебаковага вывучэньня свайго раёну, свайго сельсавету, сваёй вёскі для практычнай вялікай мэты—пабудовы соцыялізму.

*В. Самцэвіч.*

**В. Шавельскі.**

# Да пытаньня аб этнографічным складзе насельніцтва Невельшчыны.

*(Крытычны нарыс).*

З артыкулу Н. І. Зорына „Вопрос об этнографическом составе населения Невельского уезда в связи с диалектическими особенностями местного говора, с данными истории местного края и экономическим центром его тяготения“ [1]) невельцы першы раз даведаліся, што яны жывуць на „своеобразном этнографическом острове“ [2]). Думка Зорына, што „преобладающей волной населения Невельского уезда является южно-великорусская волна“ [3]), запраўды зьяўляецца навіной ня толькі ў гістарычна-этнографічнай літаратуры Беларусі, ня толькі для прадстаўнікоў беларускага руху на Невельшчыне, але і для звычайных жыхароў г. Невеля і яго раёну.

Пытаньне аб тэрыторыяльных мэтах Беларусі вырашалася ў часы царызму. У „Географическом Словаре Российской Империи“, изд. под ред. П. Семенова (СПБ 1863, т. I), сказана: „Под именем Белоруссии разумеют губернии Витебскую и Могилевскую“ [4]). Цэнтральны Статыстычны Камітэт Міністэрства Унутраных Спраў, Дэпартамэнт Земляробства і сельскай прамысловасьці Міністэрства дзяржаўнай маёмасьці пад Беларускім краем лічыць губэрні Магілеўскую, Менскую, Віцебскую і Смаленскую [5]).

Царскі ўрад, які прыгнятаў нацменшасьці, ня меў і ня мог мець зусім дакладнага географічнага азначэньня Беларусі, але Невельскі павет заўсёды ўключаўся ў склад Беларусі і беларускай губэрні. Ёсьць спэцыяльныя апісаньні Невельскага павету, як гістарычнае, этнографічнае, географічнае і сельска-гаспадарчае апісаньне Невельскага і Себескага паветаў [6]), ёсьць шмат паказаньняў у гістарычнай літаратуры і пэрыодычным друку аб Невельскім павеце, як частцы Беларусі і беларускай губэрні [7]), ёсьць, урэшце, мясцовыя архіўныя даныя [8]), з якіх адны кажуць аб тым, што Невельскі павет заўсёды лічыўся паветам беларускім, а другія—аб тым, што беларуская гаворка сярод насельніцтва Невельскага павету захоўваецца да канца XIX ст. А калі так, дык гістарычны лёс Невельскага павету непарыўна зьвя-

---

[1]) „Познай Свой Край“. Сборник Губ. Бюро и Псковского Общества Краеведения. Вып. III, 1927. Стр. 33—63.

[2]) Там-жа, стр. 62.

[3]) Там-жа, стр. 62.

[4]) Я. И. Рубнев. „Белорусско-Литовское Полесье“, т. VII, 1904 г., стр. 149.

[5]) Там-жа, стр. 149. Параўн. Энцыклёпэдычны Слоўнік Брокгаўза і Эфрона т. V стр. 231. Ев. Ст. Канчер. „Белорусский вопрос“. 1919 г. Петроград. Стр. 23.

[6]) Памятная Книжка Витебск. губ. 1888 г. Витебск 1888. Изд. Витеб. Губ. Статистич. Комитета стр. 1 -59.

[7]) Е. Ф. Карский. Белоруссы, т. II; Проф. П. Н. Жукович. Западная Россия в царствование императора Паула. Журнал Народного Просвещения за 1916 г.; творы Дзяржавіна (б. пана Невельскага павету)—выданьне Акадэміі Навук, Птгр. 1871; Московский Румянцевский Музей. Рукописное описание Белорусской губ., № 3140; Витебские Губ. ведомости за 1849 г., № 44 (Очерк Северной Белоруссии) і др.

[8]) Летапіс Іванаўскай царквы за 1867 г. і сьпісы Іванаўскіх парафіян з 1806 г. па 1830 г.

заны з гістарычным лёсам усяе Беларусі, часткай якой ён заўсёды быў [9]).

У сваім гістарычным жыцьці Беларусь, як азначае Е. С. Канчар, перажыла наступныя этапы:

I. Удзельна-вечавы IX—XII—900—1252 (352 гады).
II. Беларуска-Літоўскую унію 1252—1385 (133 гады).
III. Польска-Літоўска-Беларускую унію 1385—1448 г. (63 гады).
IV. Польскае панаваньне над Беларусьсю 1448—1795 (347 гадоў).
V. Расійскае панаваньне над Беларусьсю 1795—1917 (122 гады) [10]).

Праіснаваўшы самастойна каля 350—400 гадоў, Беларусь распачала вялікую, зацяжную барацьбу—політычную, экономічную і нацыянальную барацьбу, якая цягнулася на працягу амаль 700 гадоў і часта праяўлялася ў крывавых сутычках з рознымі народамі Азіі і Эўропы. Кроў гэтую можна бачыць на шмат якіх старонках гісторыі Беларусі. Адны народы, як літоўцы, напрыклад, успрыймалі беларускую культуру, другія, як палякі і вялікарусы, імкнуліся скарыць беларусаў і перабудаваць іх жыцьцё, веру, звычаі, мову на польскі ці вялікарускі лад. Такое чаргаваньне эпох у гістарычным жыцьці Беларусі павінна было адбіцца і запраўды адбілася на мове беларусаў, асабліва на мове насяленьня паўночных ускраін Беларусі, як Невельскі павет. Ускраіны хутчэй, чымся цэнтр Беларусі, паддаваліся таму ці іншаму ўплыву. Такім чынам, і самі беларусы і іх мова перажылі этапы і маюць сваю гісторыю. Каб вырашыць пытаньне, які дыялект ляжыць у аснове гаворкі насяленьня Невельскага павету, мала яшчэ назіраньняў над сучаснай гаворкай насяленьня Невельшчыны, мала гістарычных даных, якія можна вытлумачыць у той ці іншы бок, неабходна яшчэ прасачыць гісторыю мовы па літаратурных помніках ці помніках народнай творчасьці, якія захаваліся пасьля тэй ці іншай эпохі; неабходна вывучыць умовы ўзаемачыннасьці людзей у грамадзе, як вераваньні, звычаі, быт, звычкі і г. д.—усё, што рушыць уперад колектыўную творчасьць народу і адыгрывае вялікую ролю ў жыцьці мовы. Сучасны „говор населения Невельского уезда чрезвычайно пестр и мозаичен в своем составе“ [11])—гэта факт, з якім ня прыходзіцца спрачацца, за яго 700 гадовая барацьба Беларусі, але адгэтуль яшчэ не вынікае, што асноўнай моўнай стыхіяй насяленьня Невельскага павету ёсьць паўднёва-вялікаруская. У дыялектычнай табліцы асаблівасьцяй гаворкі Невельскага павету Н. І. Зорын прыводзіць 48 зьяў у галіне гаворкі і заяўляе, што ён „стремился указать, по возможности, все, часто повторяющиеся или ярко выделяющиеся особенности местного говора“ [12]). З 48 зьяў Зорын паказвае 29 такіх зьяў (III, IV, V, VI, VIII, IX, X, XI, XIII, XIV, XIX, XX, XXII, XXIII, XXIV, XXVI, XXVII, XXVIII, XXIX, XXXII, XXXV, XXXVIII, XXXIX, XLII, XLIII, XLIV, XLV, XLVI, XLVIII), якія належаць беларускай мове і якія ў гэты самы час можна заўважыць і ў іншых гаворках: паўночна-вялікарускіх, паўднёва-вялікарускіх, пскоўскіх і наўгародзкіх. Заўважыў Зорын у гаворцы Невельскага павету чатыры тыповыя рысы беларускай мовы, як словы

[9]) Памятная книжка Витебск. губ. на 1888 г., стр. 7.

[10]) Канчер. Белорусский вопрос, стр. 13—14. З канчараўскім падзелам гістарычнага жыцьця Беларусі на этапы ў адносінах Полацкага ваяводзтва ня зусім згаджаюся. Падставы для гэтага прыведзены ніжэй.

[11]) „Познай свой край“, ст. 47.

[12]) Там-жа, стар. 47.

з асновай А, якія маюць падвойныя канчаткі ў творным склоне адзіночнага ліку з сабакам і з сабакай, з мальчышкам і з мальчышкай (XXX), як формы наз. скл. мн. л. на ы—гарады, глазы, дровы і г. д. (XXXIII); як займенныя формы (XXXVI); як формы загаднага ладу на ый: мый, крый, шый (XL). Не знайшоў Зорын толькі іншых, больш тыповых рысаў беларускай гаворкі: цеканьня, чоканьня, дзеканьня, цьвёрдага р, беларускага дж і беларускіх слоў: хай, няхай (VII, XII, XV, XXXVII, XLI). Пытаньне аб пахаджэньні аканьня і ёканьня Зорын лічыць пытаньнем спрэчным і нявырашаным (I, II); перавага „в“ замест „г“ у канчатках родн. скл. адз. л. муж. і ніяк. р. прымет і займеньняў ён прызнае самай тыповай рысай паўночна-вялікарускіх гаворак (XVI) і знаходзіць ён і другую рысу паўночна-вялікарускіх гаворак—пераход ѣ у і (XVII); зьмяшэньне гукаў с—ш, ж—з ён адносіць наконт польскага ўплыву і часткова наконт пскоўскіх гаворак (XVIII); Зорын бачыць у Невельскай гаворцы поўную адсутнасьць тыповых беларускіх асаблівасьцяй: руцэ, сасе і інш., якіх, па яго погляду, у мясцовай гаворцы, мажліва, ніколі і ня было (XXXI); пераход „б“ у „г“ (гульба зам. бульба)—выраз мясцовы (XXI); пераставу „н“ і „л“ (гніла зам. гліна) ён лічыць асаблівасьцю, якая зьявілася, мажліва, пад уплывам паўночна-вялікарускіх гаворак (XXV); урэшце, форму творн. скл. мн. л. на ам (з нагам, з рукам) лічыць бязумоўна паходжаньня паўночна-вялікарускага (XXXIV) [13]).

Вось малюнак невельскай гаворкі, дадзены Н. І. Зорыным. Зразумела, Зорын запазычыў фарбы для гэтага малюнку са сваіх наглядаһьняў над гаворкай тэй часткі насельніцтва Невельшчыны, якая з канца XIX ст. [14]) і асабліва ў пачатку XX ст., ад часу правядзеньня чыгункі з Невеля на Ленінград, накіроўвалася ў Ленінград на заработкі і зьяўляецца ў значнай меры зрусіфікаванай. Але сярод насельніцтва Невельскага павету ёсьць і другая частка, якая ніколі адходнымі промысламі не займалася, якая назаўсёды асела ў Невельшчыне і дальш за Невель нідзе ня была, якая, такім чынам, зьяўляецца карэннай часткай насельніцтва Невельшчыны. Сярод гэтай часткі насельніцтва да гэтага часу можна заўважыць карэньні беларускай гаворкі, як цеканьне, чоканьне, дзеканьне і цьвёрдае р. [15]), якіх Н. І. Зорын наогул не знайшоў у гаворцы Невельшчыны. А што датычыцца слоў „хай“ і „няхай“, дык яны зьяўляюцца словамі не паасобных сялян, не паасобных вёсак, але агульна-прынятымі словамі па ўсім Невельскім павеце.

Н. І. Зорын сам і праз сваіх вучняў, слухачоў Невельскага Пэдтэхнікуму, два гады працаваў па вывучэньні гаворкі Невельскага павету [16]). У гэтым годзе і я распачаў працу па вывучэньні гаворкі Невельшчыны ў двох групах Невельскай школы II ступ. (дзевяцігодкі). У сваёй працы я перш за ўсё зьвярнуў увагу на тыя недагляды, якія ёсьць у артыкуле Зорына і хацеў знайсьці тое, чаго не знайшоў Зорын. Вось першыя вынікі гэтай працы, якая з цягам часу будзе ўсё больш пашырацца і паглыбляцца:

[13]) Познай свой край, стр. 36—47.

[14]) Памятная книжка Витеб. губ. на 1888 г., стр. 30.

[15]) Цьвёрдае р зьяўляецца тыповай памылкай у пісьмовых працах у расійскай мове, асабліва сярод вучняў першых гадоў навучаньня Невельскай працоўнай школы II ст. Гэта ня толькі мой асабісты погляд, але і другога выкладчыка, які працуе ў гэтых групах.

[16]) Познай свой край, стр. 36.

1. Карэннае насельніцтва г. Невеля кажа: гразь, на дварэ, закрычалі, прыкрыл, прывёл, вхаджу, гавару,—впірэд;

2. У в. Самухіна Новахаванскага с.-с.: цайнік, вадзіцка, мучыцка, цорт, цашка;

3. У раёне Гэйчына Узочынскага с.-с.: пецка, вадзіцка, у скрыпку іграець, уніцтажаць;

4. У в. Каралінаўка Нова-Вазьнясенскага с.-с.: піцах, рязыцка, карзіныцка, рябёныцэк, авецыцка;

5. У в. Зуі-Шчарбакі Ізочынскага с.-с.: хадзіў; людзі, уніцтажаць, поцэпка;

6. У в. Шульгі Пазьнеўскага с.-с.: хай.

Ня толькі ў абсьледваных мясцовасьцях, але і па ўсім былым Невельскім павеце агульна-прынятымі словамі зьяўляюцца і іншыя словы беларускай мовы: абабак, абадва, абараняць, абарона, абгаварыць, аберуч, аблічча, абмахнуцца, абмыліцца, абора, абхадзіцца, абцугі, абшарпацца, абшарпанік, абымаць, абы-што, абы-як, авой, авохці-мне, адказаць, адкасацца, адкаснуцца, адкінуць, адкланяцца, адкуль, адправа, адскок, адсохнуць, адстаяць, адсунуць, адтуль, адхінуцца, адхукаць, адчапіцца, азызнуць, акалець, аколіца (ваколіца), акуляры, алей, амшара, апасьля, апенкі, апухаць, апынуцца, асабліва, асака, асвоіцца, асот, атава, атоса, атрута, ахвота, ашукацца, а-юс!, бабіць, бабоўнік, бавіцца, багдай, багун, бадай, баіць, байбак, балабон, балагол, балазе, балахан, барышы, басата, басьцяцца, бахаць, беганіна, бедаваць, бізун, бірка, біцца, блуд, бляхар, бляшанка, болька, бондыр, бот, брук, брукаваць, брусьніцы, брызгаць, брыкацца, брыль, брынкаць, брысь, бубкі, бублікі, будка, бубынак, буй, буйнець, бурунбзіць, бусіць, быдла, быльлё, бярэма, бярно, бярьвеньне, вабіць, вага, важыць, вазоўня, вакеньніца, валаводзіць, валачобнікі, валіцца, валока, валуй, вайма, вар, варажба, варажбіт, варажыць, варыва, векша, верхавод, вілкі, віна, вір, віхляцца, вожык, вока, во́лава, вось, вонках, вуза, выгаліць, выгінаць, выглядаць, выгода, выказчык, выкінуцца, выхваляцца, выцьвісьці, вядома, вятох, вячэра, вячэраць, гаворка, гадаць, гай, галавешка, галаруч, галіцца, галушка, гандляваць, гарбуз, гарлач, гарохвіна, гарэлка, гасьцінец, гатаваць, гвалт, глум, глынуць, гнільлё. гной, гоман, грабіць, грошы, грубіяніць, груб, груба, грызь, гугнявіць, гуж, гуз, гукаць, гузік, гультай, гумно, гуркі, гурок, смак, гутаць, гыркаць, дабранач, даведацца, даглядаць, дадому, даёнка, дазволіцца, дакупіцца, дакучаць, далоў, дамоў, дапякаць, дарма, дармаед, дасюль, даўбаць, даўжыня, даўней, дачухна, двайняты, дзяга, дзядуля, дзярно, дзятліна, дзяўчаты, дзяўчына, досыць, дохнуць, драбіна, драбіны, дражніць, драчка, дрот, дрэнна, дрэнь, дубец, будка, дуж, дуля, дык, дыхавіца, еміны, ёўня, жаліцца, жалоба, жартаваць, жбан, жвір, жваканьне, жгут, жменя, жніво, жорны, жур, журавель, журавіны, жыжа, жыўцом, забабоны, забавіцца, забыцца, забяжыць, завал, завіруха, завод, (на разведение), загана, заглуміцца, загон, задавіць, задарма, зажынкі, зазвычай, закарэць, закасаць, заклад, закраса, залатуха, залом, залоўка, замарыцца, замёт, заможный, запаленьне, запыхацца, зараз, зарабляць, заробіць, зарубка, заручыны, засек, засіліць, засоў, заўчора, захаваць, зачапіцца, зачыняць, зборы, званы, званіца, звон, згуба, згубіць, здавацца, здольнік, здохнуць, здуру, задыхаць, здыхляціна, зельле, зерняты, зірнуць, злосьнік, злосьць, злупіць, змалку, знацца, золак, золь, зыбка, зьвяга, зьвягаць, зюкаць, зязюлька, зялюля, ікаўка, індык, исподка, каваль, кадушка, кажух, казаць, казёл, кака, каламяжка, ка-

ланіца, калыхаць, каменьне, камы, камяга, камяніца, капашыцца, капліца, капцюры, капшук, капыл, кара, каравай, карак, кралі, карачкі, кароста, кархаць, каршэнь, карэць, касец, каўзаецца, качарэжка, квактаць, квактуха, квохаць, кепска, кій, кірмаш, кісет, кішэнь, клёцка, клявец, клямка, кнот, кока, кон, костка, крамсаць, крант, кросны, крупеня, крушня, крушына, крыніца, кубел, кублы, кужаль, куксіцца, кулеш, кумпяк, курасадня, курка, курняўкаць, кусака, кусанік, кут, кутнік, кухлік, лазьня, лактаць, лантух, ланцуг, лапік, лапіць, ласавацца, ласкатаць, ластаўка, ласун, латка, лаяць, лепей, лепшы, лічыць лішка, лоў, лой, лом, (валежник), лупка, лупіць-цца, лупцаваць, лушчыць, лытка, лыч, любіцца, люлька, люстра, люстэрка, ляды, лядоўня, лялька, лясіна, ляскаць, ляха, ляшыць, маеш, май, майстра, майстраваць, макацёр, макрыца, маладзік, маладуха, марматаць, матуз, меркаваць, мітусіцца, млець, млосна, мовіць, могілкі-льнік, морква, муліць, мулка, мульт, мураваць, мурза, мурзатый, мутарна, мяжджуліць, мязга, мякнуць, мяліцца, мянтуз, мярлога, мяцеліца, нагбом, набіць, набухторыць, надтачыць, найміт, наймы, накасацца, напавер, наруга, наскрозь, насуліць, натужыцца, натурлівый, начоўкі, нашкодзіць, недагляд, некалі, немач, нораст, норат, неяк, ніколі, нішто, ножкі, ночвы, нуда, нырэц, нябожчык, нягожа, нізграбный, нязручна, нямыцька, ня руш, няхлюй, нячула, нячутна, пабелка, пабрацім, павадкі, павадыр, паважаць, паваліцца, павучына, пагулянка, падабаць, падвескі, падкасаць, падла, падпасак, падпяразка, падсос, пазычаць, пакуль, пакута, палатно, паліва, палохаць, паляруш, паненка, паніч, пантохля, панчоха, папар, барахвія, парсюк, парэчка, пастка, патрапіць, патроху, пажыліца, пахаваць, пахвіна, паша, пашукаць, пекла, перавясло, пераймаць, пераймо, перакуліцца, перапялёсый, пільна, пільнаваць, піпка, пісклятьі, піхаць, пішчык, плашка, пляменьнік, погань, поклад, поліўка, попел, прабой, пранцы, прасьліца, праца, прачнуцца, праява, прочкі, пруткі, прыгодка, прыгон, прымак, прыпеўкі, прыстаць, прытуліцца, прыхінуцца, прышчэпа, псаваць, птушка, пуга, пукацца, пуня, пупышка, пухавік, пхаць, пытацца, пэцкаль, пэцкаць, пявун, пярвасьцінка, пярун, пярэйма, пячкур, рабін, рагаза, рагатаць, рагулька, радзімец, радзіха, ражкі, разводзьдзе, разор, разувацца, раіць, ракітнік, раньне, расквітацца, распусьнік, растаропіца, ратаваць, розна, розьніца, ростані, рукацца, румза, румзаць, ручнік, рушаць, рыгаць, рыдлёўка, рыкаць, рыштаваньне, рыштаваць, рэдзь, рэзьнік, рэзьніца, саладуха, самахоць, санкі, сачыць, сачэнь, сварыцца, сватаньне, селядзец, сёлета, сівець, сілком, сіляць, сіпатый, сіпець, скаголіць, скапыціцца, скарадзіць, скарадзьба, скасаваць, скварка, скрозь, скрыня, скула, скубсьці, скульле, скурат, слухаць, смага, смажыць, смак, смакаваць, смашна, смык, спадабаць, спазьніцца, спамін, спаражніць, спатыкацца, сплёткі, спрасонку, спрабаваць, спырснуць, ссаць, стадола, стайня, страва, струб, стругаць, стрыкнуць, сукаць, суліць, сумёт, сумяціца, суніцы, супольна, супрадкі, суроцы, сусьветный, сухастой, схапіць, сыравадка, сьвердліць, сьвінакрой, сьвірэпіца, сьвіціцца, сьвякрова, сьвярбець, сьвята, сьмешкі, сьмятана, сьнеданьне, сьніцца, сьцюдзёна, сявалка, сярнічка, сяўба, табака, талака, талерка, тарабаніць, тармасіць, тата, таўчы, торба, торпма, тракт, трапляцца, трасца, троху труна, трусіць, трушком, трыбухі, трываць, трыпутнік, трэскацца, тужыць, туліцца, турыць, тэор, увага, уважыць, увалока, увосень, угінаць, углядацца, угрэцца, удача, узгорак, уздаць, укінуць, улетку, умалот, умесна, упрочкі, уруга, усьмешка, утрата, ухапіць, учыняць, хай, халява, хапацца, хар-

чавацца, хаўрус, хаўтуры, хвароба, хварэць, хліпаць, хлопец, хлюст, хрэсьбіны, хутаць, цадзілка, цаліна, цалком, цапаць, цаца, цацкацца, цмокаць, цыбалка, цыбуля, цыпкі, цыўканьне, чад, чалый чапацца, чапля, чапурыцца, чараўнік, чарка, чарпак, частакол, чвертка, чмурыць, чмыхаць, чупрына, чхаць, чыркануць, шабас, шавец, шалёўка, шальмоўства, шанаваць, шараваць, шастаць, шась, шаткаваць, шашок, швагер, шклянка, шкода, шкодзіць, шкурат, шлындаць, шлякі, шмат, шпак, шпарка, шпонка, шпуляць, шпунт, штукар, шукаць, шула, шумаркаць, шуметнік, шчабодкнуць, шчамель, шчакатаць, шчупак, шчытна, шыба, шыбенік, шэрый, юрыць, юшка, ядун, якатаць, яленец, ятроўка, яшчур.

Вось слоўнічак невельскай „мужыцкай гаворкі". Складаючы слоўнічак, я карыстаўся працай сваіх вучняў і сваёй трыццацігадовай практыкай [17]), а пры вырашэньні пытаньня аб тым, да якой гаворкі аднесьці тое ці іншае слова, кіраваўся беларуска-рускім слоўнічкам М. Гарэцкага і „Толковым словарем живого великорусского языка" В. И. Даля. М. Гарэцкі прызнае ўсе словы, якія мною прыведзены тут, словамі беларускай мовы.

На старонках слоўніка Даля знаходзім 220 слоў з 821 слова нашага слоўнічка. Даль падзяляе словы на словы „наречий": паўночнага ці наўгародзкага, паўднёвага, разанскага, да якога адносіцца і гаворка ўсіх сумежных губэрань, усходняга ці ўладзімерскага, агульнага ўсяму вялікарускаму краю, заходняга, Смаленскага, ад Белай Русі, якая ідзе паласою ўздоўж польскага краю да стыку з Украінай, словы паасобных губэрань, архаізмы, клерыкальныя словы, барбарызмы, словы без тлумачэньняў і іншыя.

Пытаньне аб двох апошніх катэгорыях слоў Даль пакідае адчыненым [18]). „Малая і Белая Русь исключены: это особые наречия" [19]). Далеўскі падзел слоў на „наречия" і гаворкі троху незразумелы і складаны [20]). Неразумела, што Даль разумее пад „наречиями": заходнім і смаленскім? Ці лічыць ён гэтыя „наречия" самастойнымі ці адным і тым самым „наречием"? Яшчэ больш незразумелымі зьяўляюцца межы гэтых „наречий", якія ідуць ад Белай Русі да сутыку з Малай Русьсю. Даль ня прымае пад увагу, што ў склад Беларусі ўваходзілі часткі губ. Смаленскай, Пскоўскай, Цьвярской, Арлоўскай і Чарнігаўскай [21]), але і сам ён прызнае, што Апочка і Вялікія Лукі Пскоўскай губ. належаць Беларусі [22]). Даль сабраў агульна-рускія словы, Зорын прыводзіць агульна-рускія зьявы мовы. Ні Даль, ні Зорын ня кажуць аб тым, хто з народаў зьяўляецца творцай таго ці іншага слова ці зьявы мовы.

Ва ўсякім выпадку Даль, Гарэцкі і Зорын даюць малюнак невельскай мясцовай гаворкі. Тут мы наглядаем скрыжаваньне літаральна ўсіх гаворак б. Расіі з занясеньнем сюды барбарызмаў: слоў францускіх, нямецкіх і татарскіх. Гэткае скрыжаваньне гаворак у Не-

[17]) Нарадзіўшыся ў б. Гарадоцкім павеце, я з 12 гадоў жыў і жыву (з невялікімі перарывамі) у г. Невелі і розных мясцох Невельскага павету (Барысаглеб, Тапары). Словы, зьмешчаныя тут, знаёмы мне з маленства і зьяўляюцца роднымі словамі. Не кажу ўжо аб сялянскіх масах, якія на кожным кроку свайго штодзённага жыцьця ўжываюць гэтыя словы.

[18]) Толковый словарь живого великорус. яз. т. I, стар. XV.

[19]) Там-жа, стар. XXIX.

[20]) Словы Даля зьмешчаны ў заўвагах да артыкулу.

[21]) Белорусский вопрос. Канчер, стр. 23.

[22]) Словарь Даля, т. I—II, стар. XXXV.

вельскім павеце можна растлумачыць гістарычным мінулым Беларусі.

Галоўным фактарам, які спрыяў перанясеньню слоў з аднае мясцовасьці ў другую, я лічу пераважна войны. На працягу некалькіх стагодзьдзяў Беларусь была арэнай крывавых войнаў, у якіх прымалі ўдзел народы поўначы, поўдню і ўсходу б. Расіі. Зусім магчымы той факт, што ў гэты час народы абменьваліся сваімі культурнымі багацьцямі і сярод іх першае месца заўсёды займала мова. Сам Даль не адмаўляе гэтага факту, калі кажа: „Некоторые слова, перешедшие на деле в смежные великорусские области из Малой и Белой Руси, вошли однако и в словарь“ [23]). Але перайшоўшы з Беларусі на поўнач, поўдзень і ўсход б. Расіі, альбо зайшоўшы на Беларусь з гэтых месц, гэтыя словы зьмяняюць свой першапачатковы сэнс, зьмяняюць і форму вымаўленьня. Такія зьмены слоў ёсьць продукт шмат якіх умоў: стану культурнага разьвіцьця народаў, кліматычных і этнографічных умоў, нават спэцыфічных асаблівасьцяй моўнага апарату. Такім чынам, адно і тое самае слова можа быць агульна-прынятым рускім словам, але, знаходзячыся на Беларусі, яно будзе мець мясцовую, беларускую афарбоўку, у Цьверы—цьвярскую і г. д. Возьмем, напрыклад, дзеяслоўныя формы неазнач. ладу. У невельскай гаворцы канчаткі „ть, ться“ чуюцца як ць і цца. У невельскай гаворцы „буй“ азначае адчыненае, узвышанае месца, у Пскоўскай губ. „буй“ і „буево“ ўжываюцца ў невельскім значэньні і маюць мясцовае значэньне „убогий дом, багадельня“; у Цьвярской губ. „буішчам“ завуць выган, месца за ваколіцай; у Валагодзкай губ.—у гульні ў „бабкі“, грань, кон, чур, дом; у Яраслаўскай губ.—гульню дарослых, кайданы, калодку; у вялікарускіх мясцовасьцях „икавка“ азначае назву расьлін: бабашник, толан, лесная кашка, кашник, белоголовник, бель, торица, а ў Невельскім павеце гэта слова азначае „икоту“ [24]). Гэтыя прыклады—не адзіныя, а масавыя: іх можна знайсьці ў слоўніку Даля.

Слоўнічак Гарэцкага выклікаў крытыку: „чаму ў ім шмат чужаземных слоў без перакладу? чаму ёсьць русізмы ды палёнізмы?“ і г. д. [25]). З гэтай крытыкай я не згаджаюся, покуль ня будзе вырашана вельмі цікавае і сур‘ёзнае пытаньне аб мясцовым пахаджэньні слоў.

Кажучы аб невельскай гаворцы, я павінен зрабіць вывад: у невельскай гаворцы ёсьць шмат беларускіх слоў з беларускім вымаўленьнем, альбо „беларусізмаў“, як называе гэтыя словы Зорын [26]). Неабходна адзначыць і той факт, што невельскія сяляне ня лічаць сябе беларусамі. Нагэтулькі задаўлена ў іх беларуская нацыянальная сьвядомасьць, а між тым яны гавораць пабеларуску. У тых мясцох, дзе былі спробы ўвесьці ў вясковых школах беларускую мову, сяляне гаварылі: „на што-ж нам ета беларуская школа, калі мой сын і ў поля ганяючы навучыцца так гаварыць?“ [27]).

Прызнаючы Н. І. Зорына піонэрам у справе навуковага вырашэньня пытаньня аб невельскай гаворцы, аддаючы яго працы сур‘ёзную ўвагу, паколькі гэтая праца выклікала сярод вучнёўскіх мас зацікаўленасьць да гістарычнага мінулага невельскай зямлі, я дазволю сабе згадзіцца ня з Н. І. Зорыным, а з проф. Бузуком, які кажа, што

---

[23]) Словарь Даля, т. I, стр. XXIX.

[24]) Словарь Даля, т. I.

[25]) Практычны расійска-беларускі слоўнік. М. Байкоў і М. Гарэцкі, стар. I.

[26]) Познай свой край, вып. III, стр. 48.

[27]) Нагляданьні кіраўніка краязнаўчага гуртка пры Невельскай школе II ст. З. С. Салаўёва.

„основой языковой стихии в говоре Невольского уезда является стихия белорусская“ [28]). У далейшым сваю думку я буду абгрунтоўваць гістарычнымі данымі, архіўнымі, пісьмовымі помнікамі і помнікамі мясцовай народнай творчасьці.

„Белоруссы составляют коренное население Невельского и Себежского уездов и принадлежат к славянскому племени кривичей“ [29]).

„В эпоху XI и XII столетий говор обитателей Невельской земли был типичным говором кривического племени“ [30]).

„В эпоху XIII и XIV в. в. говор обитателей Невельской земли находился под двумя влияниями—Новгородской и Смоленской земли, причем влияние Смоленской земли как ближайшей и единоплеменной, было значительнее на местное население в этот период, чем в последующие“ [31]).

Невельскі павет уваходзіў у склад Полацкага ваяводзтва [32]). Калі гаварыць аб уплыве Смаленскай зямлі на Полацкую, у прыватнасьці на Невельскую, дык такі ўплыў трэба шукаць у XII ст., калі Полацкія князі залежалі ня толькі ад Смаленску, але таксама ад Кіева і Чарнігава. Прызнаючы вышэйшую ўладу Смаленскага князя, полацкія князі ў нутраным кіраваньні сваімі землямі былі амаль зусім незалежны. Сувязь Полацку з Смаленскам у 1190 г. разрываецца: у гэтым годзе Полацак быў заваяваны Літоўскім князем Мінгайлам [33]). У самым пачатку XIII ст. Вітэнь, Літоўскі князь, заваяваў Полацак. У палове XIII ст., пад кіраўніцтвам Літоўска-Наўгародзкага князя Мендаўга, пляменьнікі яго—Таўтывіл і Вікунт замацаваліся ў Полацку і Віцебску. Таўтывіл ажаніўся з роднай сястрой жонкі Аляксандра Неўскага. У 1263 г. уладаром Полацкай і Віцебскай зямель зьяўляецца Літоўскі князь Гэрдэнь. З 1300 г. Полацак знаходзіцца ў руках Вонна—брата Вітэня і Гэдыміна. Каля 1330 г. у Полацку княжыць Нарымонт, праваслаўнае імя якога Глеб. Затым Полацак перашоў ва ўладаньне Вінгальта, старшага сына Ольгерда Гедымінавіча. У 1318 г. Віцебскі князь Яраслаў Васілевіч аддаў сваю адзіную дачку за Літоўскага князя Ольгерда Гедымінавіча, які жыў у м. Усьвятах (б. Веліскі павет) і пасьля сьмерці цесьця ў 1320 г. у спадчыну ад яго атрымаў яго князёўства. Такім чынам, у 1320 г. і Віцебскае князёўства без вайны далучылася да Літвы [34]). Што-ж датычыцца Ноўгараду, дык ён „являлся колонией полоцких кривичей“ [35]). Раўняць уплыў Ноўгараду на Невельскую зямлю, як колёнію, з уплывам Полацку—цэнтру не выпадае, ды і сам Зорын наўгарадзкаму ўплыву вялікага значэньня не надае. Зусім незразумелым зьяўляецца той факт, чаму Себескі і Вяліскі паветы, паветы беларускія, [36]) асабліва апошні павет, суседні і экономічна зьвязаны з Смаленскай зямлёй, не падпаў пад уплыў Смаленску, а Невельскі павет, параўнаўча больш далёкі ад Смаленску, усё-такі падпаў і перажыў гэты ўплыў. Факт слабога моўнага ўплыву з боку Смаленску і Ноўгараду на Невельскую зямлю констатуе і Даль, калі з 220 слоў

[28]) Познай свой край, вып. III, стр. 48.

[29]) Памятная книжка Витеб. губ. за 1888 г. стр. 29. Вестник Зап. России 1867 г. кн. VIII, т. III, стр. 108. Витебская Старина, т. IV, стр. 3 і др.

[30]) Познай свой край, стр. 51.

[31]) Там-жа, стр. 55.

[32]) Памятная кнжика Витеб. губ. на 1888 г., стр. 3.

[33]) Витебская старина, т. I стр. 561-62; т. V, стр. XVII-XXI; 5.

[34]) Там-жа, т. V, стр. XVII—XXI; т. IV, стр. 5.

[35]) Познай свой край, стр. 51.

[36]) Та м-жа, стр. 49.

прыводзіць 5 слоў смаленскага пахаджэньня і 5 такіх, якія ўжываюцца ў Смаленскай і інш. губэрнях, 2 наўгародзкіх і 8 слоў, блізкіх гаворцы Наўгародзкай і інш. губэрань [37]).

Калі быў-бы ўплыў Смаленскай і Наўгародзкай зямель на Невельскую ў XIII—XIV ст., дык гэта паралізавалася-б тэй сувязьзю, тымі цеснымі ўзаемаадносінамі, якія існавалі між літоўцамі і беларусамі. Літоўцы і беларусы складалі адзін політічны організм [38]), які ўтварыўся на глебе бытавых, экономічных, сямейных і нават моўных сувязяй між гэтымі народамі [39]). У гэтым організьме галоўную ролю ў галіне культуры і асьветы адыгрывалі, паводле слоў Руднева, беларусы і украінцы. „Кодексы, статуты латовские составлены были на языке белорусском, как и литовские летописи. Официальные документы писали также по-белорусски или малорусски, смотря по местности их составления—в Вильне, или на Волыни, или в Киеве" [40]). Думка Руднева ілюструе шэраг докумэнтаў, якія сабраў А. П. Сапуноў у розных архівах і зьмясьціў у „Витебской Старине" т. I і V. Апрача гэтага, у т. V надрукаваны паказчык малазразумелых слоў і выразаў у прыкладзеных актах і докумэнтах з 990 па 1719 г. Тут ўсяго слоў і выразаў 589, з іх 250 беларускіх, іншыя польскія, літоўскія і славянскія [41]).

Беларуска-літоўская стыхія, якая пачала панаваць у беларускім краі ў XIII і XIV ст. у пачатку XV ст. яшчэ больш умацавалася, калі, як кажа Зорын, межы Літвы дасягнулі нябывалых разьмераў [42]).

У канцы XV ст. беларуска-літоўскія хвалі сустракаюцца з моцным уплывам Масквы. Зорын аб гэтым піша: „С конца XV века прекращается всякая опека Литвы над частями Невельской земли, московское влияние, повидимому, утверждается с начала XVI в. в Невельской земле. Только с 1678 г. борьба между Москвой и Литвой в наших местностях склоняется на сторону Литвы и устанавливается здесь довольно продолжительный период (около 100 лет) Польско-Литовского владычества" [43]).

Войны Літвы з Масквой пачаліся яшчэ ў XIV ст. У часе князяваньня Маскоўская князя Івана II (1353-1359) князь Літоўскі заняў гарады: Бранск, Белы і Мсьціслаў, пасунуўшы межы сваёй дзяржавы да Мажайску і нават Калёмны. У склад Літоўскай дзяржавы ў гэты час уваходзілі Ноўгарад, Пскоў, Цьвер і Кіеўская зямля. У 1368-72 г. вялі войны з Масквой літоўскі князь Ольгерд з сынам Андрэем Полацкім і братам Кэйстутам. Пераможцы-літоўцы ня раз даходзілі да Масквы. Сьмерць Ольгерда ў 1377 г. пацягнула за сабою бязладзьдзе ў Літоўскай дзяржаве. За ўладу вядзе барацьбу Ягайла з Кэйстутам і яго сынам Вітаўтам. Ягайла забівае Кэйстута, вытрымлівае змаганьне з Вітаўтам і сам займае літоўскі пасад. Тады Андрэй Полацкі пераходзіць на князяваньне ў Пскоў і робіцца хаўрусьнікам Маскоўскага князя ў яго барацьбе з татарамі. Маскоўскі князь Дзімітры Іванавіч заваёўвае літоўска-беларускія гарады Старадуб і Трубчэўск. Князь Трубчэў-

[37]) Гл. дадаткі.

[38]) Витебская Старина т. V, стр. XXII.

[39]) Белорусско-Литовское Полесье т. VII. Я. И. Руднев. стр. 46, 49, 52. Вестник Зап. России 1867. кн. VII, т. I, стр. 38—47.

[40]) Руднев. стр. 48.

[41]) Витебская старина т. V, стр. 629—643.

[42]) Познай свой край, стр. 56.

[43]) Познай свой край, стр. 57-58, 60.

скі Дзімітры Ольгердавіч пераходзіць на бок Масквы і разам з ёй ваюе з татарамі. Ягайла выступае, як хаўрусьнік татар [44]).

У 1386 г. Літоўска-Беларускае княства злучылася з Польскім крулеўствам, што прывяло да палітычнай уніі трох нязлучымых народаў: беларусаў, літоўцаў і палякаў. Хоць паводле 3 пункту договору між Літвой і Польшчай „внутреннее управление обоих государств было совершенно отдельно; ни в каком случае не смешивать людей Литовского княжества и Польского королевства; житель Московского княжества не имел права занимать должности и селиться в Польше,—поляк в Московском княжестве“ [45]), але Польшча ў хараўсе з літоўскай шляхтай імкнулася разбураць стагодзьдзямі ўтвораны арганізм літоўцаў і беларусаў шляхам пашырэньня каталіцызму ў мэтах быўшае Літоўска-Беларускае дзяржавы. Народныя масы на чале з князямі прыхільнікамі літоўска-беларускай еднасьці, зьяўляюцца ярымі ворагамі меркаваньняў Польшчы. У часы Ягайлы Андрэй Полацкі ўзьнімае ўвесь цяперашні Беларускі край і Літву супроць Ягайлы. Такія паўстаньні адбываліся не адзін раз [46]). У сваёй барацьбе з Польшчаю беларусы і літоўцы шукаюць дапамогі ў Масквы. Каб наладзіць гандлёвыя адносіны з Заходняй Эўропай, Масква пасьпяшае дапамагчы, намагаючыся ў той-жа час заўладаць ракой Заходняй Дзьвіной, якая мае, паводле слоў Грознага, „берега серебряные, а дно золотое“ [47]), заўладаць і горадам Полацкам—ключом Лівоніі і Літвы. Каб адхіліць літоўска-беларускія народныя масы ад Масквы, Вітаўт, як і Ольгерд, дае ім асобнага мітрапаліта. У пачатку XIV і XV ст. ня раз было зьяўленьне двох мітрапалітаў—аднаго ў Кіеве, другова—у Маскве [48]).

Такім чынам, Беларусь і Літва з 1386 г. выступаюць на арэну нутраных бязладзьдзяў і крывавых войнаў з іншымі народамі якія цягнуліся да 1678 г., калі Беларусь на 100 гадоў увайшла ў склад Польшчы.

У гэты пэрыод галоўным момантам у адносінах да Невельскай зямлі зьяўляюцца войны часоў Грознага. Зорын піша: „названные города (Себеж, Велиж, Невель, Завалочье) основаны при Грозном. А основание городов соединялось с переселением сюда более устойчивого населения из центральных областей государства и выселением из таких мест неустойчивого, шаткого элемента“ [49]). Гэту „ўпартую“ думку Зорына разьбівае віцебскі гісторык Семянтоўскі, які кажа, што Себеж існаваў у 1414 г., што Невель і Вяліж заснаваны літоўцамі і што ў гэтых гарадох Грозны пабудаваў толькі ўмацаваньні [50]). З поглядам Семянтоўскага сходзяцца весткі летапісаў з часоў цара Івана Грознага 1535-1580 г. Там мы знаходзім наступныя запісы аб пабудове Себежа і Веліжа: „Ив. Н. Бутурлин, по вел. князя велению город землен на озере Себеже поставил; почал его делати июля в 29 день; даделаша его того як лета месяца июля в 20 день. И устроил его пушками и пищальми, и всем народом, и запасом хлебным, как ему можно быти“.

---

[44]) Витебская старина , т. IV стр. 6-8.
[45]) Там-жа, стр. 9.
[46]) Витебская старина , т. IV, стр. 16.
[47]) А. Сапунов. Река Зап.-Двина, стр. 49.
[48]) Витеб. старина, т. V, стр. XXVII.
[49]) Познай свой край, стр. 59.
[50]) Памятная книжка Витебс. губ. на 1864 г. стр. 117, 142, 170.

„В лето 7044 (1536) апреля в 19 день князь вел. Иван Васильевич и мати его великая кн. Елена велела поставати город в Торопецком уезде на Велижском городище город Велиж; и доделаша месяца июля, в третие лето государства его. И Боскиею милостью великий государь Иван Васильевич всей руси и его мати великая кн. Елена послали из Велижа Литовския земли воевати воевод сваих кн. Ивана Ив. Барбашинна и иных своих воевод“ [51]).

Натуральна, што ў адзін—тры месяцы пабудаваць гарады нельга, ды і самыя летапісы паказваюць, што ўмацаваньні Себежа і Вяліжа пабудаваны былі выключна па стратэгічных меркаваньях [52]).

Грозны пабудаваў на літоўскай граніцы не 4, а 8 умацаваньняў: Себеж, Вяліж, Невель, Завалочча, Усьвят, Улу, Сокал, Коппе [53]). Чаму Зорын прыпісаў „переселение и выселение“ Невелю, а не якому-небудзь іншаму з пералічаных гарадоў—невядома. Наадварот, географічныя і гістарычныя даныя кажуць за тое, што „переселение и выселение“ Грозны думаў зрабіць у Себежы. Себеж—першы горад на літоўскай граніцы, які адчыняў шлях на Полацак. З гэтае прычыны Сабеж і трэба было ўмацаваць Грознаму. У Себежы, апрача ўмацаваньняў, былі пабудаваны і цэрквы, як відаць для таго, каб лягчэй было перасяліць сюды праваслаўных маскоўцаў. „Город был заложен в Петров день (1535 г.), а кончен 25 июля. Затвориша его и освящаша церкви Усекновения главы св. Иоанна, да предел св. Николы, да царя Константина, а священников трех паслана из Пскова... и князь великий приказал архиепископу Макарию священников соборных туда послати, а самому имя граду нарещи и Макарий имя нарек Иван-город на Себеже“ [54]). Як толькі пабудавалі ўмацаваньне ў Себежы, дык кароль польскі Жыгімонт 27 лютага 1536 г. абвясьціў Грознаму вайну за сьмела і хутка збудаванае ўмацаваньне. Вайна гэтая скончылася на карысьць Масквы, але пытаньне аб Себежы, аб тым, каму ён павінен належаць—Маскве ці Польшчы—дыплёматычным шляхам і са зброяй у руках—вырашалася да 1686 г., калі Себеж канчаткова быў зацьверджаны за Польшчай [55]). Такім чынам, этнографічны востраў ствараўся ў Себежы а ня ў Невелі, але і там ён ня мог стварыцца, бо гэтаму перашкаджала Польшча.

З 1618 г. да 1678 г. Невель знаходзіўся пад уладай Масквы 26 год, а пад уладай Польшчы 34 г. [56]). Калі прыняць пад увагу, што горад Невель пабудавалі ў канцы XV ст., а невельскае ўмацаваньне каля 1560 г. [57]), дык паўднёва-вялікаруская хваля за 26 гадоў не магла пакінуць у невельскай гаворцы глыбокіх сьлядоў: яна магла ўнесьці русізмы ў беларускую гаворку Невельскай зямлі, але перарабіць яе ў паўднёва-вялікарускую, бязумоўна, ня мела моцы.

Па пытаньні аб тым, ці захавалася беларуская гаворка на Беларусі на працягу польскага панаваньня, ёсьць два погляды: Зорына і Канчара. Зорын хацеў-бы вырашыць гэтае пытаньне ў станоўчым сэнсе, „если бы белорусский язык попрежнему и в этот период, как и в

---

[51]) Витебская Старина, т. IV, стр. 6-7.

[52]) Аб пабудаваньні Невеля, як умацаванага гораду, апрача духоўнай Грознага, іншых гістарычніх даных няма. Пам. книжка Вит. губ. на 1864 г. стр. 142.

[53]) Витеб. Старина. т. IV, стр. 35.

[54]) Памятн. книжка Витеб. губ. на 1864 г. стр. 142.

[55]) Памятн. книжка Вит. губ. на 1864 г. стр. 171—2.

[56]) Познай свой край, стр. 60.

[57]) Памятная книжка Вит. губ. на 1864 г. стр. 142.

литовский, оставался языком оффициального употребления, если бы не было время от времени прилива сюда (Невельскі павет) восточных элементов, еслиб власть польско-литовского государства продолжалась здесь более длительный период, но так как этих условий не было, то белорусский язык с XVI в. вытесняется из оффициального употребления польским языком и тем ослабляется его распространение в население" [58]). Мотывы для свайго погляду Зорын узяў гістарычна няпэўныя. Прыліў у Невельскі павет усходніх элемэнтаў адбываўся, але не ў такіх разьмерах, як думае Зорын: „Этих старообрядцев много и теперь в Невельском уезде—в Маевской, Долысской, Новохованской и Изочанской волостях, ими населены целые деревни" [59]). У Невельскім павеце ў 1862 г. было насяленьня 68671, з іх старавераў 2590 чалавек [60]), у 1866 г. насяленьня было 91859, з іх старавераў 4087 [61]), % старавераў у Невельскім павеце заўсёды быў нязначны.

А з панцырнымі баярамі ў Зорына вышаў гістарычны абсурд. Зорын вядзе род панцырных баяр ад маскоўскіх „подмигателей и гультяев" [62]). Не „подмигатели гультяи" былі продкамі панцырных баяр, а „коренное белорусское население, крестьяне волостей Непоротовской и Езерийской около почтовой станции Заречы Себежского и Гультяевской Невельского уездов. Учреждение „панцырных бояр" принадлежит польским королям, которые в давно прошедшие времена, ради усиления военных сил, населяли на свободных землях по границам Великого Княжества Литовского с Московским государством „земли сельских мещан и вольных людей" с тем условием, чтобы они, пользуясь бесплатно землею и другими правами, по долгу присяги и добровольно принятому на себя званию, отправляли военную службу, состоя под распоряжением властей местных замков. Обязанность „панцырных бояр" состояла в том, чтобы они во всякое время были готовыми выступить на войну, для которой должны были иметь доброго коня с седлом, панцырь, шлем с наличником, меч или корд, копье, цветное платье, навезя и шпоры" [62]).

Маскоўскія „подмигатели" і вольніца, якая шукала розных прыгод, як відаць, перасяляліся ў Невельскі павет у XVIII ст. Так прынамсі можна меркаваць з контэксту мовы Зорына. „Они записывались в качестве вольных людей в панцырные бояре, оберегавшие за определенную плату пределы польского государства. Такими „гультяями" населен теперь целый Гультяевский сельсовет Чарняцоўск. валасьці. Некоторые из них до самых дней революции хранили грамоты, жалованные королем Сагизмундом их предкам за разные услуги, оказанные государству" [63]). А раней Зорын казаў: „таких мигачей не мало в теперешней Чернецовской и Маевской волостях". Дзе-ж аселасьць панцырных баяр? Гульцяеўскі с.-с. Чарняцоўскай вол. ці таксама і Маеўская валасьць? Як відаць, і Зорын схіляецца да таго, што панцырныя баяры жылі толькі ў Гульцяеўскім с.-с.; а Маеўскую валасьць Зорын памянуў як відаць для таго, каб павялічыць колькасьць вялікарусаў у Невельскім павеце ў XVIII ст. Таксама спрэчным зьяўляецца пытаньне аб часе перасяленьня панцырных баяр у Невельскі павет. Ка-

---

[58]) Познай свой край, стр. 61.
[59]) Там-жа, стр. 61.
[60]) Памятная книжка Вит. губ. на 1864 г., стр. 198, 202.
[61]) Памятная книжка Вит. губ. на 1888 г. стр. 164. 170.
[62]) Памятн. книжка Вит. губ. на 1888 г. стр. 30—31.
[63]) Познай свой край, стр. 61.

жучы аб зьяўленьні стараверaў у Невельскім павеце ў 1765 і 1767 г., Зорын кажа: „сюда бежали из Московских пределов опальные лица“... („подмигатели“ і вольніца), а ніжэй кажа[64]), што продкі панцырных баяр мелі граматы ад караля Зыгмунта. Выходзіць супярэчнасьць: патомкі панцырных баяр перасяліліся ў Невельскі павет у XVIII ст., а продкі іх атрымалі граматы ад караля Зыгмунта, але-ж якога? Зыгмунт I быў каралём польскім з 1501 па 1548 г.[65]), Зыгмунт II Аўгуст з 1526—1572 г. і Зыгмунт III з 1586 па 1632 г.[66]). Супярэчнасьці Зорына высьвятляюцца гістарычнымі данымі аб панцырных баярах. У Памятнай кніжцы Віцебскай губ. за 1888 г. чытаем: „королевскою грамотою 1547 г. панцырным боярам предоставлены были следующие права: 1) без суда они не могли быть наказываемы; 2) за ними оставлялись имения, дарованные прежними королями; 3) вдовам умерших бояр дозволялось владеть мужниным имением до второго их замужества; при вступлении же во второй брак, оставлять себе только то, что по завещанию мужа ей записано, а остальное отдавать детям, братьям или ближним родственникам умерших; 4) запрещалось брать с них подводы, лошадей и самих употреблять в какую-либо службу, кроме военной; 5) дозволялось заниматься ремеслами, промыслами и торговлей наровне с купцами и мещанами; 6) пожалованные со времен короля Казимира, дворами пользовались правом иметь слуг и селить людей. 7) продать имение панцырный боярин мог, только не иначе, как с королевского на то соизволения.—Эти права подтверждены многими грамотами, до Станислава Августа (1764 г.) включительно“[67]).

Полацкі ваявода Андрэй Сапега запісам аддаў панцырным баярам „войтовство Непоротовское“ (Себескага пав.) у спадчыннае ўладаньне з умовай, каб яны, замест усіх падаткаў, выконвалі вайсковыя абавязкі. У 1772 г. панцырныя баяры былі записаны ў якасьці сялян „Дварцовай“ канцэлярыі. Згодна граматы, якую яны атрымалі ў 1667 г. ад цара Ляксея Міхайлавіча, панцырныя баяры названы панцырнымі казакамі з правам уладаць усімі землямі, якія былі ў іх. Прымаючы пад увагу гэтую грамату, Сэнат у 1780 г. вынес пастанову: „всех, доказавших о панцырном своем боярстве, оставить при собственности владеемых ими земель и при их привилегиях, с платежом податей, как с казаков, и впредь зависеть от нижних и верхних расправ; людям же, живущим на землях панцырных бояр, но не доказавших от них своего происхождения, остаться попрежнему в числе дворцовых крестьян и на том самом положении, на каком состояли и ныне состоят“[68]). У 1840-74 г.г. Урад прызнаў сялян Непаротаўскай, Езяройскай і Гульцяеўскай валасьцёў уласьнікамі заселеных імі зямель[69]).

Іншыя мотывы, як мотывы аб вельмі доўгім пэрыодзе польска-літоўскага панаваньня на Беларусі і аб уплыве на беларускую мову польскай мовы, мала пераканаўчы. З гэтае прычыны зусім згодзен з довадамі, якія, па думцы Канчара, падкрэсьліваюць захаваньне беларускай мовы ў пэрыод польскага панаваньня: „во-первых, поляки не сумели целиком провести среди белорусского крестьянства польское народное просвещение; во-вторых, ни белорусская, ни польская шлях-

64) Познай свой край, стр. 22.
65) Там-жа. стр. 27—31
66) Там-жа, стр. 48.
67) Памятная книжка Вит. губ. 1888 г. стр. 31—32.
68) Витебск. старина т. IV, стр. 15, т. I, стр. 574.
69) Памятн. книжка Вит. губ. 1888 г. стр. 31—32.

та не сумела увлечь за собою крестьянство, которое, потеряв свою интеллигенцию, как бы стихийно решило итти одним своим собственным путем—путем белорусской самобытности; в третьих, католичество, оказавшись привилегией для высших классов, мало дало для трудового класса, оно не сумело православных обратить в свою веру—убедить крестьян в необходимости подчинения римскому папе в и то же время его варшавскому наместнику—польскому королю".

„Разброд мыслей, борьба партий, упадок национального чувства, потеря веры в свои собственные силы и искательство чужого покровительства, воцарившееся в Белоруссии, позволили усилившейся к концу XVIII в. России сделать нападение на Польшу, чтобы освободить Белоруссию от полонизации и католичества" [70]).

У 1772 г. Беларусь перайшла да расійскай імпэрыі. Малюнак парадкаў пры новых гаспадарах Канчар дае такі: „то, что было не русское,—травилось, падвергалось гонениям и искоренениям. Травились евреи, литовцы, поляки. Травились белоруссы, когда они называли себя белоруссами. Известно что Екатерина II, уступая общественному мнению, при первом разделе Польши из Восточной Белоруссии образовала „Белорусскую губернию". В Белорусской губернии еще можно было называться белоруссом, можно было говорить и писать на белорусском языке, даже и не без опаски. Но в дальнейшем Белорусская губерния была раскассирована. Язык, литература белорусская запрещены. Мало по малу исчезло слово „Белоруссия" [71]).

Вядучы цкаваньне яўрэяў, палякаў, літоўцаў і беларусаў, царскі ўрад вёў працу ў 3-х напрамках: замест каталіцтва ён пашыраў праваслаўе, замест полёнізму—царызм, заместа польскай мовы—вялікарускую. У першую чаргу ўрад ліквідуе сьляды Берасьцейскай вуніі, пераганяючы беларускія народныя масы з каталіцтва ў праваслаўе. Уніяцкае пытаньне на Беларусі канчаткова вырашаецца ў 70 гадох XIX ст. [72]).

4/IV—1831 г., пасьля першага польскага паўстаньня выдаецца царскі закон аб выкарчаваньні полёнізму і русіфікацыі губэрань, якія зьвернуты ад Польшчы [73]). А фактычна русіфікацыя Беларусі пачалася пасьля 1863 г., пасьля трэцяга польскага паўстаньня. Я ня буду прыводзіць гісторыю русіфікацыі Беларусі: яе можна чытаць у многіх аўтараў [74]). Неабходна высунуць іншае пытаньне—пытаньне аб тым, ці захавалася ў Невельскім павеце беларуская гаворка ў пэрыод русіфікацыі Беларусі і на гэта пытаньне даць станоўчы адказ: так, захавалася!

---

[70]) Канчер. Белорусский вопрос. стар. 17—18. Параўн. Прот. Г. Шавельский. Послед. воссоединение с прав. церковью униатов Белорусск. епархии (1833—39 г.), 1910 г. стр. 37—39. Шавельскі літаральна паўтарае думку Канчара, калі кажа аб становішчы беларускіх уніятэў перад іх далучэньнем да праваслаўя.

[71]) Канчер. Белорусский вопрос, стр. 19 - 20

[72]) Уніяцкае пытаньне дасьледвана гісторыкамі: М. Каяловічам („История воссоединения западно-русских униатов старых времен, СПБ 1873 г."), Г. Шавельскім („Последнее воссоединие с прав. церковью униатов белорусской епархии") 1833—39, СПБ 1910 г.) і В. Шавельскім („Отношение р.-католичества к унии в восточной Белоруссии в первой половине XIX в. Петроград 1918 г. Праца захоўваецца ў рукапісах.

[73]) Очерк истории народного образования в России до эпохи реформы Александра II, стр. 226.

[74]) Проф. У Ігнатоўскі. Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX ст. Менск 1926 г. стр. 71—77; 144--152. Очерк народного образования в России до эпохи рэформы Александра II. Составил С. А. Князьков и Н. И. Сербов. Москва, стр. 222—237. Вестник Зап. России 1867 г. кн. IV, т. II, стр. 92—93; кн. VII, т. I стр. 1—9. стр. 68—72 і др.

Першы настаўнік Іванаўскай народнай школы, поп К. Сярэбранікаў, з вяліскіх сялян, які скончыў Пецярбурскую дух. сэмінарыю і прыймаў актыўны ўдзел у русіфікацыі свайго раёну, у іванаўскім царкоўным летапісу за 1868 г. пакінуў такую сваю нататку: „учение начато в Ивановском училище 16 сентября. Поступивших мальчиков было до 30 и 2 девочки. Усердия учащиеся выказывали достаточно, но по природной своей тупости оказавали успехи небольшие, кроме некоторых, наиболее развитых и приспособившихся к русскому выговору вместо мужицкого белорусского“ [75]).

Іванаўскі прыход—цэнтр Невельскага павету, знаходзіцца ў 7 в. ад г. Невеля. Іванава—б. маёнтак беларускага генэрал-губарнатара І. Міхельсона. Калі ў 1867 г. сярод іванаўскіх сялян выключнае пашырэньне мела беларуская мужыцкая гаворка, дык што трэба сказаць аб іншых, больш глухіх кутках Невельскага павету?

Праз 20 гадоў мы знаходзім помнікі народнай творчасьці невельскіх і себескіх беларусаў, пмнікі, якія відавочна гучна протэстуюць супроць русіфікацыі Беларусі. У „Памятной книжке Витеб. губ. на 1888 г.“ мы знаходзім апісаньне абрадаў і звычаяў невельскіх і себескіх беларусаў, прыводзіцца цэлы шэраг народных песень, зьвязаных з гэтымі абрадамі і звычаямі. Сярод песень шмат вясельных.

З 1888 г. мінула 40 гадоў. За гэты час нацыянальны твар насельніцтва Невельскага павету яскрава зьмяніўся: ён выглядае вялікарускім.

Прычыну гэтага Н. І. Зорын бачыць у экономічным цягненьні насяленьня да Ленінграду. Але і тут Зорын згушчае фарбы: „уже в самом начале XIX в., по местным сведениям, толпы невелян, не будучи в состоянии найти заработка на месте, устремляются в тогдашний Петербург. В половине XIX ст. эти толпы растут“ [76]). Факт бязумоўна няверны, перададзены па неправераных мясцовых вестках. У 1888 г. „отхожие промыслы“ былі вельмі нязначны; яны пераважна концэнтраваліся ў Пецярбурзе на канатных і цагельных заводах [77]), а в начале XIX в. магчыма, такіх адходных заняткаў і зусім ня было, бо фабрычна-заводзкая прамысловасьць Ленінграду ў гэты пэрыод не нагэтулькі была разьвіта, каб магла прыцягваць масы невельцаў, якія павінны былі брысьці да Леніграду пехатой ці на канёх. Адліў невельскага насельніцтва ў Ленінград наглядаецца ў пачатку XX ст. калі праз Невель у Ленінград была праведзена чыгунка [78]). Сувязь з Ленінградам, запраўды, „выклікала новыя інтарэсы ў насяленьня Невельшчыны [89]). Яна паглыбіла русіфікацыю ў Невельскім павеце.

---

[75]) Памятная книжка Витеб. губ. на 1888 г., стр. 40—46.

[76]) Там-жа, стр. 54—55. Можна зрабіць такую заўвагу: народныя песьні невельскіх і себескіх беларусаў маюць малую навуковую вартасьць, бо не паказана іх топографія. Зьбіральнік песень, бязумоўна, не прадбачыў, што ў будучым булуць спрэчкі аб нацыянальным твары Невельскага павету. Як відаць, ён хацеў дасягнуць іншай мэты—выказаць у друку протэст супроць русіфікацыі Невельскага павету і ня лічыў неабходным прыводзіць і топографію песень, тым больш, што думка аб беларускім складзе насяленьня Невельскага павету ў 1888 г. лічылася аксыёмай і не выклікала спрэчак. Довадам гэтаму ёсьць і нататкі К. Сярэбранікава. Ды і сам Зорын, публікуючы прыпеўкі, якія сьпяваюць у Ізочынскай і Урыцкай валасьцёх, не паказвае, на жаль, дакладнай топографіі прыпевак. Гл. Познай свой край, стр. 63.

[77]) Познай свой край, стр. 62.

[78]) Памятная книжка Витеб. губ. на 1888 г., стр. 38.

[79]) Незразумела лічба 16000 чалавек: у год эмігравала па 16000 чал. ці за ўвесь час ад пабудовы чыгункі і да сучаснага моманту.

Паглыблялі і паглыбляюць у Невельскім павеце русіфікацыю і іншыя прычыны: 1. разьвіцьцё адукацыі і асьветы. Даль кажа: „адукацыя і асьвета сьціраюць розьніцу між гаворкамі“ [80]). Школа ў Заходнім краі з 1831 г. была праваднікам ідэй русіфікацыі. У 1888 г. народных і іншых школ у Невельскім павеце было 22[81]). На абшары б. Невельскага павету цяпер ёсьць 2½ РВК: Невельскі, Парэчаўскі, частка Пустошынскага і частка Сакольніцкага; на абшары Невельскага РВК у пачатку 1928 г. было 104 школы ўсіх тыпаў. З прычыны таго, што Невельскі павет знаходзіцца ў складзе РСФСР, дык русіфікацыя Невельскагага павету праз школы праводзіцца ў значна большых разьмерах, чымся пры цары. Адгэтуль зусім зразумелымі зьяўляюцца адносіны сялянскіх мас да беларускай мовы і беларускай школы. Невельскія сяляне беларускую мову яшчэ дагэтуль лічаць мужыцкай гаворкай, гэтую гаворку яны ня любяць, усю перавагу аддаюць вялікарускай мове і не жадаюць сваіх дзяцей навучаць у беларускай мове. Беларусізацыя Невельскага павету пакуль што дае вельмі слабыя ўсходы.

2. Вайна 1905 і 1914 г. г. У гэты пэрыод шмат насельніцтва Невельшчыны было на франтох. У пачатку XX ст. невельскае насяленьне ўжо было больш-менш культурным, а часам і пісьменным. У гэты пэрыод яно магло з большым посьпехам, як раней, разьбірацца ў розных зьявах мовы. Адчынялася, такім чынам, большая прастора для абмену культурнымі багацьцямі між народамі.

**М. Дабратворскі.**

# Нашы чмялі.

Чмялі належаць да тых нямногіх шасьціножак, якія зьяўляюцца для нас вельмі карыснымі, бо ад іх залежыць ураджай насеньня канюшыны, і яны, пакуль што, зьяўляюцца яе галоўнымі запылкавацелямі. Я зараз ня буду спыняцца на сельска-гаспадарчым значэньні чмялёў (аб гэтым я пісаў ужо ў мінулым годзе. „Наш Край“ № 5), а разгледжу іх з фаўністычнага боку.



Чмель; а—галава, б—грудзі, с—чэраўца, 1-6—сэгмэнты чэраўца.

Да гэтага часу ў нас на Беларусі знойдзены 23 віды чмялёў, з якіх толькі 12 зьяўляюцца ўсюды больш-менш звычайнымі; іншыя альбо наогул сустракаюцца рэдка, як напрыклад: *jonellus, schrencki, hypnorum, confusus, superequester* і *pratorum,* некаторыя-ж на поўначы могуць сустракацца часта, а на поўдні рэдка і наадварот, так напрыклад: *derhamellus rossicus, distinguendus, eguester* на поўначы Беларусі звычайны, а на поўдні рэдкі; *ruderatus, terrester*—на поўдні часты — на поўначы

80) Познай свой край, стр. 62.
81) Словарь великорус. живого языка, т. I, стр. XXIX.
82) Памятная книжка Витеб. губ. на 1888 г., стр. 52, 55, 59—60, 68—72.

вельмі рэдкі. Тыповы *derhamellus* часта сустракаецца толькі ў заходняй частцы.

Некаторыя віды сустракаюцца як-бы спорадычна, так напрыклад: *helferanus* толькі ў Прапойскім раёне сустракаецца часта; *pomorum* знойдзены толькі ў Менскім раёне, у гэтых мясцовасьцях яны трапляюцца ня рэдка.



Галава чмяля, 1—лоб, 2—складанае вока, 3—простыя вочы, 4—вусік, 5—clypeus, 6—шчака, 7—верхнія сківіцы.

Вельмі цікавым зьяўляецца знахаджэньне ў нас *schrencki* і *superequester*, гэта жыхары поўначы і галоўным чынам Сібіры, у нас яны сустракаюцца вельмі рэдка і, як відаць, маюць тут сваю мяжу пашырэньня на захад.

Далей я зьмяшчаю табліцу для азначэньня нашых чмялёў і сыстэматычны сьпіс з паказаньнем пашырэньня паасобных відаў на Беларусі, на жаль, пакуль што гэтыя весткі зьяўляюцца няпоўнымі, бо адсутнічаюць матар'ялы з шэрагу месц, асабліва з паўднёвай часткі Беларусі.

Сыстэматыка чмялёў вельмі цяжкая, бо яны надта моцна вар'іруюць у афарбоўцы і часта бывае так, што адзін від мае вельмі рознастайны надворны выгляд (напр.: *derhamellus, helferanus)*, а розныя віды вельмі адзін да аднаго падобны (напр.: *lapidarius-confusus, terresterlucorum, hortorum-ruderatus-jonellus)*, вось чаму цяжка скласьці табліцу для азначэньня чмялёў карыстаючыся толькі аднэй афарбоўкай іх.

Для больш дакладнага азначэньня чмялёў патрэбны оптычныя прылады, як сільна павялічваючая лупа, або бінакуляр, якіх большасьць нашых краязнаўцаў ня мае, вось чаму я памагчымасьці абмяжоўваўся выключна прыметамі, якія можна разгледзець бяз гэтых прылад, або маючы невялічкую лупу.



Задняя нага чмяля;
1. Кошычак.

Лягчэй азначыць вялікую колекцыю, бо тады можна рабіць параўнаньні тых ці іншых прымет, што немагчыма, калі азначаюцца толькі некалькі экзэмпляраў [1]).

## Табліца для азначэньня самак і рабочых [2]) сямейства чмялёў (Bombidae).

1. Грудзі зьверху ўсе чорныя, рэдка з дамешкай сьветлых валасоў . . . . . . . . . . . 2

---

[1]) Азначаных чмялёў можна пасылаць на праверку па адрасу: Менск, Зоолёгічны Музэй Інстытуту Беларускае Культуры.

[2]) Самцоў лёгка адрозьніць па наступных прыметах: 1) вусікі ў самцоў значна даўжэйшыя чым у самак і рабочых, 2) самцы ня маюць джгала, 3) апошні сэгмэнт у самцоў тупы, а ў самак і рабочых трохкутны.

— Грудзі ўсе ці часткай сьветлыя . . . . . . . 7
2. Чэраўца двукаляровае . . . . . . . . . . 3
— Чэраўца трохкаляровае. Грудзі чорныя, часам сьпераду з дамешкай жоўтых валасоў. Чэраўца чорнае, на 2 сэгмэнце жоўтая паласа, канец белы.
**T. terrester** (L.) var. **cryptarum** (F).
3. Кошычак чорны (часам канцы валасоў сьветлыя) . . 4
— Кошычак з рыжых валасоў; грудзі пакрыты няроўнымі валасамі. Увесь чорны за выключэньнем 3 апошніх сэгмэнтаў чэраўца, якія чырванавата-рыжыя
**A. derhamellus** (K.).
4. Канец чэраўца чырвоны . . . . . . . . . 6
— Канец чэраўца рыжы . . . . . . . . . 5
5. На галаве сьпераду чорныя валасы. Аснаваньне чэраўца чорнае 2—6 сэгмэнты рыжыя. Грудзі чорныя, часам сьпераду і ззаду больш ці менш з дамешкай сьветлых валасоў.
**F. pomorum** (Panzer).
— На галаве сьпераду валасы сьветлыя. Па афарбоўцы падобны да папярэдняга.
**A. helferanus** (Seide) var. **tristis**.
6. Валасы даўгія, увесь чорны, канец чэраўца чырвоны.
**L. lapidarius** (L.).
— Валасы кароткія, аксамітаватыя, як-быццам, падстрыжаныя. Падобны да папярэдняга. 2—5 сэгмэнты чэраўца зьнізу з рыжымі расьнічкамі.
**C. confusus** (Schenck).
7. Грудзі б. ці м. з чорным (чорныя валасы рэзка аддзелены ад сьветлых) . . . . . . . . . 12
— Грудзі аднакаляровыя, сьветлыя, ці пакрыты мешанінай чорных і сьветлых валасоў . . . . . . . 8
8. Канец чэраўца рыжы ці жоўты, часам белаваты, але тады з 3 радамі чорных валасоў . . . . . . . 9
— Канец чэраўца чыста белы. Грудзі аранжавыя ці чырванавата-рыжыя. Чэраўца чорнае, першы сэгмэнт часта з рыжымі валасамі. **P. hypnorum** (L.).
9. Чэраўца пры аснаваньні ці пасярэдзіне чорнае. . . 10
— Чэраўца бяз чорных палос . . . . . . . . 11
10. Грудзі ўсе рыжыя, таксама і канец чэраўца. 1 сэгмэнт з сьветлымі, 2 і 3 з чорнымі, астатнія з рыжымі валасамі.
**A. agrorum** (F.).
— Кожны сэгмэнт чэраўца ад 3 да 5 мае па чорнай і жоўтай ці белаватай палосцы. **A. schrencki** (F. Mor.).
11. Грудзі зьверху ярка аранжавыя, чэраўца жоўтае. Валасы вельмі роўныя, як-быццам падстрыжаныя.
**A. muscorum** (F.).
— Вельмі разнастойнай афарбоўкі, адрозьніваецца ад папярэдняга прысутнасьцю чорных валасоў на грудзях і няроўнымі валасамі. **A. helferanus** (Seidl).
12. Чэраўца б. ці м. з чорным . . . . . . . . 13
— Чэраўца ўсё сьветлае, рэдка з радамі чорных стаячых валасоў . . . . . . . . . 23

13. Вяршыня чэраўца белая . . . . . . . 14
— Вяршыня чэраўца жоўтая ці рыжая . . . . . 21
14. Грудзі толькі сьпераду з сьветлай паласой . . . 15
— Грудзі таксама і, ззаду з сьветлымі валасамі . . . 18
15. На грудзях жоўтая паласа, яна не працягваецца на бакі . 16
— Жоўтая паласа з сьпінкі працягваецца на бакі і займае больш 1/3 іх. Канец чэраўца толькі ў сьвежых экзэмпляраў ружаватага колеру.
**T. audax** (Haris.)
16. Першы сэгмэнт чэраўца без дамешкі жоўтых валасоў . 17
— Першы сэгмэнт чэраўца з дамешкай жоўтых валасоў. Чорны, грудзі сьпераду і 2 сэгмэнт чэраўца з жоўтай паласой. У сьвежых экзэмпляраў на мяжы чорнага і белага ружовая паласа. Канец чэраўца зьнізу з ружовымі расьніцамі.
**S. soroënsis** (F.). **laetus** (Schmidkn.).
17. Паласа на грудзёх і на 2 сэгмэнце чэраўца сьветла-жоўтая.
**T. lucorum** (L.).
— Гэтыя палосы рыжавата-жоўтыя.
**T. terrester** (L.).
18. Валасы даўгія б. ці м. няроўныя . . . . 19
— Валасы кароткія аксамітаватыя. Чорны, на грудзёх сьпераду жоўтая паласа, ззаду з дамешкай жоўтых валасоў. Вяршынны край 2 і 3 сэгмэнтаў з сьветлымі валасамі. Канец чэраўца белы.
**S. subterraneus** (L.) **latreillellus** (Kirby).
19. Шчокі даўгія г. з. даўжыня больш шырыні ў 1½—2 разы. 20
— Шчокі кароткія, квадратныя. Невялікі від (18—20 м. м.). Чорны, грудзі сьпераду, ззаду і 1 сэгмэнт чэраўца жоўтыя; канец чэраўца белы. Кошычак рыжаваты.
**P. jonellus** (K.).
20. Шчокі даўгія. Вялікі від. Афарбоўка такая самая, як і ў папярэдняга. **H. hortorum** (F).
— Адрозьніваецца ад папярэдняга, больш шырокай чорнай паласой на чэраўцы і больш роўнымі валасамі.
**H. ruderatus** (F.).
21. Грудзі сьпераду і ззаду з сьветлымі валасамі . . . 22
— Грудзі толькі сьпераду, а таксама часам, і другі сэгмэнт з цытрынава-жоўтымі валасамі.
**P. pratorum** (L.).
22. Рыжыя валасы, якія пакрываюць апошнія сэгмэнты чэраўца, па краёх сьветлыя; чорная паласа на чэраўцы вузкая. Грудзі сьпераду і ззаду, аснаваньне чэраўца пакрыты шэрымі валасамі, часта з зеленаватым адценьнем.
**A. silvarum** (L.).
— Грудзі сьпераду і ззаду, аснаваньне чэраўца пакрыта сівымі ці гразнаватымі валасамі. Чорная паласа на чэраўцы больш шырокая, чым у папярэдняга віду. Кошычак з чырвоных валасоў.
**A. derhamellus** (K.) subsp. **rossicus** Skor.
23. 3—5 сэгмэнты чэраўца бяз чорных шчацінак . . 25
— 3—5 сэгмэнты з радамі чорных шчацінак . . . 24
24. З бакоў 2 сэгмэнту няма вучасткаў з чорнымі валасамі. 3—5 сэгмэнты чэраўца з радамі чорных шчацінак (па 1 радку на

кожным), утвараючых няясныя поласы. Шэры ці з жоўтавата-зялёным адценьнем. Паміж крыльляў расплыўчатая чорная паласа. **A. equester** (F.).

— Падобны да папярэдняга, але з бакоў 2 сэгмэнту ёсьць вучастак з чорнымі валасамі.
**A. superequester** (Skor.).

25. Кошычак з чорных валасоў. Зеленавата-жоўты, паміж крыльляў рэзкая чорная паласа.
**S. distinguendus** (F. Mor.).

— Кошычак з сьветлых валасоў. Па афарбоўцы падобны да папярэдняга, часта шэры. Паміж крыльляў чорная пляма, велічыня якой вельмі зьменная.
**A. laesus** (F. Mor.) **mocsaryi** (Kriechb.).

## СЫСТЭМАТЫЧНЫ СЬПІС НАШЫХ ЧМЯЛЁЎ.

### Bombidae.

### Agrobombus *(Vogt).*

1. **A. laesus mocsaryi** (*Kriechb.*)
Тыповая форма ў нас не сустракаецца, яе замяняе падвід *mocsaryi* Даволі звычайны від, толькі ў Віцебшчыне і Полаччыне сустракаецца рэдка. Гнёзды робіць як падземныя, так і наземныя.
2. **A. derhamellus** (*K*).
Гэты від у нас вельмі зьменны ў афарбоўцы і прадстаўлены, як тыповай формай, якая ўся чорная, толькі канец чэраўца мае чырвоны, так і падвідам *rossicus Skor.*. Сустракаюцца экзэмпляры прамежныя паміж гэтымі формамі, так што можна прасачыць, як з тыповай афарбоўкі ўтвараецца афарбоўка падвіду, так, напр. сустракаюцца тыповыя чмялі, але з сьветлай паласой на 2 сэгмэнце чэраўца, ці на грудзёх зьяўляюцца гразнаватыя поласы. На поўначы Беларусі сустракаецца, амаль што, выключна падвід *rossicus* (Віцебская, Полацкая, Магілеўская, Менская, паўн. частка Бабруйскай акругі), на поўдні сустракаецца тыповая форма, а падвід рэдка; ужо ў Случчыне сустракаецца, амаль што, тыповая форма.
Гнёзды будуе наземныя ў невялікіх ямінках, якія часта сустракаюцца на сенажацях.
3. **A. equester** *(F.).*
Гэты від часьцей сустракаецца ў паўночнай частцы, на поўдні робіцца рэдкім відам.
Гнёзды робіць як падземныя, так і наземныя, у нас часьцей апошняга тыпу.
4. **A. helferanus** *(Seidl).*
Гэты від зарэгістраваны ў нас толькі для двух акруг Магілеўскай і Менскай, у першай сустракаецца даволі часта, а ў другой вельмі рэдка, павінен быць знойдзены і ў іншых акругах.
Гнёзды будуе наземныя.
5. **A. muscorum** (*F.*).
Сустракаецца ў значнай колькасьці; у РСФСР вельмі рэдкі від, гнёзды якога, амаль што, не знаходзілі, у нас-жа на вільготных лугох іх можна знаходзіць часта, звычайна яны будуюцца на купінках.

6. **A. schrencki** (*F. Mor.*).
Вельмі рэдкі від. Пакуль што знойдзены ў Прапойскім раёне Магіл. акр. і Клічаўскім раёне Мен. акр. Паўночны від.
7. **A. silvarum** (*L.*).
Сустракаецца па ўсёй Беларусі. Гнёзды будуе, як пад зямлёй так і зьверху на зямлі ў ямінках.
8. **A. superequester** (*Skor.*).
Вельмі рэдкі від, знойдзены толькі ў Віцебскай акрузе. Паўночны від.
9. **A. agrorum** (*F.*).
Сустракаецца ўсюды даволі часта. Гнёзды часьцей будуе над мохам.

## Soroënsibombus (*Vogt*).

10. **S. soroënsis laetus** (*Schmidkn*).
Часьцей сустракаецца ў паўночнай частцы, дзе даволі звычайны. Гнёзды робіць падземныя.

## Lapidariobombus (*Vogt*).

11. **L. lapidarius** (*L.*).
Даволі звычайны від, радзей сустракаецца ў Віцебскай і Полацкай акрузе. Самец падобен да рабочых, але грудзі сьпераду і галава пакрыты жоўтымі валасамі. Гнёзды звычайна робіць падземныя, часта вельмі глыбока; у старых мышыных норах.

## Fervidobombus *Skor.*

12. **F. pomorum** (*Ranzer*).
Рэдкі від, характэрны для лесастэпавай зоны. На Беларусі можа быць толькі ў паўднёвай частцы (ад Менску на поўдзень). Пакуль што знойдзены толькі ў Менскай акрузе.

## Subterraneobombus (*Vogt*).

13. **S. subterraneus latreillellus** (*Kirby*).
У паўночнай частцы даволі звычайны, на поўдні радзей. Гнёзды робіць глыбока пад зямлёй.
14. **S. distinguendus** (*F. Mor.*).
Таксама, як і папярэдні, часьцей на поўначы, радзей на поўдні. Гнёзды падземныя.

## Terrestribombus (*Vogt*).

15. **T. audax** (*Harris*).
Вельмі рэдкі від. Маю некалькі экзэмпляраў з Полацкай, Магілеўскай і Менскай акруг. Як відаць, паўночны від.
16. **T. lucorum** (*L.*).
У паўночнай частцы самы звычайны від, на поўдні сустракаецца радзей, дзе яго замяняе іншы від—terrester. Гнёзды падземныя.

17. **T. terrester** *(L.)*.
Вельмі зьменны ў афарбоўцы, прычым тыповая форма сустракаецца рэдка, а var. cryptarum (F) на поўдні сустракаецца досыць часта, наогул, паўднёвы від, як і на поўначы Беларусі надзвычайна рэдкі. Гнёзды будуе падземныя.

## Hortobombus *(Vogt)*.

18. **H. hortorum** *(L.)*.
Самы звычайны від. Гнёзды падземныя, часта глыбока ў мышыных норах.
19. **H. ruderatus** *(F.)*.
Часта сустракаецца толькі ў паўднёвай частцы, на поўначы вельмі рэдкі.

## Confusobombus.

20. **C. confusus** *(Schenck)*.
Вельмі рэдкі від, характэрны для лесастэпавай зоны. Пакуль што маю па аднэй самцы з Слуцкага раёну Бабр. акр. і з Журавіцкага раёну Магіл. акр. і даволі часта сустракаецца ў ваколіцах Менску (Прылукі). Самцы падобны да самак, ад усіх іншых відаў лёгка адрозьніць па аксамітавай шэрсьціі па вельмі вялікіх вачох, такіх вялікіх вачэй ня мае ніводзін від чмялёў.

## Pratobombus *(Vogt)*.

21. **P. hypnorum** *(L.)*.
Рэдкі від, знойдзены ў вак. Менску і ў Полацкай акрузе. Гнёзды часта будуе высока над зямлёй, у дуплах, на гарэ хаты і г. д.
22. **P. jonellus** (*L.*).
Рэдкі паўночны від, знойдзена толькі 4 экзэмпляры ў Полацкай і Віцебскай акрузе.
23. **P. pratorum** (*L.*).
Рэдкі паўночны від, пакуль што знойдзены толькі ў Полацкай і Менскай акрузе.

---

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

У. Уладзіміраў.

## Торпавае балота Белае і яго распрацоўка.

*(Барысаўскі раён).*

Белае балота ляжыць у паўночна-заходнім напрамку ад горада Барысава, у 11—12 кілёмэтрах ад яго. Сваю назву яно атрымала ад таго белага моху Sphagnum acutifolium, які ўсюды пакрывае балота і робіць уражаньне белага акрыцьця, ня гледзячы на тое, што апрача яго ёсьць на балоце і іншыя расьліны.

Уся плошча гэтага параўнальна невялікага балота раўняецца 500 гэктарам. Пры разьгляданьні балота на карце можна адразу заўважыць, што балота ляжыць на вадападзеле трох рэчак—Бярэзіны, Гайны і Бродні. Тры рэчкі ўтварылі нібы трыкутнік, на сярэдзіне якога і ляжыць балота.

Нібы рамкай, балота абхоплена шляхамі, хоць і невялікімі. З захаду шлях вадзе з вёскі Ляхаўкі на поўдзень у вёску Бродню. Вёска Ляхаўка ляжыць каля самага балота, ад чаго апошняе часта завуць Ляхаўскім балотам. З поўдню дарога ідзе з вёскі Большага Стахава на захад за Гайну да вёскі Рудня. Ад шырокага гасьцінцу з Н.-Барысава на Зембін на паўкілёмэтра ад краю лесу ідзе звычайная палявая дарога на вёску Ляхаўку—гэта паўночны край рамкі. Паміж гэтым і Стахава-Руднянскім—злучальная вузкая аднаступовая дарога па краю лесу каля балота; гэта ўсходняя мяжа балота. Праз паўднёвы край балота праходзіць мала праежджаная дарога ў напрамку на хутар Вярбіцкі, што за Гайнай. Гэта ня шлях паміж вёскамі, а дарога, па якой вывозяць сена з гайнаўскай сенажаці.

Больш на балоце не праходзіць ні адна сьцяжынка.

II.

Уся плошча Белага балота прадстаўляе раўніну, якая відавочна абмяжоўваецца як расьлінамі, так і глебай іншага характару, чым само балота. Пераход да вакольнага рэльефу зьяўляецца паступовым, чуць прыкметным у сэнсе павышэньня. З паўднёвага боку балота звужваецца ў няшырокую рачную даліну з нязначным забалочваньнем. У паўночным напрамку няшырокая балацяная істужка, пакрытая лісьцёвымі пародамі дрэў пераважна вольхай Alnus incana Mnch, перараздзяе шлях

з Н.-Барысава ў Зембін і лёгкаю пакатасьцю пераходзіць у рачную даліну р. Бярэзіны якраз у тым месцы, дзе ўтварылася гістарычная пераправа войска Наполеона ў 1812 г.

Астравоў прыпаднятага сухазем'я паміж балота няма, але калі прыглядзецца да дрэўнай расьліннасьці балота, то можна заўважыць яе неаднальковасьць. Так, на прыложаным да апісаньня пляне вучасткі пад лічбамі 1, 2 і часткова 4 пакрыты хвойнікам і бярозай да 3—4 мэтраў вышыні, пры гэтым дрэвы маюць болей прыгожы від, чым на вучастку 5 і 6. Расьліннасьць зьяўляецца паказчыкам характару самога рэльефу, яго глебы.

Трэба адзначыць, што торпавы масыў, хоць і неаднальковай таўшчыні, пакрывае ўсё балота.

III.

Як ужо паміналася, Белае балота — гэта былая лугавая нізіна, вільготная, з ледзь прыпаднятымі краямі і ляжыць на вадападзеле. Ад усходняга краю балота да ракі Бярэзіны прыблізна кілёмэтр, а ад заходняга да Гайны—чуць больш кілёмэтру. З паўднёвай часткі балота бярэ свой пачатак рэчка Колпніца, якая цячэ на поўдзень і ўпадае ў рэчку Бродню, а апошняя зьяўляецца ўтокаю ракі Бярэзіны каля вёскі Бальшы Стахаў (усходні канец вёскі). Другіх сталых вадазбораў на тэрыторыі балота ў форме крыніц, вазёр няма.

Толькі паводле слоў дырэктара торпараспрацоўкі, які ў сваю чаргу пачарпнуў весткі ад знаёмага мясцовага селяніна, на заходнім беразе вярхоўя рэчкі Колпніцы ёсьць бяздоннае возера. Бяздонным называюць дзеля таго, што быццам (паказаны селянін тлумачыў) прабавалі вымерыць глыбіню і не ўдалося. У сучасны момант рэчка Колпніца стала значна многаводней, дзякуючы асушцы Белага балота, вада з якога ўся накіравана ў памянёную рэчку.

IV.

Рэльеф мясцовасьці, якая акаляе балота, параўнальна роўны з паступовым чуць прыкметным пераходам да невялікіх узвышшаў каля вёскі Брылі на поўначы і вёскі Большы Стахаў на паўднёва-ўсходнім баку. Як адно, так і другое ўзвышшы знаходзяцца на адлегласьці каля 3/4 кілёмэтра ад балота.

Такія-ж узвышшы ляжаць навакол вёскі Ляхаўкі з поўночна-заходняга яе боку. У сучасны момант узвышшы заняты палямі і часткова хваёвым лесам. Глеба поля на ўзвышшах супяшчаная з перавагаю ў бок пяску. У часы ветраў пяскі пераносяцца, утвараючы невялічкія выдмы. Выдмавыя насыпы разьмясьціліся на беразе Бярэзіны. Гайна мае выгляд тыповай лугавой рэчкі.

Характар глебы бадай што ані не мяняецца і па краі балота, дзе расьце лес. Тыя-ж пяскі, толькі замацаваныя карэньнямі лясной як травяністай, так і дрэўнай расьліннасьці. Гэта ня той падзол, які яскрава кідаецца ў вочы ў іншых лясных прасторах. Як па полі, так і па лесе параскіданы каменьні гранітнага паходжаньня з часоў ледавіковага пэрыяду. Каля вёскі Брылі няглыбока сяляне капаюць гліну з такімі-ж самымі каменьнямі. Тып глебы вакол балота, які шчыльна падыходзіць да Белага, як відаць, зьяўляецца дном яго.

Расьліннасьць мясцовасьці наваколбалота ўтварае два адметныя паверхі—дрэўны і травяны. Склад дрэўнае расьліннасьці не зьяўляецца аднолькавым для ўсяе ваколіцы. На паўночным і ўсходнім бакох лес пераважна хваёвы Pinus silvestris L., які мае выгляд досыць старога бору. Хвоя перамешваецца з бярозай Betula excelsa L. Як хвоя, так і бяроза аднаго ўзросту і складаюць масывы ня толькі прыгожага, але і каштоўнага будаўнічага матар'ялу. Можна сказаць, што на мяжы не




адчуваецца, каб балота зрабіла свой уплыў на харахтар дрэвастану.

Паўднёвы і заходні берагі з перавагаю лісьцёвых парод, галоўным чынам—бярозы. У паўднёва-ўсходнім кутку шчыльна да балота прылягае невялікі досыць стары яловы гушчар.

Ужо амаль што ў 50 і найболей у 100 кроках ад краю балота панізовы паверх лясной травяністай расьліннасьці складаюць выключна

Calluna vulgaris L. верасы і бліжэй да балота Vaccinium Myrtillus L.-- чарніца. Пераходнай да балотнай расьліннасьці служаць Vaccinium uliginosum L. „дурніца“ памясцоваму, Luzula pilosa Willd. — ажыка валасатая, Potentilla. Tormentilla Neck—дуброўка памясц. Rubus caèsius L.—ажына Ledum palustre L—багун.

Наогул пераход як дрэўнай, так і травяной расьліннасьці сухіх вучасткаў да балота яскрава вызначаны.

V.

З першага погляду Белае балота пры наяўнасьці на ім дрэўнай расьліннасьці, здаецца куп'яватым. Варта аднак выкарчаваць дрэўцы, і паверхня аказваецца роўнай. Дзеля таго, што балота да асушкі было досыць вільготнае, травяністая расьліннасьць укаранілася, галоўным чынам, навакол ствалоў дрэўцаў. Як дрэўцы, так і іншая расьліннасьць балота дадаюць краявіду характар паўночнага і нават палярнага.

Перш за ўсё зварочваем увагу на нізкую, каравую хвоечку з парасонікаваю каронаю. Ствол хвоечак пакрыты мохам і карою, якая тонкімі шэрымі лусачкамі адлушчваецца і, не адарваўшыся, тырчыць на сьцябле. З усходняга боку балота (лічба 6 на пляне) хвойнічак бяз прымешкі бярозы ў 2—3 мэтры вышыні і 5—7 сантымэтраў таўшчыні. З заходняга краю балота Сасонка ня вышэй 1—1½ мэтра (лічба 5 на пляне). На рэштцы вучастку хвойнічак з бярэзьнікам утвараюць рэдкі лясок, пры гэтым знадворны выгляд хвоек той-жа самы, што паміналася вышэй. Вільготнасьць глебы—торпу па даным аналізу складае 95%.

Пераважную расьліннасьць Белага балота складае Sphagnum acutifolium мох, які ўтварае нібы пухавік да 30 сантымэтраў таўшчыні. Праз мох выходзяць на паверх ва мностве сьцяблы Oxycòccus palustris Pers журавіна, Andromeda polifolia L. імшарніца, Ledum palustre L. багуну. На некаторых прыпнёвых купінах Polutrichum commune зязюльчын лён, галінкі Asplenium Filix fémina Bernh. качадыжніку, на вільготных плянах Menyanthes trifoliata L. бабок трылісьцёвы, Calla palustris L. белакапытнік балотны, асобныя сьцяблы Phragmites comunis Trin чароту звычайнага. Па ўсім балоце надзвычайна рэдкая Carex acutiformis Ehrh—асака балотная, а паміж яе белыя дробныя плямкі Eriophorum angustifolium Roth падвею вузкалістага.

Расьліннасьць гэтая, як ужо паміналася, амаль што не распаўсюджана за мяжу балота.

VI.

Белае балота ня проста балота, а балота торпавае і сваёю асабліваасьцю прывабіла ўвагу гаспадарчых органаў БССР. Дасьледчая геолёгіная камісія, якая была накіравана ВСНГБ для аналізу якасьці торпу, спачатку думала, што балота мохавае і самы торп—мохавы. Аднак, зрабіўшы зналіз, камісія высьветліла, што мохавы торп ёсьць вынік пазьнейшага часу і складае толькі 10% агульнай таўшчыні торпу. 90% торпу нізінна-лугавога характару, са значнай прымешкай ператлеўшай драўніны—бярозы і асіны. Сьляды гэтай драўніны яскрава захаваліся на глыбіні двух мэтраў, да якіх выбіраецца пры распрацоўцы торпу. Верхні слой на ⅓ мэтра нельга было-б назваць торпам. Гэта зьляжалы слой моху. На глыбіні мэтра торп цёмна-

бурага колеру, а глыбей на 1/2 мэтра таўшчыні торп сьвятлей і мае колер „кавы з малаком“. Апошні слой болей рыхлы і сітаваты. Захаваліся хвашчавыя дудачкі, лісьце аеру і асака.

Паміж іншым, рабочыя, капаючы торп, за ўвесь час знаходзілі некалькі разоў вогнішча, якое захавалася ў форме кучкі вугальляў. Па вугалёх можна ўпэўнена сказаць, што гарэлі дровы бярозавыя. Торп з вуглямі здабыты з глыбіні 2 мэтраў.

Найбольшая глыбіня торпу, які залягае на Белым болоце, дасягае 7 мэтраў. Паводле слоў дырэктара торпараспрацоўкі, торп пачаў утварацца пасьля ледавіковага пэрыоду. Гэта была вільготная даліна, якая засмоктвала дрэўныя і травяныя расьліны, і толькі ў пазнейшыя часы балота прыняло іншы выгляд мохавага балота.

VII.

Вялізныя прасторы Беларусі захоўвалі ў сваіх нетрах такі каштоўны апалавы матар'ял, як торп. Замест яго зьнішчаліся лясы, якія заяўляюцца будаўнічым і падзелачным матар'ялам.

Пашырэньне прамысловасьці на Беларусі выклікала неабходнасьць эксплёатацыі торпавых пакладаў. ВСНГБ організаваў з гэтаю мэтаю спэцыяльны орган Белторпатрэст, які і прыступіў да абсьледваньня тых торпавых вучасткаў, якія ляжаць бліжэй да таго ці іншага прамысловага пункту.

Белае балота зьявілася тым об'ектам распрацоўкі, які павінен будзе даць апал, а разам з гэтым і электрарухаючую энэргію барысаўскім прадпрыемствам.

Для эксплёатацыі торпу на балота былі дастаўлены тры комплекты торпавай гарнітуры, г. зн. лёкомобілі з пляцформамі і прэсэлеватарамі. Лёкомобілі заказаны і зроблены на Мальцаўскіх заводах у Бранску, а пляцформы і прэс-элеватары на „Красной Прэсьні“ ў Маскве. Кожная гарнітура каштавала 19.000 рублёў, а з дастаўкай на балота — 21.000 рублёў. Машыны на 16 паравых сіл. Для першай працы сэзону гэтага году прывезены тры арцелі рабочых-тарпавікоў па 30 чалавек кожная. Рабочыя з Разанскай губ., Скопінскага павету. Адтуль-жа прыехала і арцель жанчын у 40 чалавек для прасушкі торпу.

З агульнай плошчы балота была вызначана так званая „прамысловая плошча“ ў 350 гэктараў пры сярэднім заляганьні на 3,5 мэтраў глыбіні.

Падрыхтоўчую працу складалі паглыбеньне русла рэчкі Колпніцы і правядзеньне сыстэмы асушальных канаў. Плошча асушальнага вадазбору складае 2.500 гэктараў. У гэтым годзе працуюць тры машыны, з якіх—дзьве ў прадоўжным напрамку балота, а трэцяя па простастаўнай да шляху першых. Торп вымаецца на глыбіні 2 мэтраў, а глыбей вада грунтавая не дазваляе. Выкапанырознай глыбіні торп пападае мэханічна ў прэс-элеватар, адкуль выходзіць у форме цаглінак па 4 на дошчачцы.

Дружная арцель пры спраўнай машыне можа вырабіць па 1000 цаглінак на кожнага. Цаглінкі на дошчачках складаюцца на ваганэткі і па рэльсах развозяцца на разраўняны пляц для прасушкі. Як цаглінкі трохі падсохнуць, жанчыны складаюць іх у грудачкі для канчатковай прасушкі.

VIII.

Працоўны дзень на торпараспрацоўцы Белага балота лічыцца 9 гадзін для мужчын, але з тых прычын, што пагода часта перашкаджае і праца аплачваецца ад вырабу, працуюць 11-12 гадзін.

Жанчыны працуюць 8 гадзін і атрымоўваюць 1 р. 35 кап. Мужчынам за 1000 сырых цаглінак плацяць 3 р. 10 к. Добрая арцель на сябра ў дзень выганяе да 4 р. 50 кап.

Працоўны сэзон закончыўся 15 жніўня. Пасьля гэтага праводзілася падрыхтоўчая праца да наступнага году.

Выкарчоўку пнёў робяць мясцовыя рабочыя-сяляне.

Распрацоўка торпу разьлічана на 25 гадоў пры сярэдняй гадавой здабычы 1.500.000 пудоў сухога апалу. У першы год намечана прадаваць пуд торпу па 19 капеек, а далей зьнізіць да 13 кап. за пуд. Торп будзе дастаўляцца на электрычную станцыю ў Н.-Барысаве (каля „Чырвонай Бярэзіны“), энэргіяй якое будуць карыстацца ўсе прадпрыемствы.

Пры аналізе цеплавой каштоўнасьці торпу Белага балота знойдзена, што калёрыйнасьць яго раўняецца 3.500, што ў пераводзе на дравяны апал азначае: 1 пуд. торпу раўняецца 1 пуду бярозавых дроў.

На ўзьмежжы торпараспрацоўкі ў паўднёва-ўсходнім яе куту, на сухім нязначным схіле ў бок балота для канторы і кватэр рабочых і служачых пабудаваны прыгожы пасёлак. Усяго ёсьць 16 будынін.

У гэтым ліку сталоўка для рабочых, крама, адчыненая барысаўскім прыгарадным спажывецкім таварыствам, дзьве павеці і лазьня. Кожная арцель сталуецца асобна і мае асобную кухарку.

На абед робіцца перапынак пасьля 12 гадзін. Машыны даюць гудок і спыняюць рух. Рабочыя ідуць на абед у пасёлак.

На пляцы стаяць дзьве пажарныя бочкі і вісяць на прыбітай да хвойкі пасярэдзіне пасёлку перакладзінцы 8 вёдраў. Пры кожным будынку ёсьць агнятушыцель „Багатыр“.

Культарганізацыйны бок формальна захоўваецца, але шырокай працы правесьці яшчэ не ўдалося. Арцелі на месцы сваёй організацыі маюць лікбез, але пісьменнасьць мала прыкметна. Газэты выпісваюць. Заўважваецца п'янства, з якім вядзецца барацьба, але весьці яе цяжкавата, дзякуючы асаблівым умовам працы.

IX.

Для аховы здароўя рабочых і служачых на торпараспрацоўцы ёсьць лекпункт.

Пры пачатку працы меркавалі, што прыдзецца змагацца з малярыйным камаром, але на шчасьце рабочых гэта не заўважваецца.

Звычайнымі хваробамі, як і на ўсіх топараспрацоўках, з'яўляюцца цяглічны раматызм і нарывы ад забрудненьня рук і ног. Былі прывезены з Масквы бразэнтавая боты, якія захоўвалі ногі ад вільгаці. Барысаўскія аказаліся вадапрапушчальнымі. Распаўсюджана хвароба страўнікавых органаў з прычыны балацяной вады, якая ўжываецца рабочымі пры працы.

X.

Распрацоўка торпу пры 3 машынах—гэта пачатак, першы крок. З будучага году мяркуюць паставіць некалькі дзесяткаў машын.

У дадатак да прыежджых рабочых будуць організаваны арцелі з мясцовага насельніцтва, якія змогуць з цягам часу атрымаць належную кваліфікацыю. Наогул дастаўка патрэбнага ліку рабочых з далёкіх пунктаў справа цяжкая.

Торпавыя паклады побач з Белым балотам на беразе рэчкі Гайны ў шмат разоў большыя за апошнія. Распрацоўка гэтых масываў дае гарантыю, што вакольная мясцовасьць можа быць забясьпечана апалым на сотні гадоў пры ўмовах поўнае адсутнасьці дравянога апалу. Распрацоўка-ж дасьць на шмат гадоў заробак мясцоваму насельніцтву.

П. А. Самцэвіч.

# Хрэсьбіны[1])

## ў в. Унтальянка, Барыс. раёну, Менскай акругі.

### I. Нараджэньне дзіцяці.

Нараджэньне на сьвет новага чалавека зьяўляецца вялікай урачыстасьцю для кожнай сям'і. Гэтую ўрачыстасьць селянін ня можа абыйсьці моўчкі, ня можа не адзначыць у сваім штодзённым жыцьці. Бядняк, які праклінае ў душы зьяўленьне на сьвет новага дзіцяці, залазіць у даўгі, але хрэсьбіны ладзіць. А аб багатым і гаварыць ня прыходзіцца. Лічыцца за ганьбу, калі хто ня справіць хрэсьбін. Ды і стары, дзядоўскі, рэлігійны ўклад не дазваляе селяніну не рыхтаваць хрэсьбін. Па яго (селяніна) думцы, дзяцёнак на сьвет зьяўляецца бяз душы: „Пàра адна, а ня душа!“

Душа-ж зьяўляецца ў дзяцёнка пасьля „хрòсту“ ў папа. А хрэсьбіны і хрышчэньне дзіцяці так цесна перапляліся, што да гэтага часу іх ня могуць разлучыць. Выходзіць, што хрэсьбіны як-бы зьяўляюцца актам прыняцьця дзіцяці ў члены сям'і, у поўнапраўныя члены грамады, у якой ён да гэтага часу ня лічыўся. Праўда, у астатнія часы можна наглядаць нярэдкія выпадкі аддзяленьня хрышчэньня ад хрэсьбін. Хрышчэньне, звычайна, ладзяць не пазьней 2-х 3-х тыдняў ад дня нараджэньня, а хрэсьбіны адкладаюць на месяц-другі пасьля гэтага, к таму часу, як справяцца з гаспадаркай, як нагоняць самагонкі і іншае.

Селянін в. Унтальянка, Барыс. р. Давыд Паўлавец ладзіць хрэсьбіны тады, як сын яго ўжо хадзіць навучыўся, праз 11$^1/_2$ месяцаў пасьля нараджэньня, хоць хрысьціў яго двухтыднёвым.

### II. Запрашэньне на хрэсьбіны.

„Прасіў татка і мамка і я прашу на хрэсьбіны!“—заходзячы ў хату да суседа ці да радні, запрашае старэйшая дачка. У тым выпадку, калі няма такой, запрашаць пасылаюць пляменьніцу, цётку ці якую іншую кабету з блізкай радні парадзіхі. Мужчынам гэтую справу не даручаюць.

---

[1]) Паводле ўласных назіраньняў і часткова са слоў гр. вёскі Унтальянка Міх. Шышпаронка (34 г., пісьменны) і Давыда Паўлаўца (42 г., малапісьменны).

Атрымаўшы такую позву, гаспадыня і гаспадар пачынаюць зьбірацца, бо запрашаюць, звычайна, перад самымі хрэсьбінамі.

Ня прынята, каб моладзь ішла на хрэсьбіны (асабліва хлапцы).

Праўда, выключэньні ў гэтым выпадку бываюць досыць частыя з боку радні парадзіхі і яе мужа.

Зьбіраючыся на хрэсьбіны, кожны лічыць сваім абавязкам нарыхтаваць і занесьці парадзісе які-кольвечы падарунак, амаль-што заўсёды чаго-небудзь смачнага з ежы. Багацейшыя к гэтаму часу сьпякуць пірог з пшанічнай мукі, альбо напякуць розных перапечак. аладак, хворасту, намачаюць іх поўную міску ці латушку ў сала ці ў сьмятану, а то і проста так, сухімі нясуць. Бяднейшыя-ж проста бяруць паўкалачкі хлеба, насыпаюць зьверх жменю солі. Апошняе лічыцца больш прынятым, больш звычайным у вёсцы.

### III. У доме гаспадароў.

У хаце парадзіхі к гэтаму часу ўсё падрыхтавана. Напечана, насмажана розных закусак: піражкоў, перапечак, ладак, бліноў, блінцоў, хворасту, асушкаў, якія пад рознымі прыправамі (у сьмятане, творагу, масьле, сале, абсыпаныя цукрам, намочаныя ў сыце) падрыхтаваны к падачы на стол. Сухія перапечкі ляжаць у рэшаце. За заслонкай у печы стаіць наваранае і ў розных выглядах насмажанае мяса, сала, кілбасы. А гаспадар к гэтаму дню пастараўся нагнаць поўны бачонак самагонкі, які займае „пачэснае“ месца на лаве каля стала. Уздоўж лаў растаўлены сталы, к гэтаму часу пазычаныя ў суседзяў, накрытыя белымі абрусамі. Парадзіха, якая к гэтаму часу ўжо на нагах (вясковыя кабеты пасьля родаў больш 2-х 3-х дзён, тыдню ў пасьцелі не ляжаць), наводзіць парадак у хаце. Ёй дапамагае ў гэтым бабка, якая тут знаходзіцца з самага ранку.

### IV. Збор гасьцей.

Увайшоўшы ў хату, кожны з пакліканых на хрэсьбіны аддае свой падарунак гаспадыні ці гаспадару на рукі, альбо так кладзе яго на стол ці на лаву супраць печы. Кабеты цалуюцца з гаспадыняй (парадзіхай), ня гледзячы на тое, што яны мо‘ сёньня сустракаліся не адзін раз, пытаюцца ў яе пра здароў‘е і зьбіраюцца ў кучу дзе-небудзь каля запечку (звычайнае месца калыскі, а з ёй—і кабеты). Мужчыны разьмяркоўваюцца каля сталоў, на лаўках.

Гаспадар тым часам прымае падарункі ад гасьцей: бярэ хлеб, ссыпае з яго соль у салянку, хлеб хавае дзе-небудзь. Калі-ж якая цётка прынясе латушку ці міску перапечак ці што падобнае да гэтага— ён заве гаспадыню ўпарадкаваць прынесенае.

Госьці вядуць гутарку аб усім, што іх цікавіць, але менш усяго пра хрэсьбіны. Мужчыны асобна і кабеты асобна. Калі-ж зьбярэцца большая частка запрошаных, гаспадыня пачынае завінацца каля сталоў, растаўляючы на іх закускі. Пры гэтым наглядае за тым, каб на кожны стол закускі папалі аднальковыя. Некаторыя, як напрыклад, сухія перапечкі, асушкі, хворост сыплюцца сарод стала жменямі, іншыя, намочаныя ў розных прыправах,—у гліняных місках, латушках а ў некаторых гаспадароў, нават і ў талерках, растаўляюцца па ўсім

стале так, каб кожны мог іх дастаць. Гаспадар водзіцца каля бачонка з самагонкай, разьліваючы яе па бутэльках.

## V. За сталом.

Але вось усё закончана: закускі на стале, самагонка ў бутэльках. Гаспадар пачынае запрашаць гасьцей рассаджвацца за сталы.

За стол пад абразамі (у кутку) садзяць бабку, кумоў, больш пачэсных гасьцей. Суседнія сталы займаюцца гасьцямі звычайнымі, суседзямі. Мужчыны садзяцца асобна ад кабет. Гэта, як відаць, робіцца выключна дзеля таго, што кабеты ня могуць нараўне з мужчынамі трымаць чаргу па выпіўцы.

Але вядомыя „пітуны“ з кабет, якія могуць не адставаць ад мужчын, садзяцца разам з імі. Апрача гэтага, кабеты пявуньні стараюцца не разьбівацца па розных кутках, бо седзячы разам лягчэй сьпяваць.

Самае пачэснае месца на куту займае бабка (павітуха, якая прымае дзіцё пры родах) і кумы. Бабка на хрэсьбінах мае вялікае значэньне: гэта—гаспадыня ўрачыстасьці, якая павінна ўсім і ўсяму даваць тон. Каля кумоў, як казалася, даюць месца самым пачэсным гасьцём, якім, у адзнаку іх годнасьці і пашаны да іх, даюць відэльцы ці нож даставаць закускі. Рэшта гасьцей карыстаюцца „відэльцамі на пяць зубоў“—рукамі, якімі з агульнай міскі дастаюць і перапечкі сухія, і бліны ў сьмятане, і мяса, і сала, аблізваючы пасля гэтага пальцы.

Першую чарку налівае і выпівае гаспадар дому да бабулькі.

—„Будзем жывы і здаровы, бабуля!“.

—„Сахарам на душу, галубок!“ — адказвае тая, нізенька пакланіўшыся ў бок гаспадара.

Ад бабулькі чарка перадаецца кумам, ад іх—да гасьцей навокал усяго стала. Пакуль адны п‘юць—другія чакаюць сваёй чаргі, не кратаючы закусак; выпіўшыя прымаюцца за іх. Чарак многа няма. На кажны стол даецца па аднэй. Дзеля гэтага, каб чарка „дарма“ не хадзіла вакол стала, п‘юць адразу па дзьве, па тры чаркі гарэлкі. Кабеты п‘юць менш мужчын, але кожная лічыць за абавязак першую чарку віпіць да дна. Даюць піць і малым дзецям, якія прышлі, ці якіх прынесьлі на руках. „Лепш спаць будуць!“ Дзеці ня зморшчыўшыся выпіваюць ад 1/2 да 2-х поўных чарак.

П‘юць, закусваюць, паволі гутараць аб справах гаспадаркі, аб надвор'і, заработках. Чаркі тымчасам бяз спынку абыходзяць застольлі і з кожным разам гутарка гасьцей робіцца весялейшай. Цёткі памалу пачынаюць варушыцца, таўхаць адна адну пад бакі. Вось самая галасістая зацягнула, іншыя падхвацілі:

1. Дзякуй таму кавалю,
Што скаваў нам гульню.
І ў ручкі ня хукаў,
Малаточкам ня стукаў!

* *
*

2. А ў Давыдзькі, а ў Давыдзькі
Венаград на дварэ (2 разы).
А ў Вульлянкі, а ў Вульлянкі
Бабулька на куце (2 разы).
Запражэце, запражэце
А дванаццаць валоў,
Адвязеце, адвязеце
А бабульку дамоў.
Наша бабулька, наша любка
А паезды любя,
У каршомцы, у новінькай
Нам гарэлкі купіць (2 разы).
А ў Давыдзькі, а ў Давыдзькі
Венаград на дварэ (2 разы).
А ў Вульлянкі, а ў Вульлянкі
Кумка на куце (2 разы).
Запражэце, запражэце
А дванаццаць валоў,
Адвязеце, адвязеце
Кумку дамоў.
Наша кумка, наша галубка
А паезды любя,

А ў каршомцы, а ў новенькай
Нам гарэлкі купя (2 разы).
А ў Давыдзькі, а ў Давыдзькі
Венаград на дварэ,
А ў Вульлянкі, а ў Вульлянкі
Ды кумок на куце (2 разы).
Запражэце, запражэце
Ды дванаццаць валоў,
Адвязеце, адвязеце
Ды кумочка дамоў
Наш кумочык, наш галубчык
Ды паезды любя.
А ў каршомцы, а ў новенькай
Нам гарэлкі купя (2 разы).

Цяпер ужо цётак ня прыходзіцца прасіць сьпяваць: яны разышліся. Адна перад аднэй, на перабой, стараюцца зацягнуць кожная сваю песьню: адразу зацягваюць дзьве, тры; кожная стараецца перакрычаць суседку. Паднімаецца цэлы вэрхал. Але памалу ўсе далучаюцца да больш галасістай і зноў больш-менш ціха і спакойна сьпяваюць.

3. А ўчора, бабка, а ўчора, любка,
На радзінках была,
А сягоньня бабка, а сягоньня, любка,
На хразьбінкі прыйшла!
Нігдзе ў цябе, бабка,
Нігдзе ў цябе, любка,
Больш дзялоў німаш!
—„Я свае дзялы.
На бакі разьвяду,
А ў свайго ўнучка
На куце пасяджу!
А ўчора, кумка, а ўчора, любка,
На радзінках была,
А сягоньня кумка, а сягоньня, галубка,
На храсьбінкі прыйшла!
Нігдзе ў цябе, кумка,
Нігдзе ў цябе, галубка,
Больш дзялоў німаш!
—„Я ўсе свае дзялы
На бакі разьвяду,
А ў свайго хрэсьнічка
На куце пасяджу!
А ўчора, кумок, а ўчора, галубок,
На радзінках быў,
А сягоньня, кумок, а сягоньня, галубок,
На хразьбінкі прыйшоў!
Нігдзе ў цябе, кум.к,
Нігдзе ў цябе, галубок,
Больш дзялоў німаш!
—„Я ўсе свае дзялы
На бакі разьвяду,
А у свайго хрэсьнічка
На куце пасяджу!“

* * *

4. Бабуся, бабуся,
Таўчы-малоць ня дужа,
Бабуся, бабуся,
А па намётачкам—дык любя!
Бабуся, бабуся,
Таўчы-малоць слаба́,
Бабуся, бабуся,
Па намётачкам дык сама̀,
Бабуся, бабуся,
Таўчы-малоць,—дык кох-кох,
Бабуся, бабуся,
Па наметачкам, дык скок-скок!

Не пасьпеюць закончыць адну, як іншыя падхватваюць другую, трэцюю песьню. Пяюць ужо без перастанку.

5. А на бабцы саян,
А на бабцы саян.—
Ён шоўкам вышыван,
Ён шоўкам вышыван!
Наша бабулька, наша любка
А паезды любя,
А ў каршомцы, а ў новенькай
Нам гарэлкі купіць,
Нам гарэлкі купіць!
А на куму штаны,
А на куму штаны—
Ён не ўста̀вя цаны,
Ён не ўставя цаны!
Наш кумочык наш голубчык
А паезды любя,
А ў каршомцы, а ў новенькай
Нам гарэлкі купя! (2 разы).
А на кумцы—кашуля (2 разы),
Сто рублей каштуя (2 разы).
Наша кумка, наша галубка
А паезды любя,
А ў каршомцы, а ў новенькай
Нам гэрэлкі купя (2 разы).

* * *

6. А цераз мора, цераз сіня
Гібкая кладачка,
А цераз поле, цераз шырокае
Чорная сьцежачка,
А хто-ж гэту
Чорну сьцежачку ўбіў?
А ўбіў-жа-ж
Гэту чорну сьцежачку
Молад Давыдка, да бабулькі ходзячы,
Чорну сьцежачку ўбіў,
Пакуль бабульку ўпрасіў:
„Хадзі, мая бабка (2 разы),
А хадзі-ж ты ка мне!
А цераз мора, а цераз сіня
Гібкая кладачка,
А цераз поле, цераз шырокае
Чорная сьцежачка.

А хто-ж гэту
Чорну сьцежачку ўбіў?
А ўбіў-жа-ж
Гэту чорну сьцежачку
Молад Давыдка, да кумкі ходзячы.
Чорну сьцежачку ўбіў,
Пакуль кумку ўпрасіў:
„Хадзі, мая кумка,
Хадзі, мая галубка,
А хадзі-ж ты ка мне!“
А цераз мора, а цераз сіня
Гібкая кладачка,
А цераз поле, цераз шырокае
Чорная сьцежачка.
А хто-ж гэту
Чорну сьцежачку ўбіў?
А ўбіў-жа-ж
Гэту чорну сьцежачку
Молад Давыдка, да кумочка хоязячы.
Чорну сьцежачку ўбіў,
Пакуль кумка упрасіў:
„Хадзі, мой кумочык,
Хадзі, васілёчык,
А хадзі-ж ты ка мне!

Ужо з першых песень кабеты не застаюцца без дапамогі: ім пачынаюць дапамагаць падвыпіўшыя і павесялеўшыя мужчыны, якія да гэтага часу паціханьку выпівалі, закусвалі і вялі гутарку між сабой. Хрыплымі, напалову п'янымі галасамі, усьлед за жанчынамі, мужчыны падцягваюць:

Упілася, бабка, упілася,
За столікам зьвілася, зьвілася.
Мышы-шышы шалелі, шалелі,
Хвартух бабцы праелі, праелі.
Стала бабка ўставаці, ўставаці,
Стала моцна плакаці, плакаці:
Нечым хвартух латаці, латаці.
Зьбірайце, бабкі, халацьця, халацьця,
Бабцы хвартух наладзьця, наладзьця!
А ўпіўся кумок, ўпіўся,
За столікам ён зьвіўся, ён зьвіўся.
Мышы-шышы шалелі, шалелі,
Куму штаны праелі, праелі.
Стаў кумочык ўставаці, ўставаці,
Стаў моцненька плакаці, плакаці:
Нечым штаны латаці, латаці.
Зьбірайце, дзяўчаты, лахманы, лахманы,
Куму латаці штаны, ды штаны.
Упілася, кумка, ўпілася,
За столікам зьвілася, зьвілася.
Мышы-шышы шалелі, шалелі,
Кумцы спадніцу праелі, праелі.
Стала кумка ўставаці, ўставаці,
Стала моцненька плакаці, плакаці:
Нечым спадніцу латаці, латаці.
Зьбірайце, хлопцы, халацьця, халацьця
Куме́ спадніцу наладзьця, наладзьця,

Да бабкі і кумоў больш чым да іншых гасьцей насядаюць, каб яны пілі гарэлку. Пяюць ім (гледзячы да каго прыстаюць: бабкі, кума ці кумы. Да кумы):

8. Вып'ем, кумка, чарачку,
Каб жылі мы ў парачку.
Вып'ем, кумка, вып'ем тут,
На тым сьвеце не дадуць.
Хоць дадуць, хоць не дадуць,
Вып'ем кумка, вып'ем дзьве,
Каб нам былі рады ўсе.
Вып'ем кумка, вып'ем тут і г. д.
Вып'ем кумка, вып'ем тры,
Каб нас людзі любілі (прыпеў).
Вып'ем, кумка, чатыры,
Каб нас людзілі хвалілі (прыпеў).
Вып'ем, кумка, вып'ем пяць
Хай нас людзі не стыдзяць (прыпеў).
Вып'ем, кумка, вып'ем шэсь,
Хай нам будзя сла̀ва-чэсь (прыпеў).
Вып'ем кумка, вып'ем сем,
Каб была нам слава ўсем (прыпеў).
Вып'ем, кумка, вып'ем восем,
Каб нам добра скрозь жылося (прыпеў).
Вып'ем, кумка, вып'ем дзевяць,
Ніхай людзі нас ня дзеляць (прыпеў).
Вып'ем, кумка, вып'ем дзесяць,
Ніхай людзі нас ня весяць.
Вып'ем, кумка, вып'ем тут,
На тым сьвеце не дадуць!

*Увага*: Прыпеў: „Вып'ем, кумка, вып'ем тут, на тым сьвеце не дадуць!“ — падпяваюць усе, каму толькі ахвота. Рэшту песьні пяе адна-дзьве кабеты больш галасістыя, падсеўшы блізютка да кумкі.

Калі-ж хто з гасьцей ня хоча піць, яго не прымушаюць.

„А хто п'ець,—таму налівайце,
Хто ня п'ець,—таму не давайце!“

Пяюць пры гэтым цёткі. Калі-ж ад гарэлкі адмаўляецца бабак ці хто з кумоў, ім пяюць ужо асобна (да бабкі—напр.):

Я-б гэту бабку,
Я-б гэту любку
Я-б за бабку не браў (2 разы)
Яна гарэлкі ня п'е (2 разы)
І песень не пяе (2 разы).

## VI. Намёткі.

Тым часам гаспадыня (парадзіха) пачала рыхтаваць наметкі. На гэта зварачваецца ўвага песьняй:

Паглядзі, бабка, паглядзі, любка,
Што твая ўнучка робя:
А за полажкам, а за беленькім,
Ды за тонінькім,
Табе намётку кро́я (2 разы).
Паглядзі, кумок, паглядзі, галубок,
Што твая кумка робя:
А за полажкам, а за беленькім,
Ды за тоненькім
Табе намётку кроя (2 разы).
Паглядзі, кумка, паглядзі, галубка,
Што твая кумка робя:
А за полажкам, а за беленькім,
Ды за тоненькім
Табе намётку кроя (2 разы).

*Увага:* Кум, кума, гаспадыня (парадзіха), гаспадар пры звароце адзін да аднаго завуцца „кумамі“. Для бабкі ўсе (і дзяцёнак, і бацька з маткай яго, і кум з кумой—унукі, а для іх яна—бабка).

На намётку часьцей за ўсё скарыстоўваюцца кавалкі звычайнага сялянскага палатна (кўжаль), якія бяруцца такой велічыні, каб кум з сваёй намёткі змог пашыць штаны, кума з бабкай—сарочку ці спадніцу. У больш багатых хатах намёткі бываюць з куплёнага палатна. Не абавязкова на намёткі павінна ісьці матар'ял на бялізну. Даецца ў намётку рушнік, абрус, хустка ці што іншае, патрэбнае ў гаспадарцы (але абавязкова з тканін). У намётку заварачваецца калачка хлеба, спэцыяльна для гэтага сьпечаная з рознымі малюнкамі (шклянак, чарак ці розных іншых цацак) на верхняй скарынцы. Намёткі бабе і кумам перадае сама парадзіха, якая пры гэтым з кожным цалуецца па тры разы.

Атрыманыя намёткі бабка і кумы кладуць за сабой на лаву ці даручаюць іх каму-небудзь з сваіх хатніх, каб яны занесьлі яе да дому. Калі-ж нельга адразу пераслаць да хаты, гаспадары намётак пільна сачаць за іх цэласьцю, бо госьці ўсялякімі спасабамі стараюцца намёткі адкрасьці. Пускаюцца на розныя хітрыкі і каб адкрасьці і каб усьцерагчы. Калі-ж так альбо інакш намётку ўдасца адкрасьці,—сярод гасьцей паднімаецца рогат: усе рады, што ім удалася гэта зрабіць. Пачынаецца продаж украдзенага, таргі на яго. Пацярпеўшы (бабка ці хто з кумоў, ад якіх украдзена намётка) у „канпузе“. Ён, у адместку, стараецца намётку адкрасьці, вырваць з рук прадаўца, але гэта яму рэдка ўдаецца, бо за ім сачаць і не даюць яму намёткі ўсе госьці. Калі ўжо ўсе падходы пацярпеўшага застануцца без усялякай карысьці, тады ён намётку пачынае адкупліваць гарэлкай. Пачынаецца торг: госьці запрашваюць больш, ён дае менш. Сходзяцца, звычайна, на палавіне ці на цэлай бутэльцы гарэлкі. А гэта толькі і патрэбна было гасьцям. Расьпіўшы выкуп, хто-небудзь з гасьцей ізноў стараецца „падсаседзіцца“ да намётак, каб зноў яе адкрасьці. Адкрадаюць толькі тканіну, ня кратаючы хлеба. Бывае так, што адну намётку адкрадаюць па некалькі разоў і кожны раз бяруць за яе выкуп. Калі-ж пацярпеўшы ўрэшце адмаўляецца ад намёткі (што бывае вельмі рэдка), то яна, па скончэньні хрэсьбін, перадаецца гаспадыні хаты (парадзісе). Але такія выпадкі бываюць вельмі рэдка, бо на такога скупога глядзяць скосу, а ў некаторых мясцовасьцях (Крупскага раёну, Аршанск. акр.) іх стараюцца ня браць за кумоў.

Працэдура з намёткамі дадае гасьцям шмат вясёласьці. Госьці могуць выпіць лішнюю чарку за кошт выкупу. Цягнецца яна аж да канца хрэсьбін. Але тым часам яна не зьяўляецца перашкодай далейшаму правядзеньню хрэсьбін. Кабеты бесьперастанку пяюць песьні.

Венаград на дварэ!...
Так наша бабка,
Так наша любка на куце.
Як золат персьцень на руцэ,—
Так наша бабка на куце.
Ях золат персьцень шаруюць,
Так нашу бабку шануюць.
Бабка мая, любка мая,—
Венаградаў цьвет!
Венаград на дварэ!....
Так наша кумка,
Наша галубка на куце.
Як золат персьцень на руцэ,—
Так наша кумка на куце.
Як золат персьцень шаруюць,
Так нашу кумку шануюць.
Кумка мая, любка мая,
Розавы цьвет!
Венаград на дварэ!..
Так наш кумочык,
Наш васілёчык на куце.
Як золат персьцень на руце,
Так наш кумочык на куце.
Як золат персьцень шаруюць,
Так нашага кумка шануюць.
А кумочык мой, галубочык мой,
Васільковы цьвет!

У вясковай сям'і мужчына займае больш важнае месца, чым кабета. Мужчына—галава хаты, мужчына—кіраўнік гаспадаркі. Дзеля гэтага нараджэньне „мужчыны“ ў хаце сустракаецца з большай прыемнасьцю, чым нараджэньне дачкі. Сын—будачая падмога гаспадаркі, бацькоў. А дачка прыносіць адны турботы. Гэты погляд выказваецца ў песьні якая сьпяваецца на хрэсьбінах:

А на ложку, а на беленькім
Парадзінуха ляжыць.
Захацела, зажадалася
Вішнёвага соку.
А пазвала, запатрабавала
Свайго мужа з току:
„Ці ня знойдзеш, ці ня выстараесься
Вішнёвага соку?“
—„Як сына радзіла –соку дастану,
А як дачку радзіла—
І так абайдзесься!“

Пяюць многа. Пяюць і спэцыяльна хэрсьбінаўскія песьні, пяюць і піліпаўскія, вялікапосныя і розныя іншыя, абы толькі пяяць. Тут можна пачуць перараробку расійскіх песень на беларускі лад:

„Сяджу за рашоткай ў цюрме я сырой.
„Ускармлёны на волі арол маладой,
„Таварыш ў няшчасьці, махая крылом,
„Крывава мяса клюе пад вакном“...

Тут і „Бывали дни веселые“ і „Пасьледні нонішні дзянёчык“ і розныя іншыя. Падвыпіўшыя цёткі ўжо ня могуць усядзець за сталом: вылазяць з застольля і па аднэй ці ўзяўшыся падпашкі па дзьве, па тры ці па чатыры пускаюцца ў скокі. Скачуць лявоніху, крутуху, мяцеліцу, падпяваючы замест музыкі розныя прыпеўкі і песьні.

## VII. „Бабіна каша“.

А сядзеўшая да гэтага часу ціха і спакойна за сталом бабка паднімаецца і ідзе ў куток, дзе была да гэтага часу захавана „бабіна каша“. Раней, ды і цяпер, больш бяднейшыя бабкі „бабіну кашу“ варылі з пшонных ці грэчных круп на малацэ з маслам ці на сале. Багацейшыя—пякуць пірог („бабку“) з куплёнай пшанічнай мукі. А звычайная „бабіна каша“ пячэцца з пшанічнай мукі хатняга вырабу. Поўны гаршчок ці міску накладваюць рознымі невялічкімі асушкамі, перапечкамі, хрушчыкамі і іншым пячэньнем. Усе яны сухія, так, каб можна было іх браць рукамі, насыпаць у кішэню. Каша падаецца на стол абавязкова ў якой-небудзь пасудзіне (часьцей у глінянай, таннай і ня цэлай ужо).

„Да гэтага часу вы, дарагія госьцікі, пілі-елі бясплатна, бяз грошы; а цяпер гэну кашу будзе есьці тэй, хто адкупя яе!“—кажа бабулька, ставячы „кашу“ на стол.

Пачынаецца торг за „бабіну кашу“. Дзеля гэтага з гасьцей выбіраецца адзін чалавек, які прадае яе. З хусткі робіцца зьвязак, які ставіцца на „кашу“ і ў які „купцы“ кладуць грошы за „кашу“. Каша застаецца за тым, хто апошні пакладзе ў гэтую хустку тую ці іншую монэту. Дзеля гэтага кожны стараецца ня купляць кашу з самага пачатку, каб дацягнуць да канца. А прадавец бесьперастанку выклікае, на ўсякія махеры расхвальвае „бабіну кашу“.

„Каша застаецца за Рыгорам. Хто дае больш? Харошая, смачная каша: перапечачкі, хрушчыкі цукрам пасыпаны, есьці ды аблізвацца. Хто купляя: раз... два...“ Калі да слова „тры“ хто справіцца пакласьці ў хустку монэту, каша застаецца за ім і торг пачынаецца спачатку. Торг цягнецца досыць доўга, бо кожны з гасьцей, як ехаў на хрэсьбіны, назапасіўся досыць значным лікам грашоў, капеек. Часьцей за ўсё каша застаецца за кумам. Вельмі рэдка якая-небудзь кабета прыймае ўдзел у таргу. Звычайна яны ўкінуць адну монэтку (грош, капейху) у хустку і на гэтым іх удзел у таргу скончаны.

Грошы, вытаргаваныя за кашу, бярэ з хусткай баба, а кашу—новы гаспадар, купіўшы яе. З усяго маху стукае ён гаршком ці латушкай (у якой знаходзіцца каша) аб стол. Пасуда разьлятаецца на дробныя кавалкі, каша рассыпаецца па сталу. Часта, каб пасуда засталася цэлай, бабка кашу кладзе ў якую-небудзь бляшаную пасудзіну. Але і гэта не дапамагае. Знаходзяцца такія аматары, якія лоўка і спрытна падстаўляюць нож пад пасудзіну і па нажу зьверху ўдараюць міскай. Пасудзіна не разьляцелася, але засталася дзіравай. Каб захаваць пасудзіну цэлай, бабка пачынае прасіць гасьцей ня біць міску, адбірае кашу назад. Але пакуль яна справіцца, кожны з гасьцей стараецца чым-колечы ўдарыць па пасудзіне, і апошняя рэдка калі застаецца цэлай.

Разьбіўшы гаршчок ці міску, гаспадар губляе ўжо свае правы на „кашу“. Яна становіцца агульнай. Кожны з гасьцей „пробуе“ „бабіну кашу“, а бабка надзяляе ёй усіх дзяцей, якія к моманту падзелу „бабінай кашы“ зьбіраюцца сюды амаль што з усяе вёскі. Кабеты, у якіх дома засталіся дзеці, бяруць некалькі штук пячэньняў ад бабінай кашы ў кішэню ці запазуху, бо прыехаць дамоў з хрэсьбін бяз бабінай кашы лічыцца тое самае, што вярнуцца з гораду к дзецям без гасьцінца.

За кашу бабе падносяць чарку гарэлкі, якую яна выпівае на палову з пажаданьнем унуку шчасьця, багацьця. Нявыпітую палову чаркі вылівае ўверх з пажаданьнем, каб унук рос высок і здароў, як дуб у лесе.

## „Наезды“ бабы.

А падвыпіўшыя кабеты і мужчыны абступаюць бабку і пачынаюць падпяваць:

1. Наша бабулька,
Наша галубка
А паезды любя.
А паезды любя!
А укаршомцы,
А ў новенькай
Нам гарэлкі купя,
Нам гарэлкі купя!
Запражом мы,
Запражом мы

А дванаццаць валоў,
Адвязём мы,
Адвязём мы
А бабульку дамоў!

* * *

2. А было ў бабкі, а было ў любкі
А чатыры бычкі, а чатыры бычкі.
А прыйшло да бабкі, а прыйшло да любкі
А чатыры купцы, а чатыры купцы.
—„А прадай, бабка, а прадай, любка,
Бычка рабенькага, бычка рабенькага“!
—„Мяне рабы вязе ў бабы,
Я яго не прадам, дадушы-ж не прадам!“
А было ў бабкі, а было ў любкі
А чатыры бычкі, а чатыры бычкі.
А прыйшло да бабкі, а прыйшло да любкі
А чатыры купцы, а чатыры купцы.
„А прадай, бабка, а прадай, любка,
Бычка сівенькага, бычка сівенькага!“
—„Мяне сівы вязе ў бабкі сілай,
Я й яго не прадам, дадушы-ж не прадам!
А было ў бабкі, а было ў любкі
А чатыры бычкі, а чатыры бычкі.
А прыйшло да бабкі, а прыйшло да любкі
А чатыры купцы, а чатыры купцы.
„А прадай, бабка, а прадай, любка,
Бычка чорнага, бычка чорнага!“
—„У мяне чорны круціць жорны,
Я й яго не прадам, дадушы-ж не прадам!“
А было ў бабкі, а было ў любкі
А чатыры бычкі, а чатыры бычкі.
А прыйшло да бабкі, а прыйшло да любкі
А чатыры купцы, а чатыры купцы.
—А прадай, бабка, а прадай, любка,
Бычка бурага, бычка бурага!“
—„Мяне буры вязе ў гулі,
Я й яго не прадам, дадушы-ж не прадам!“

Зьбіраюцца адвазіць бабку дамоў. Вязуць яе рознымі спосабамі: у начоўках, на баране, на санях, на калёсах, што скарэй пад рукі пападзецца. Калі вязуць на баране, на зубы расьцілаюць кажух ці сьвіту, сілком сядзяць бабку і трымаюць яе, каб яна не ўцякла. Цягнуць кабеты, ім дапамагаюць падвыпіўшыя мужчыны. У час паездаў пяюць розныя прыпеўкі, песьні (ня хрэсьбінаўскія). Бабку мучаюць, „зьдзекуюцца“ над ёй да таго часу, пакуль яна ня дасьць выкупу (гарэлкай). Некаторыя бабкі, каб адразу збавіцца ад „паездаў“, яшчэ ў хаце ставяць абступіўшым яе кабетам выкуп. У гэткім разе яе не чапаюць— яна адкупілася ад паездаў.

## Выпраўленьне кумоў і разьезд гасьцей.

Па сканчэньні торгу за бабіну кашу і падзелу яе, гаспадар (муж парадзіхі) пачынае рыхтаваць падводу пад кумоў для таго, каб вязьці дзіцянё к хросту. У павозку запрагаецца ўласны конь гаспадара. Дзяцёнка туды і назад вязе кума, а кум кіруе канём.

У некаторых мясцовасьцях Барысаўскага раёну (в. Вяляцічы і інш.) за кумоў прынята браць падросткаў гадоў 13-15. Кумы, па мясцоваму звычаю, ня маюць права брацца (жаніцца) паміж сабою. Гэты звычай у апошнія гады пачынае зьнішчацца і нярэдка бываюць выпадкі, калі ня толькі кум з кумой, але і хросны бацька жэніцца на хроснай дачцэ.

Па ад‘езьдзе да папа кумоў хрэсьбіны лічацца скончанымі. Госьці, забіраючы свае рэчы, пачынаюць разыходзіцца па хатах.

К прыезду кумоў ад папа часта завуць бабку і іх траіх садзяць за стол падмацавацца з дарогі. Гарэлка і тут займае не апошняе месца. Але гэтая „падмацоўка“ праходзіць ціха і спакойна, бяз песень і ўсялякіх звычаяў.

*Увага:* За бабку прынята браць кабету, якая сама мела дзяцей, але ўжо па старасьці ці па іншай прычыне ня мае надзеі іх мець больш.

---

А. Шашалевіч.

# Па Гомельскай акрузе.

*Краязнаўчыя нататкі.*

## I. Уваравічы.

Менскі цягнік прыходзіць на ст. Узу каля адзінаццатае гадзіны раніцою. Адтуль да Уваравіч 6 кілёмэтраў. Бяру фурмана, і мы коцім туды. Праяжджаем вялікую прытульную вёску Рудзянец. За ёю скора пад'ехалі і да Уваравіч. Перад самымі Уваравічамі прыгожы шлях з дубовымі прысадамі, якія на дзіва захаваліся. Канчаюцца дубовыя прысады, пачынаецца з правага боку дарогі вялікі ў некалькі гэктараў пладовы сад, які раней належаў пану Ліпінскаму. А ў самым пачатку сада прыгожае гарадзішча, праўда, невялікае ў разьмерах, але добра захаванае. Месца гэтае завецца тут „Гарадком", і пра яго шмат існуе тут легенд і паданьняў. Кажуць аб бочках золота, якія быццам тут закапаны, і як хочаш абвяргай гэтую казку—старажылы ўпарта адстойваюць яе. На гарадзішчы растуць цяпер вялікія дрэвы—дубы, бярозы і розныя хмызьнякі, а ўнізе разьляглася балацяная Уза і адчыняецца бязьмежная прастора палёў.

Сад канчаецца паркам, зусім невялікім, расплянаваным на ангельскі манер. У парку дом б. пана, а цяпер тут зьмясьціўся РВК. Нічога асаблівага ў будынку няма.

Насупроць РВК бровар. Да бровара ўвесь час цягнуцца сялянскія падводы з бульбай. Тут вельмі шумна: у раёне ў гэтым годзе бульба ўрадзіла, і сяляне сьпяшаюцца скарыстаць сухое надвор'е, каб падвезьці на бровар па сходнай цане бульбу.

Заходжу ў РВК, пытаю пра краязнаўчае Т-в^а^. Інспэктара асьветы няма і няма каму даць мне весткі, ці ёсьць тут арг^а^нізацыя ці няма. Параілі пайсьці ў школу сямігодку. Іду праз доўгую і досыць шырокую вуліцу, якая ў той-жа час зьяўляецца і рынычным месцам. Стаяць сялянскія падводы са збожжам, яблыкамі. Прыслухоўваюся да гутаркі. Выразнае аканьне і цьвёрдае р. Цікавыя звароты мовы, новыя словы ці новае разуменьне вядомых мне слоў. Так слова „крыўляцца" разумеюць тут у сэнсе крыўдзіцца, быць нездаволеным. Адна баба перадае другой:

—Вы крыўляецеся, што маей даццы багата трэба, дык нехай дома сядзіць і нікўды ня йдзе!

Вось яшчэ цікавыя словы, якія пачуў тут: 1. златышы́ць крышу (пакрыць „латамі"), 2. нутры́ (вантробы), 3. по̀далека (ня вельмі далёка), 4. глытачкі (рэўматычныя вузёльчыкі), 5. нажо̀н (лік сжатага: „сяголета нажо̀н луччы"). 5) удзечаства—урочышча: нам даюць зямлю ў Чапцовым імху, ды там плахо̀я ўдзе́частва. Таксама вельмі цікавае тут вымаўленьне, пявучае, мяккае, ня гледзячы на шырокае аканьне. Апошняе асабліва прыкметна са слоў аднае бабы, што жалілася другой:— У міне, галубачка, гора, гора. Сына пабілі, дык дохтар гавора, што ў яго нешта *паралд̀мана*!

Загадчык школы 7-кі вядзе са мной доўгую гутарку. Ён сядзіць у настаўніцкай, лекцый у яго няма. Паведамляе, што краязнаўчае т-ва ў раёне ёсьць, што гэтую працу вядзе настаўнік Купрэеў, што пры 7-цы

таксама ёсьць вучнёўскі краязнаўчы гурток, але працы гуртка яшчэ няма, бо ён заснаваўся толькі ў гэтую восень. Мы говорым аб форме і зьмесьце працы вучнёўскіх гурткоў.

Прыходзіць сакратар т-ва т. Купрэеў. Да слоў загадчыка 7-кі ён дадае вельмі мала: т-ва заснавалася толькі вясною, абрана праўленьне з 3-х асоб, старшыня т-ва жыве ў 4-5 вяр. ад Уваравіч і гэта перашкаджае наладзіць плянавую працу. Папулярызацыя краязнаўчай працы вялася, і вынікам яе запісалася 60 сяброў. Праўленьне заснавала 4 гурткі ў раёне, выпісала для іх „Наш Край", але аб працы гурткоў нічога ня чутна. Праўленьне мае невялікія сродкі ад сяброўскіх складак. На настаўніцкай конфэрэнцыі ў восень быў даклад ад т-ва, была інформацыя аб пляне працы т-ва. Цяпер т-ва пастанавіла троху зьмяніць плян працы і правесьці сталую працу ў адным напрамку. Такой працай т-ва лічыць вывучэньне рэўруху ў раёне. Гэтае вывучэньне будзе складацца з паасобных заданьняў, якія будуць прапанаваны сябрам т-ва.

Доўга гаворым, як і ў якім напрамку ажывіць, ці правільней кажучы, распачаць працу т-ва. Але настаўнікам трэба закончваць лекцыі, і я прымушаны пакінуць школу. Мы ўмовіліся ў гэты дзень вечарам, калі ў школе будуць заняткі савецкіх служачых па вывучэньні беларускай мовы, сабраць краязнаўчы сход, на які запрасіць служачых і настаўнікаў местачковых школ.

Я іду „вывучаць мястэчка". Уласна кажучы, яно не падобна да мястэчка. Яўрэяў вельмі мала, няма цеснаты, зьбітасьці ў адну кучу, як у іншых мястэчках. Уваравічы, ці як тут завуць „Ва̀равічы"—вялікая, ва ўсе бакі расьцягнутая вёска. Хаты, гумны з ёўнямі, двары, студні, увесь уклад жыцьця такія самыя, як на Магілеўшчыне. Увесь местачковы характар Уваравіч выяўляецца з таго, што ёсьць стары заежджы дом з дзіравай падлогай і некалькі прыватных крамак, якія невядома чым гандлююць. Усё жыцьцё каля коопэратываў. Ад раньня да вечара крамы перапоўнены народам. Усе тавары, што прывозяць, у адну хвіліну разьбіраюць. Асабліва вялікі попыт на крамніну, абутак, скуру, жалеза.

Праходжу вуліцу з канца ў канец, заходжу ва ўсе коопэратывы, прыглядваюся, як і чым гандлююць, якія цэны, якія тавары, аб чым гамоняць спажыўцы-сяляне. Тут менш можна пачуць оханьня ды аханьня з прычыны нашых гаспадарчых замінак, нездаволены толькі чаргамі, якія наглядаюцца пры продажы мануфактуры ды скураных тавараў. Невядома, каго і вінаваціць: прадаўцы працуюць да сёмага поту і ня ў прыклад больш спрытны за менскіх прыказчыкаў у коопэратыўных крамах.

Зноў іду да РВК і адтуль праз прыгожы парк і сад накіроўваюся да гарадзішча. Гэтае месца, памойму, лепшае і самае прыгожае месца ў мястэчку. Вымяраю яго, уважліва аглядаю паверхню ў надзеі, што можа што-небудзь знайду. Але ўсё зарасло векавымі дубамі і нават трава ня ўзрыта. Толькі ў адным месцы, дзе, як відаць, быў уезд на гарадзішча, дзе стаяў надмагільны помнік пану, зямля разрыта, ад мармуровага помніка застаўся толькі адзін пастамэнт з надпісам на польскай мове, усё іншае, як відаць, з гневам было разьбіта на дробныя кавалкі. Sic transit...

Як сьцямнела, прыходзіць да мяне т. Купрэеў. Разам ідзем да сакратара РКПБ, яго няма дома. Заходзім да Апа Райкому т. Музычкінай. З ёю гаворым аб краязнаўчай працы і неабходнасьці падтры-

маньня яе з боку Райкому. Прыходзім да згоды і вызначаем некаторыя спосабы ажыўленьня краязнаўчай працы ў раёне. На краязнаўчым сходзе думаем паставіць пытаньне аб коопटаваньні ў склад праўленьня некаторых асоб. Т. Музычкіна згаджаецца на сваю кандыдатуру.

Сход праходзіць здавальняюча. Даклад аб зьмесьце і мэтодах краязнаўчай працы слухаюць уважліва. Прысутнічала каля 35 асоб. Пасьля дакладу пачынаецца гутарка. Некаторыя даюць паведамленьні аб цікавых рэчах і фактах у раёне. Кажуць, што тут былі вельмі цікавыя летапісы, якія сабралі з усіх цэркваў і ў вялікім ліку адаслалі ў Гомель, а мясцовая краязнаўчая організацыя праваронiла гэта і нават не пацікавілася праглядзець іх. Гаварылі яшчэ, што ў в. Рудзянец жыве 120-гадовы дзед Рабіна (вельмі ня любіць, калі яго так дражнюць), запраўднае прозьвішча якога Варуеў, дык ён вельмі здатны апавядальнік розных жартаў, прыгод і яшчэ гэтым летам касіў і не адставаў. Назвалі некалькіх жанчын уваравіцкіх, якія маюць добрыя галасы і яшчэ ведаюць старыя песьні. У моладзі лепш ня пытай—ніхто ня ведае. Моладзь лічыць гэта адсталасьцю, захапляецца мяшчанскімі рамансамі і прыпеўкамі. Падыходзіць яшчэ чорны барадач (пасьля я даведаўся, што гэта быў страхагент Лукомскі) і гаворыць, што ён мае касьцяны кінжал, які знайшоў каля Чачэрску ў рацэ, як сецямі лавіў рыбу. Дагадваюся, што гэта, як відаць, была прылада накшталт цяперашняй астрогі. Гаворыць яшчэ, што ў яго было шмат музэйных рэчаў і бібліотэка, але ўсё гэта забралі, як пачалася „завіруха".

На другі дзень у мяне зраньня вольныя гадзіны. Іду на вёску. Бачу цікавыя орнамэнты надваконьнікаў. Выймаю блёкнот, рыхтуюся замаляваць іх. Раптам адчыняецца кватэрка, высоўваецца галава ўчарайшага барадача і тэнар крычыць:—Таварыш, можа зайдзецеся зірнуць на кінжал? Іду, гляджу. Праўда, прылада вельмі цікавая і мастацкі зробленая. Разглядаюць яе ўсе супрацоўнікі страхагэнцтва, разглядаюць яе і некаторыя кліенты, што прышлі па справах. Забыліся на справы і паперы, усе занялiся гутаркай на краязнаўчыя тэмы. Барадач зноў кажа, што ў яго было шмат каштоўнага і цяпер яшчэ троху засталося. Але супрацоўнікі ня вераць гэтаму і падзуджваюць:—Нічога ў цябе няма. Можа было калісь!—Ах вы-ж, чэрці! У мяне няма? крычыць барадач, спрытна нясецца ў другі пакой, дзе, як відаць, яго кватэра, і прыносіць скрыначку са старымі срэбнымі грашыма. Буйныя грошы, да 40 монэт. Агент зьвяртае нашу ўвагу на мядзяныя кацярынінскія грошы, што адбіты былі ў Кацярынбурзе. На грошах адчаканены дзьве лісічкі.

Пагутарыўшы з гэтымі сымпатычнымі людзьмі, іду далей на вёску. Заходжу ў хату Ільлі Кабаева. Мне сказалі, што там ёсьць жонка Ільлі і дзьве дачкі, якія добра сьпяваюць. Але як адразу сказаць пра гэта? Трэба яшчэ намацаць глебу. Кажу, што ў мяне ёсьць справа да іх. Зьдзіўлена паглядаюць то на мяне, то адна на адну—мужчын у хаце ня было. Агледзеўшыся троху, кажу, што хацеў-бы паглядзець, а можа і купіць што-небудзь з іх хатніх вырабаў—рушнікоў, посьцілак, настольнікаў. Нават не адгаварваючыся, адна дачка падыходзіць да вялізнай скрыні, адчыняе яе і просіць мяне падыйсьці. Я падыходжу і вочы мае разьбягаюцца. О! чаго толькі тут няма! Самае тонкое выбеленае палатно, старасьвецкія жаноцкія сарочкі, рушнікі і пратыканыя і вышываныя, безьліч настольнікаў і на 5, і на 6, і на 8 і на 10 нітоў. Ёсьць нават некалькі набіванак. Усё гэта так прыгожа і даbabротна выглядае, што нельга пазбавіцца ад спакусы што-небудзь

купіць, хоць самае таннае. Цэны запрошаны „прыстойныя“ і без пава-роту. Сяляне цяпер ведаюць, як ацэньваць гэтую марудную працу. Купіў рушнічок, адклаў яго, сеў водаль, каля вакна, і перайшоў да больш важнай справы — запісаць мэлёдыі і словы песень. Надзіва, жанчыны не ламаліся і адразу пачалі сьпяваць: матка і дзьве дачкі. Прыемна было слухаць іх гармонічныя песьні і добрыя галасы. Жаль толькі, што я адарваў іх ад працы. Пасьпеў запісаць мэлёдыі і словы 4 песень: 1. Падымалася сы мора пагода, 2. Плавала вутка па мору хутка, 3. Пасадзіла чорныя зельля, зелійка ў гародзі.

Запрасілі мяне на вечар. Тады яны будуць вольнымі, абяцалі сабраць поўны хор жанчын і дзяўчат.

Ад Кабаевых я пашоў да школы, дзе мы зноў абмяркоўвалі плян працы, гаварылі аб фэнпункце і фэннагляданьнях. Выршылі заснаваць пункт пры школе.

Пасьля абеду я зайшоў да Макара Жыліцкага, які лічыцца старэйшым на вёсцы. Мне цікава было распытаць яго аб гарадзішчы, аб паўстаньні 63 г. На маё запытаньне, дзед кажа, што ён ня самы старэйшы на вёсцы. Дзеду пры паншчыне было 18 г. А ёсьць другі дзед Мільлян, дык той быў ужо жанаты, а Макар яшчэ „бегаў па ляду“. Неахвотна дзед успамінае мінулае. Адгаварваецца:

— Пражылае прайшло ўжо! Мабуць і праўду кажуць, што ста̀рая плашэй було̀. Усё на пана рабілі. Тады і гаварылі так: пагода ваша, а нягода наша! А пра польскі бунт нічога ня скажу! Ніякіх зьдзелак тады ні было! Хадзілі на байдак (?) атрабатываць паншчыну ды і ўсё!

— А як ты цяпер жывеш?

Дзед сумна сьмяецца.

— Жывем з бабай, ды ажыдаем ад бога высьпятка. Паміраць-жа ня хочам.

— А жыцьцё наша, дык во палядзі: два мяшочкі жыта намалаціў, пяць ёвянек, ды кароўку маем. Паечка ў балоце, яе выкашу, дык сенца ёсьць. А зямельку ўсю сыны ўзялі, толькі 2 дзесяціны мне.

У размову ўступае і баба, якая дагэтуль моўчкі секла капусту ў карыце.

— Ламѐчча мы, на што мы каму? Калані нас пад бок, дык капейкі ня но̀йдзіш! Ніхто нас не пажалее.

— Багата ў цябе сыноў? пытаюся я.

— Э, мілы чалавеча! Два разы я быў жанаты, а дзяцей було ў мяне, як у Сроля. Ужо і забыўся, сколькі было!

Сьмешная гісторыя! Выходзіць, што гэтыя Філемон і Баўкіда па два разы шлюб бралі. Цяпер ім абодвым па 75 г. і абодвы зьяўляюцца вельмі чыстымі этнографічнымі тыпамі. Бадзёрыя людзі, ня гледзячы на іх скаргі на старасьць.

— Бывай здароў, дзед! кажу я на разьвітаньне.

— Шчасьліва скачы! адказвае ён мне.

Вечарам у Кабаевых зьбіраецца вясёлая кампанія баб і дзяўчат. На стале пачастунак—яблыкі і скромная вячэра—параная бульба, соленыя агуркі і капуста. Моцна гучыць жаночы хор. Ад песень кружыцца галава, ня ўсё магчыма занатаваць, бабы сьпяшаюцца сьпяваць, кажуць, што даўно яны гуртам сьпявалі. Запісаў каля 10 мэлёдый і словы да іх. Моральна супакоены і эстэтычна ўсхваляваны каля 10-ай гадзіны ночы пашоў я спаць, каб заўтра рана ехаць далей.

## II. Церахоўка.

Сеўшы на цягнік на ст. Узе, еду на Гомель і адтуль на Церахоўку рабочым цягнікам. Абапал чыгуначнай лініі да самага Гомлю сады, сады і сады. У Гомлі спыняюся, заходжу ў Дзяржаўны Музэй, дзе зьмяшчаецца і Акругавае т-ва краязнаўства. Завязваю сувязь, бяру ад т-ва розныя даручэньні, бегла аглядаю музэй (некалькі разоў быў), заўважваю, што музэй ужо мае краязнаўчы аддзел, які паступова папаўняецца. Ад Гомлю да Церахоўкі доўгі час едзем праз сасновы з бярэзьнікам лес. Чамусьці здаецца, што нідзе няма такога прыгожага, стромкага непапсаванага прасекамі і ломам лесу, як па дарозе ад Гомлю да ст. Вуць. Рабочы цягнік вязе галоўным чынам рабочых з гомельскіх фабрык і на кожнай станцыі і паўстанцыях пакідае групы рабочых, якія шпаркімі крокамі расплываюцца па блізляжачых вёсках. Месячны праезд рабочаму абыходзіцца ў 8 руб.

Ад ст. Церахоўкі да раённага цэнтру—сяла Церахоўкі (мястэчкам яго нельга назваць) паўтара кілёмэтры будзе. Шлях абсаджаны прыгожымі старымі вербамі. Сярод пануючага тут бязьлесься гэты шлях упрыгожвае ўсю мясцовасьць, роўную, бязьлесную, досыць аднастайную, асабліва цяпер, у восень.

Ужо цёмна, калі я іду да Церахоўкі. Выходзіць так, што Церахоўка — гэта доўгае, доўгае сяло, бяз усякіх адзнак прытулку, дзе можна было-б спыніцца праежджаму чалавеку, мець ложак і шклянку гарбаты. Усе, хто па справах наведвае раённы цэнтр, спыняюцца каля чыгуначнай станцыі. Там ёсьць „чайная“, дзе ў асобным пакойчыку пастаўлена некалькі лавак, нічым не засланых, і праежджы такім чынам на гэтых пракруставых ложках можа так-сяк пераначаваць. Я ня ведаў гэтага, і мне прыходзіцца прасіцца на начоўку ў першых хатах, якія папаліся. Але ніхто ня пушчае. Адгаварваюцца цеснатой. І праўда, хаты больш-менш вольныя пазанялі савецкія служачыя, якія з вялікімі перашкодамі разьмясьціліся тут, бо раён тут заснавалі нядаўна, і ня дзіва, што зусім яшчэ няма тут умоў для разьмяшчэньня ня толькі служачых але і самых установ. Толькі дзьве ўстановы ў больш-менш пераносных умовах—гэта РВК і больніца, але яны знаходзяцца побач адно з адным, што зусім не адпавядае прынцыпам санітарыі. Пры РВК ёсьць дынамо, і, такім чынам, больніца і РВК карыстаюцца электрычным сьвятлом.

Доўга я бадзяюся па сяле, шукаючы прытулку. Пытаюся ў групы дзяўчат, якія гутараць, стоячы каля хат. Завязваецца з імі цікавая гутарка. Цэлую гадзіну стаю з імі і выведваю ад іх усё, што ў гэтую хваліну адбываецца ў вёсцы: нядаўна праводзілі прызыўнікаў і цяпер без хлапцоў засталіся. Я вельмі дзіўлюся, што мова тут досыць чыстая і яшчэ зусім няпрыкметна ўплыву Украіны. Мова тут тая самая, што і ў Уваравічах, але нібы троху мякчэйшая, з невялікімі адхіленьнем ад аканьня. Дзяўчаты кажуць: грòшэй, жаль цібé, ну ня так, як сібè, пад кòзну, пажывіцé, пры харошых дзіціх і г. д., але ўсе гэтыя прыклады рэдкія, часьцей чуеш выразнае, „пераліўнае“ аканьне: адкрадаць, спрòбаваў, парамяніла, вèям, прѝхамаці, прыцèмкам і г. д.

Я так заюшыўся, гаворачы з дзяўчатамі, што забыўся нават пра тое, што мне трэба шукаць прытулку. Яны мне са сьмехам напомнілі гэта. Урэшце даюць мне раду завярнуць да аднаго селяніна, у якога на кватыры тры служачых. Іду да яго. І праўда: адразу пушчае

мяне ў хату, даведаўшыся, што мне няма куды падзецца. Хата чыстая з кухняй. Праз пяць хвілін мы ўжо гаворым з гаспадаром, як добрыя прыяцелі.

Прозьвішча селяніна Канцавы Сьцяпан. Каля двох дзён прабыў я ў Церахоўцы і ўвесь час зацікаўлена прыглядаўся да яго. Калі-б занатаваць усё тое, што гаварыў Сьцяпан, дык пэўна вышла-б гісторыя, ня менш цікавая за тую, што зьмясьціў Дабравольскі ў I т. сваіх прац. Сьцяпан—сын багацея, які ў старыя часы меў млын. Сям'я была шматлюдная, усе члены яе былі ў поўным паслушэнстве ў бацькі. Сыны „калà 'цца віньцèлі"—кажа Сьцяпан. Матка Сьцяпана мела 22 дзяцей, цяпер ужо штук 5 засталося. Сьцяпану цяпер 38 гадоў. Год таму назад ён ажаніўся ў другі раз і жонка, пражыўшы з ім 11 месяцаў і нарадзіўшы дзіцё, кінула Сьцяпана. Мала таго, падала на суд і прысудзілі яму 160 р. заплаціць жонцы і кожны месяц выплачваць па 5 р. Гэта пранікненьне „новага быту" ў жыцьцё Сьцяпана моцна аглушыла яго, зрабілася нейкай idée fixe, якая кожную хвіліну сьпасьцерагае чалавека. Гаспадарка яго няважная, толькі жыве ад кватарантаў, якія плацяць яму па 4 р. у месяц, а сям'я яго—Сьцяпан ды дачка 16 г. ад першага шлюбу. Мімаволі прыходзіцца злавацца на жонку, што кінула і „зацягнула на шыі вяроўку", як ён кажа.

Сьцяпан кожнаму, хто толькі ня прыдзе ў хату, пачынае гаварыць пра сваю жонку і тую шкоду, што яна нарабіла. Разоў сем ці восем слухаю я гэту сумную гісторыю, якая падаецца на розныя лады і з розных пунктаў гледжаньня.

—Яе ўжэ кòдла такòя було! кажа Сьцяпан. Ета-ж за мінè, за трэцяга йшла! А ўсё харошыя людзі былі і ціпер йішчэ жывуць; а на іé і глядзець ні хочуць! У ваднаго було гуменца як трэба, дварэ̀ц (двор), хата, усё, што трэба на абыхòдку. Ні спанаравілася жыць ды работаць! Ціпер за міне пайшла. Конь у міне, дзьве каровы, лашонак, авечка, сьвінкі. Што-ж йішчэ трэба. Зямлі праўда мала. Бацька, як дзяліў міне, ні даў багата. Ды і на етай дозі—гавару я з ёю—мы змаглі-б жыць, каб ты была хаця хазяйка. Я-ж чалавек і ўсё ў міне як у чалавека. Ні п'яніца я, ні гультай. Ці було калі, штоб я набракаўся вуодкі. Ні ведаю, якога ёй канавода трэба?

Ціпер-жа бяз бабы як быці? пытае ён у мяне. Бяз бабы бясцэнна жывеш. Мармашэлі якой і той ня навaрыш! Баіцца да мінè вярнуцца. Гавора мне: „Ты міне зарэжаш". Што я цібе буду рэзаць нажом? Я йшчэ і кулаком цібе нарэжу, каба толькі энэргія была! Ета ты толькі й думаяш, як мне зла із'дзелаць, сваю сэ̀рцу ня зьменіш аніяк, а я пражыву і так! Сьвет ня клінам сышоўся на табе! Людзі памагаюць, заплòціш—памагаюць! А ты як будзіш? Грошы мае ўжэ правяла—летам на станцыю, на кінькі (кіносэансы) хадзіла. Я сь сілы выбіваўся, спòту ні схадзіў, а ты гігікі спраўляла. Ты лярва 'дным словам! Шчàсьліў пуць хоць і век ня будзь! гнеўна канчае сваю тыраду Сьцяпан.

Запісваю некаторыя цікавыя словыя і звароты мовы: 1) падòлець (осилить), 2) швàрка—гарсэт; на маёй бацькаўшчыне ў Чэрыкаўшчыне гэта завуць „кабàт", 3) юпка—жаноцкая „тужурка", куртка; 4) скарадзьбíк (цікавы суфікс ік, чаму не скарадзьбіт, як у нас кажуць); 5) дылì потым; 6) злáдзіць—прысьці да згоды; 7) шỳець—чепуха, зброд (літ. „накипь"); 8) лабачòк—бугорок: як на лабачкỳ дык бульба, як гарох, а ў лашчынцы дòбрая; 9) набузя̀ніць—загрязьниться: кнот набузя̀ніўшы, трэба яго працярэць.

На другі дзень раніцаю іду ў РВК. Вяду гутарку з усімі, хто можа дапамагчы разьвіцьцю краязнаўчай працы ў раёне: з старшынёй РВК, з сакратарам райкому КПБ, з сакратаром РВК. Старшыня РВК паведамляе, што ён ніколі ня чуў пра існаваньне ў Церахоўцы краязнаўчай організацыі, яе проста кажучы і няма, бо каб была, ён-бы ведаў. Сакратар райкому недаверліва пытае пра сутнасьць і зьмест працы такіх організацый. Відаць, што ў раёне шмат усялякіх грамадзкіх організацый і цяжка ўсім організацыям надаць жыцьцёвы характар. Сакратар, як відаць, не мясцовы чалавек, чыстая вялікаруская гаворка ў яго, і аб вывучэньні краю ён гаворыць тонам прыстойнага спачуваньня. Абяцае быць на сходзе заснаваўцаў краязнаўчай організацыі ці паслаць свайго намесьніка. На жаль, няма інспэктара асьветы і я ніяк не магу даведацца, ці ёсьць што-небудзь тут падобнае да краязнаўчага бюро.

Іду ў школу, каб даведацца аб гэтым. Там мяне настаўнікі ветла сустракаюць. Загадчык школы т. Бандарэнка інформуе мяне, што ў мінулым годзе магчыма і была падобная організацыя, але сама сабой распалася, бо ўсе чыста настаўнікі перавяліся ў іншыя месцы, а тут цяпер усе новыя. Я гавару аб мэце свайго прыезду і надзіва мы хутка прыходзім да поўнае згоды. Загадчык школы ад імя колектыву абяцае наладзіць тут хаця-б самую мінімальную краязнаўчую працу. Дагаварваемся ў гэты дзень вечарам наладзіць сход у школе. Я зноў іду ў РВК і там з дазволу старшыні РВК вывешваем абвесткі аб сходзе. Рассылаем іх. Яшчэ распытваю пра жалезную руду, якую ў значнай колькасьці знайшлі ў Церахоўскім раёне. Невядома, хто прыслаў у Гомельскае Акруговае Т-ва ўзоры гэтай руды і па досьледах выявілася, што руда мае каля 90% чыстага жалеза. З гэтае прычыны я зацікавіўся месцазнаходжаньнем руды. Мяне паведамілі, што дакладных вестак аб раёне, дзе знаходзіцца руда, няма, але гэтую руду абсьледваў майстар Гомельскага Акрзему т. Рубінчык і ад яго можна атрымаць усе весткі аб гэтым.

Перад вечарам заходжу да заштатнай настаўніцы М. Шымковіч, якая пропагандуе ў раёне разьвядзеньне морвы. У гэтым годзе яна атрымала каля 15 ф. шаўкоўных коканаў, якія былі пасланы ў Маскву і за гэта Масква выслала 15 р. (вельмі мала канешне!). Беларускае бюро шаўкаводзтва ў Менску таксама вызначыла прэмію Шымковіч у 15 руб. Церахоўка—раён, дзе можна вельмі пашырыць гэты занятак насельніцтва. Каля школы ёсьць некалькі дрэў, каля больніцы 20 дрэў, у Гардунскім сельсавеце старшыня сельсавету Лізагуб і яго жонка цікавяцца гэтым, там у Гардунах у б. маёнтку ёсьць у значным ліку тутавыя дрэвы (морва). У сялян можна сустрэць гэтыя дрэвы, іх ахвотна разводзяць дзякуючы смашным ягадам, якіх часта бывае, больш, чым лісьця. Шымковіч сама засадзіла каля 40 дрэўцаў у сваім садзіку, гэта самае ахвотна зробяць і другія сяляне, неабходна толькі наладзіць бясплатнае распаўсюджваньне саджанцаў.

Вечарам наш сход не адбываецца: прыходзяць толькі настаўнікі. Другія запрошаныя ідуць на сход ячэйкі, які на гэты дзень яшчэ раней прызначылі. На другі дзень, у суботу, мы зноў прабуем у абедзенны час склікаць сход, але зразумела мы маем фіяско. Такім чынам, у Церахоўцы ня прышлося аформіць існаваньне краязнаўчай організацыі. Заснавалі невялікую групу настаўнікаў, на чале якой заг. школы

т. Бандарэнка і наст. Гарбачэнка. Гэтая ініцыятыўная група ў бліжэйшы час аформіць існаваньне організацыі і распачне працу. Заснавалі яшчэ фэнпункт і намецілі зарэгістраваць помнікі старасьветчыны ў раёне— за гэта з ахвотай узяўся наст. Гарбачэнка, які ў бытнасьць студэнтам пад кіраўніцтвам менскіх археолёгаў практычна знаёміўся з архэолёгічнай працай. Некаторая краязнаўчая праца праводзілася вучнямі Цераховўскай школы і да гэтага часу. Так, напр., ёсьць гэрбарыі, у якіх адбіліся мясцовыя азначэньні расьлін. У памяці засталіся некаторыя мясцовыя назвы: цьмен (імортэлі), мацярынка (маці-мачыха), любісьцік, душок ці каныфар.

Вечарам, перад ад'ездам, да дачкі Сьцяпана прышлі дзяўчаты. Зразумела, я ўпрасіў іх сьпяваць песьні. Доўга ламаліся яны і як зьвяркі пазіралі на мяне, і давялося шмат дыплёматычных фокусаў ужыць, кад дабіцца сваёй мэты. Ад іх я запісаў усяго 5 мэлёдый. Песьні тут менш гучныя, чымся ў Уваравічах, пяюць з нейкім глотачным гогатам, канцоўкі афарбоўваюць спэцыфічным прыгаласкам, крычаць на ўсе грудзі. Запісаны песьні: 1. Як у нашых палях юраджаю німа. 2. Хвалілася ды дзевачка. 3. Ой ляцелі гулубяткі. 4. Чагось міне нудна, йішчэ будзя дзіўна. 5. Ой ці скора вечар той будзя.

# ХРОНІКА.

## Усім краязнаўчым арганізацыям.

Хутка адбудзецца дзесятая гадавіна абвяшчэньня Беларускай Савецкай Социялістычнай Рэспублікі. Кожны з краязнаўцаў разумее вялізнае значэньне гэтага факту. Волатаву працу прарабілі за гэтыя 10 год рабочыя і сяляне БССР над адбудаваньнем свае народнае гаспадаркі і культуры. Значны ўдзел прымалі ў гэтым і краязнаўцы. Таму асабліва шчыры і багаты вынікамі павінен быць удзел краязнаўцаў у найвялікшым сьвяце працоўных мас Беларусі, у сьвяткаваньні дзесятай гадавіны свае рабоча-сялянскае рэспублікі.

Як заўсёды, дапамагаючы савецкаму будаўніцтву, мясцовыя краязнаўцы павінны вылучыць ад сваіх організацый прадстаўнікоў у камісіі па сьвяткаваньні вялікай гадавіны.

Не адкладваючы на далейшы час, мясцовыя краязнаўцы павінны дасьледваць як адлюстравалася і як было спаткана рознымі пластамі насяленьне мясцовага краю абвяшчэньне Беларускай Савецкай Социялістычнай Рэспублікі, як ішло на працягу гэтых год адбудаваньне мясцовай гаспадаркі і культуры, якія вынікі гэтага і пэрспэктывы на далейшы час і д. т. п. і адаслаць свае працы ў копіях рэдакцыі свае акруговае або цэнтральнае газэты ці часопісу, даць адпаведны матар'ял рэдакцыям насьценных газэт, а самае галоўнае—кожная краязнаўчая організацыя павінна выдаць свой рукапісны або шклопісны часопіс, у якім-бы былі адпаведныя гадавіне матар'ялы.

Там, дзе будуць організаваны выстаўкі, краязнаўчыя організацыі павінны прыняць удзел экспонатамі аб сваёй чыннасьці і іншымі матар'ялямі, а пасьля выставак—скарыстаць экспонаты для папаўненьня свайго музэю або для заснаваньня такога, калі яго яшчэ няма. Адчыненьне новых музэяў трэба зрабіць у дзень гадавіны.

У гэты-ж дзень краязнаўцы павінны выступіць з адпаведнымі дакладамі краязнаўчага характару, організаваць адпаведныя краязнаўчыя вечарыны і г. д.

Пасьля сьвята краязнаўцы павінны напісаць у акруговую або цэнтральную газэты і ў акруговыя краязнаўчыя таварыствы падрабязныя інформацыі аб тым, як праходзіла гэта вялікае сьвята на мясцох, які ўдзел прымалі ў ім краязнаўцы і розныя групы насяленьня.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства спадзяецца, што і на гэты раз мясцовыя краязнаўцы выявяць сваю багатую ініцыятыву, якая будзе мець добрыя вынікі.

Старшыня ЦБК **А. Казак.**
Навуковы Сакратар **Касьпяровіч.**

## Дзейнасьць ЦБК.

### Пасяджэньне 26/X.

Заслухана справаздача старшыні краязнаўчага гуртку пры Менскім Белпэдтэхнікуме т. Карпіловіча аб дзейнасьці гуртка. Заслухалі даклад т. Аляксандрава аб школьна-краязнаўчай працы на мясцох. Даручана на падставе існуючых у ЦБК матар'ялаў скласьці артыкул мэтодычнага характару аб працы школьна-краязнаўчых гурткоў і зьмясьціць у „Нашым Краі“. Прызнана першачарговым заданьнем у працы школьна-краязнаўчых гурткоў выданьне ўласнага краязнаўчага рукапіснага часопісу. Зацьверджаны зьмест № 11 „НК“ за 1928 г. Разгледжана пытаньне аб пашырэньні падпіскі на „Наш Край“. Прынята пастанова: 1) усім краязн. організацыям разаслаць квітковыя кнігі з просьбай узяцца за распаўсюджаньне падпіскі; 2) ад імя НКА і ЦБК разаслаць усім школам павышанага тыпу ліст з прапановаю падпісацца на „Наш Край“; 3) падпісную плату вызначыць у суме 4 руб. на год; 4) за зьбіраньне падпіскі вызначыць прэмію для краязнаўчых організацый у разьмеры 10% з агульнай сумы і паасобным забіральнікам за 10 экзэмпляраў гадавых ці паўгадавых высылаць бясплатна часопіс год ці паўгода; 5) усім гадавым падпішчыкам як дадатак выслаць „Апісаньне Асіпавіцкага раёну“ ч. II. Разгледжана пытаньне аб мэтодычнай дапамозе з боку ЦБК найбольш актыўным краязнаўцам. Даручана т. Аляксандраву ўкласьці програму такой

падрыхтоўкі і прыкладны сьпіс краязнаўчых тэм.

### Пасяджэньне 2/XI.

Заслухан даклад т. Жураўскага аб выніках фэнолёгічных нагляданьняў у БССР. Даручана фэнкамісіі абмеркаваць пытаньне аб формах апублікаваньня нагляданьняў і пляне далейшае фэнолёгічнае працы на Беларусі. Зацьвердзілі плян абсьледваньня і інструктаваньня краязнаўчых організацый БССР сіламі ЦБК у 1928-29 г. Прынята пастанова хадайнічаць перад прэзыдыумам ІБК аб бясплатнай дасылцы выданьняў ІБК найбольш актыўным краязнаўчым т-вам БССР. Прынята пастанова аб дасылцы некаторых №№ Нашага Краю Ленінградзкаму Габінэту расійскае мовы. Заслухана выпіска з протоколу пасяджэньня прэзыдыуму Мазырскага Акруговага Вык. Камітэту ад 4/IX—28 г., з рэзолюцыяй аб працы Мазырскага Акруговага Т-ва краязнаўства. Рэзолюцыя прызнае, што краязнаўства па Мазырскай акрузе, ня гледзячы на вялікія перашкоды, за апошні момант ахоплівае ўсе прыродныя і гістарычныя галіны жыцьця Мазыршчыны. Гэты вывад можна зрабіць на падставе правядзеньня таварыствам досыць каштоўных дасьледчых работ у вывучэньні паселішч, экономікі акругі, помніках культуры і старасьветчыны, мінэралёгіі, зоолёгіі і г. д., на падставе закладкі т-вам 4 краёвых музэяў у акрузе і паступовага запаўненьня іх экспонатамі, на падставе ўдачлівых вопытаў, якія т-ва правяло ў спробе разьвядзеньня тутавага дрэва і выкармкі шоўкапраду. У далейшым рэзолюцыя намячае такія мерапрыемствы для пладатворнай працы краязнаўчых організацый Мазырскай акругі: 1) акруговаму т-ву неабходна неаслабную работу праводзіць па разгортваньні краязн. сеткі пры сельсаветах і культасьветных установах, узяўшы курс на організацыю ячэек пры кожным с.-с., уцягваючы ў сябры краязн. організацый больш рабочых і сялян; 2) у мэтах ажыўленьня нізавой краязн. працы акруг т-ву ўчасьціць выезды ў раёны і сельсаветы; 3) у межах большай популярызацыі краязнаўчай працы прапанаваць Акруговаму Т-ву, усім РВК, гарадзкім і с.-саветам азнаёміць насельніцтва з практычнымі вынікамі краязнаўчай працы на сходах, нарадах, конфэрэнцыях; 4) з прычыны малога ліку людзей, знаёмых з працаю ў галіне краязнаўства прызнаць неабходным паслаць ад Мазыршчыны пяць асоб на краязнаўчую падрыхтоўку ў Менск за кошт АВК; 5) у галіне дасьледчай працы, па думцы Мазырскага АВК, Акруговаму т-ву неабходна большую ўвагу зьвярнуць на вывучэньне рэўруху, закончыць складаньне археолёгічнае карты акругі, скласьці географічны слоўнік і працягваць працу па монографічным вывучэньні паселішч, увязаўшы гэтую працу з Акрстатам і Акрплянам: 6) скончыць падрыхтоўчую музэйную працу ў 1928-29 годзе; Мазырскаму Гарсавету, Тураўскаму, Азарыцкаму і Капаткевіцкаму РВК падшукаць пад музэі неабходныя памяшканьні; 7) Акруговаму т-ву працягваць вопыты разьвядзеньня тутавіны ў Мазырскай акрузе і вынікі даць на разгляд плянавай камісіі; 8) паставіць перад Бел. Акад. Навук пытаньне аб пашырэньні дасьледчай працы па Мазыршчыне, асабліва ў галіне геолёгічнай, абавязаць установы, якія сьвідравалі глебы, даць узоры яе ў Акруговое т-ва; прасіць Геолёгічны Інстытут хутчэй выдаць 15 і 23 лісты геолёгічнага досьледу. Заслухаўшы пастанову Мазырскага АВК, ЦБК на сваім пасяджэньні адзначыла карысьнасьць дакладаў краязнаўчых організацый на пасяджэньнях Выканаўчых камітэтаў і прызнала неабходным рэкомэндаваць гэта краязнаўчым організацыям.

### Пасяджэньне 9/XI.

Разгледжана пытаньне аб справаздачнай кампаніі сярод краязнаўчых організацый БССР за 1928 г. Прынята пастанова надрукаваць схэмы справаздачных дакладаў т-ваў і разаслаць організацыям, прапанаваўшы, зьвярнуць схэмы запоўненымі не пазьней 31/XII г. г. Заслуханы протокол пасяджэньня Віцебскага Акр. Т-ва і пісьмовая справаздача Гомельск. Акр. Т-ва. Заслухалі справаздачу інструктара ЦБК т. Шашалевіча аб выніках яго камандыроўкі ў Гомельшчыну. Прызнана, што Ўваравіцкае, Брагінскае раённыя т-вы і Гомельскае Акруг. Т-ва організацыйна аформіліся і наблізіліся да агульнага стану краязнаўчых організацый БССР; іншыя краязнаўчыя організацыі, якія былі абсьледваны (Цераховуская, Хойніцкая, Рэчыцкая) яшчэ толькі пачынаюць організацыйна афармляцца і вымагаюць пільнай увагі, як з боку ЦБК, так асабліва з боку Акруг. Т-ва. Прынята пастанова аб камандыраваньні ў Бабруйскую акругу інструктара ЦБК т. Жураўскага.

### Пасяджэньне 16/XI.

Прынята пастанова аб скліканьні ў пачатку 1929 г. Ўсебеларускай краязнаўчай конфэрэнцыі. Конфэрэнцыя будзе мець характар падрыхтоўчых курсаў, дзеля чаго будзе запрошана ад усіх раённых т-ваў 30 асоб на 7 дзён і па прадстаўніку ад акруговых т-ваў на 2 дні працы конфэрэнцыі; будзе дадзена магчымасьць 5 прадстаўніком ад кожнай акругі прыехаць на конфэрэнцыю за свой кошт ці за кошт організацый. Зацьверджаны сьпіс краязнаўчых організацый, якія будуць запрошаны на конфэрэнцыю - курсы. Зацьверджаны парадак дня конфэрэнцыі. Прынята пастанова аб выданьні ў будучым годзе мэтодычнага зборніку па краязнаўству. Зацьвердзілі плян зборніку, складзены сакратаром ЦБК т. Касьпяровічам. Зборнік будзе падрыхтаваны да друку 1 лютага 1929 г. Разгледжана пытаньне аб кальцаваньні птушак на тэры-

торыі БССР. Улічваючы важнае значэньне гэтай справы, прынята пастанова зьвязацца з Маскоўскім Бюро кальцаваньня. Зацьверджаны протокол пасяджэньня Выставачнага Камітэту 1-ай Усебеларускай Краязнаўчай выстаўкі фотографій і зарысовак. Выставачны камітэт ухваліў выдаць пахвальныя лісты наступным удзельнікам выстаўкі: а) фотографам: З. А. Фурману (Вушач), Салавейчыку (Менск), Фальковічу (Менск); б) мастакам: Р. Пархоменку (Магілеў), Т. Пархоменку (Магілеў), Астаповічу, Тычыне (Менск); в) колекцыянэрам: І. А. Сербаву (вялікі дабор фотографій уласнай працы), І. Фурману (уласнай працы зарысоўкі), Шацкаму і Слуцкаму раённым т-вам краязнаўства (дабор фотографій на пэўныя тэмы). Прынята пастанова разаслаць усім інспэктарыятам асьветы і мясцкомам працасьветы ліст аб узмацненьні ўвагі гэтых організацый да краязнаўства.

## Што атрымала ЦБК і рэдакцыя час. „Наш Край“ у кастрычніку-лістападзе месяцах.

Ад *Хв. Клімянка* (Абольцы Жлоб. р.)—40 слоў жывой мовы.

Ад *А. Крукоўскага* (Мазырскае Акруговае Т-ва Краязнаўства)—нарыс асаблівасьцяй гаворкі Мазыршчыны—дадатак да прысланага раней слоўніка жывой мовы Мазыршчыны.

Ад *Рака і Рабёнка* (в. Катловіца Брагінск. р.) запоўненая програма па вывучэньні асаблівасьцяй беларускіх гаворак.

Ад. *Хв. Клімянка*—жніўныя песьні і прыказкі.

Ад. *С. Пухоўскага* (Буда-Кашалёўск. р.)—народныя паданьні і байкі.

Ад *Хв. Грыдзюшкі* (Менск, профшкола)—зборнік нар. песень, запісаных у в. Сьвядцы Лепельск. р.

Ад *Т. Лагуна* (в. Князь Возера), *Р. Максімовіча* (Староб. р.), *Я. Жураўкіна* (Прап. р.), *А. Бабіцкага* (Смалявіцкі р.). *С. Пратасені* (Староб. р.)—песьні, прыказкі, замовы, казкі—усяго 37 №№.

Ад Цешкаўскага вясковага краязнаўчага гуртку Пухавіцк. р. (зьбіральнікі *П. Зубровіч, Х. Зубровіч, Ів. Харытончык, П. Карнейчык)*—замоў 25.

Ад *Я. Жывуцкага* (Менск)—20 прыпевак.

Ад. *Я. Калодкіна* (Віцебск. Архіў)—Апісаньне гарадзішча каля в. Гарадзішча Віцеб. акр. і 2 карты магільнікаў, курганоў і нэолітычн. стаянак у межах б. Віцебск. губ. па вестках 1892 г., дадзеных Е. Раманавым.

*А. Г. Несьцярчука*—артыкул „Роля і значэньне шапкавых грыбоў у лясной гаспадарцы“.

Ад *Я. Марука* (Менск, БДЗУ) артыкул „Роля і ўдзел студэнцтва ў краязнаўчым руху Беларусі“.

Ад *В. Дзьмітрыева* (Смаленск) арт. „Дзесяць гадоў этнографічнай працы ў Смаленскай губ. (1917—1927 г.).

Ад *М. К-іча* (Менск) успаміны пра „Беларускі тэатр у Горадні“.

Ад *І. Мірскага* (Магілеў) працяг артык. „Рабочы і сялянскі рух на Магілеўшчыне 1903—1910 г.“.

Ад *П. Астроўскага* (Гомель) арт. „Колёніі баброў на р. Сажы ў Гом. акрузе“.

## Этнографічны вечар у Б. Д. У.

Дваццатага кастрычніка г. г. навукова-краязнаўчае т-ва пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце наладзіла этнографічны вечар, прысьвечаны трохгадоваму існаваньню т-ва. На вечары была адчынена невялікая краязнаўчая выстаўка, якая характарызуе дасьледчую дзейнасьць т-ва. На выстаўцы былі экспонаты студэнцкіх краязнаўчых экспэдыцый на Мазыршчыну і Полаччыну: архэолёгічныя знахадкі, этнографічныя рэчы, фотографіі, малюнкі, зарысоўкі і г. д. Асаблівую ўвагу зьвярталі экспонаты, якія даюць уяўленьне аб пэрспэктывах і стане шаўкоўніцтва на Беларусі—каконы, выведзеныя ў Гомельшчыне, дыяграмы і карты насаджэньняў морвы на Беларусі, умовы гадаваньня тутавай чарвы і г. д. Этнографічны вечар складаўся з 2-х частак: офіцыйнай і концэртнага аддзяленьня. У першай частцы поўная актавая заля студэнтаў і гасьцей заслухала даклад рэктара У-ту проф. Пічэты аб вышэйшай школе і краязнаўстве і прывітальную прамову Старшыні ЦБК т. Казака. У сваім дакладзе проф. Пічэта акрэсьліў розьніцу між дарэволюцыйным і савецкім краязнаўствам, паказаў месца краязнаўства ў Вышэйшай школе тады і цяпер, яскрава намаляваў тыя грандыёзныя пэрспэктывы, якія адчыняюцца для савецкай навукі, дзякуючы вялікаму энтузыязму студэнцкай моладзі ў справе вывучэньня сваёй краіны.

У сваёй прамове старшыня ЦБК т. Казак, адзначаючы шырокі росквіт краязнаўчай працы ў мурох Унівэрсытэту, падкрэсьліў тыя асноўныя задачы, якія па думцы ЦБК, зараз высоўваюцца жыцьцём перад Навукова-Краязнаўчым т-вам Унівэрсытэту: 1) адчыненьне ў мурох Унівэрсытэту краязнаўчага музэю, які захаваў-бы і популярызаваў-бы дасьледчую працу т-ва, яго экспэдыцыі, экскурсіі і г. д..; 2) выданьне зборніка прац сяброў т-ва; 3) увязку працы з Менскім Акр. Т-вам краязнаўства па вывучэньні г. Менску і Меншчыны; 4) вызначэньне сталых матар'яльных сродкаў для працы т-ва з боку Праўленьня Унівэрсытэту.

У концэртным аддзяленьні этнографічнага вечару вокальным квартэтам І Бел. Дз. Тэатру (Мацэлевіч, Швайко і др.) былі памастацку выкананы народныя песьні ў гармонізацыі Анцава да 10 №№; балетнай

клясай Музтэхнікуму былі выкананы народныя танцы; артыстымі тэатру Галубка былі выкананы на народных інструмэнтах беларускія танцы. У заключэньне былі паказаны ў проекцыйным ліхтары засьнятыя студэнцкімі экспэдыцыямі на Мазыршчыну і Полаччыну жанравыя і ляндшафтныя здымкі.

Вечар прайшоў вельмі ажыўлёна і зьявіўся лепшым агітатарам за масавы ўдзел студэнцта ў краязнаўчай працы. Неабходна такія вечары наладзіць Акруговым і Раённым т-вам краязнаўства, бо яны прыцягнуць да сябе ўвагу масавага асьветніка, сав. працаўніка, комсамольца і вучня і забясьпечаць неабходны сьвежы прылій краязнаўчых сіл.

## Дзейнасьць Гомельскага Акруговага Т-ва Краязнаўства за 1927-28 г. I/X-27 г.—I/X-28 г.

Справаздачны пэрыод можа быць ахарактарызаваны наступнымі момантамі: 1) наладжваньне сувязі з мясцамі шляхам конфэрэнцый прадстаўнікоў раённых організацый, раённай інспэктуры, чытаньне лекцый па пытаньнях краязнаўства працаўнікам політасьветы і вярбоўка іх у якасьці корэспондэнтаў; 2) пачаткам работы некаторых корэспондэнцкіх пунктаў; 3) субсыдаваньне Т-ва Акрвыканкомам, што дало магчымасьць весьці актыўную работу і 4) пачаткам сыстэматычнае працы Сэкцыі.

### Організацыйнае пытаньне ў цэнтры.

У сучасны момант Акр. Т-ва налічвае ў горадзе 29 сяброў, з якіх 20 асоб вядуць актыўную працу ў 3-х сэкцыях: 1) прыродазнаўча-географічнай; 2) культурна-гістарычнай; 3) школьна-краязнаўчай. Што тычыцца сэкцый нацмэн., то яны лічацца толькі номінальна і вядуць сваю працу, апіраючыся на школьныя гурткі пры Яўрэйскім Пэдтэхнікуме і польскай школе сямігодцы. У склад сэкцый уваходзяць—адна падсэкцыя і камісія: пры прыродна-географічнай сэкцыі працуе сэкцыя па ахове прыроды, пры культурна-гістарычнай—фольклёрна-слоўнікавая камісія.

Праўленьне Т-ва з 10 сяброў і рэвізыйная камісія з 3 сяброў былі абраны конфэрэнцыяй, якая адбылася ў лютым м-цы. Як у праўленьне, так і рэвізыйную камісію былі ўведзены прадстаўнікі з месц.

### Організацыйнае пытаньне на мясцох.

Абедзьве нарады, наладжаныя з прадстаўнікамі раённых Т-ваў, а таксама абсьледваньні, зробленыя сябрамі краязнаўчага гуртку Белпэдтэхнікуму ў летні пэрыод па дапучэньні праўленьня, выявілі поўную адсутнасьць організацыйных адзінак на раёнах. Раённыя Т-вы лічыліся выключна на паперы і калі Акр. Т-ва зьвярталася да іх, дык адказы атрымоўваліся асабовыя, г. з. працу вялі асобныя таварышы, а не організацыі, напр. у Камарынскім—т. Юшчанка, у Брагінскім—т. Джыжора, у Чачэрскім—т. Новікаў, у Церахаўскім—т. Юрчанка.

Дзеля таго, што ўсе сябры Акр. Т-ва маюць нагрузку па лініі службовай і грамадзкай, выезды на месцы для інструктаваньня альбо для дакладаў на настаўніцкіх конфэрэнцыях з мэтаю скарыстаньня гэтых конфэрэнцый для організацыі т-ваў і гурткоў не зьяўлялася магчымым.

### Праца праўленьня.

Дзейнасьць праўленьня ў справаздачным пэрыодзе выяўлялася ў наступным: агульнае кіраўніцтва працамі сэкцый, падрыхтоўка выданьня кнігі „Шкоднікі збожжавых расьлін у Гомельшчыне, выданьне схэматычнае карты Гомельскае акругі, прыняцьце конкрэтных форм аховы бабровых колёній у урочышчы Сьвенч, Чачэрскага раёну, акрэсьленьне аналізу жалеза, прысланага з Церахоўскага раёну, пастаноўка дакладу на агульным сходзе сяброў Т-ва на тэму: „Лясы Гомельскае Акругі".

Што тычыцца сэкцый, дык кожнай з іх паасобку прароблена даволі буйная праца.

### Сэкцыя культурна-гістарычная.

1. Прагледжана папка спраў архіву Румянцава, які знаходзіцца ў Акруговым Архіве (тав. Баеў).

2. Ім-жа прагледжаны архівы некаторых бібліотэк г. Гомелю.

3. Адзін з сяброў Сэкцыі (т. С. Х. Бабарыкін) прымаў удзел у працы экспэдыцыі ІБК па раскопках у урочышчы Бердыж і здаў Таварыству фотоздымкі.

4. Зроблен даклад у сэкцыі на тэму: „Гомельскае Староства ў 1773 г." паводле папярэдніх матар'ялаў (т. Мікалаеў).

5. Зьнята копія з пляну г. Гомелю 1779 г., які захоўваўся ў Акр. Архіве (т. Зьвенігародцаў).

6. Вядзецца далей праца па зьбіраньні бібліографічнага матар'ялу па г. Гомелю.

### Работа фольклёрна-слоўнікавай камісіі.

Пераложана на беларускую мову праца былога сябра Т-ва Крылова „Шкоднікі хлябоў (збожжа) у Гомельскай акрузе" (т. Чарнецкі).

Організавана корэспондэнцкая сетка па зьбіраньні матар'ялаў дла народнага слоўніка Гомельшчыны (т. Каршукоў, Зайцаў).

### Сэкцыя прыродазнаўча-географічная.

1. Прарэдагаваны расійскі тэкст рукапісу А. Крылова (тав. Струнін).

2. Абсьледвана мэтэоролёгічная станцыя г. Гомелю (т. Лашкевіч).

3. Сабраны матар'ял па лекавых расьлінах Веткаўскага раёну (т. Крысьці).

4. Выканана частка заданьняў ІБК па прысланым гэрбарыі (тав. Астроўскі).

5. Падагульнены і адасланы ЦБК матар'ял фэнолёгічных назіраньняў па 2-х пунктах (г. Гомель і Гжэнь).

6. Распрацована інструкцыя па вядзеньні фэнолёгічных назіраньняў (т. Шацкі).

7. Прарэдагаваны рукапіс А. Крылова ў перакладзе на беларускую мову (т. т. Забезела і Яновіч).

8. Разаслана 14 анкет Ленінградзкага Гідролёгічнага Інстытуту па назіраньні сьнежнага пакрову за люты м-ц і 14 анкет па назіраньн. становішча ўздыманьня веснавых вод.

### Па падсэкцыі аховы прыроды.

1. Зроблены 2 рэкогносьцыровачныя абсьледваньні бабровай колёніі ў вурочышчы Сьвенч зімою і ўлетку (т. т. Хіжнякоў, Астроўскі, Мэрман, Заблоцкі, Саламыкін). Зроблена вітрына вынікаў абсьледваньня.

2. Распрацавана інструкцыя нагляду за аховай бабровае колёніі.

3. Праведзена дасьледаваньне дрэў і хмызьнякоў парку „Барысаўшчызна" (т. т. Забела, Шацкі).

4. Заслуханы справаздачныя даклады: 1) „Бабровыя колёніі ў вур. Востраў" і 2) „Расьліннасьць парку Барысаўшчызны".

### Сэкцыя школьнага краязнаўства.

Праца Сэкцыі, організаванай толькі ў зімовы пэрыод навучальнага году, выявілася ў меркаваньні мэтодычных пытаньняў, зьвязаных з організацыяй краязнаўчых гурткоў пры школах г. Гомелю і плянаваньнем іх працы.

1. Сэкцыяй організавана 4 гурткі: 1 пры Белпэдтэхнікуме, 2 пры чыгуначных школах і 2 пры гарадзкіх школах.

2. Заслуханы даклад т. Яначкіна аб мэтах працы школьных краязнаўчых гурткоў.

3. Нова-Беліцкай чыг. школай быў зроблены досьлед вырашчываньня з насеньня шаўкавіцы, але досьлед ня ўдаўся; маладыя-ж дрэўцы, пасаджаныя школай, ужо прыняліся.

### Сэкцыя польскай культуры.

Як вышэй было паказана, у сваіх організацыйных формах сэкцыя выградзілася ў школьны краязнаўчы гурток пры польскай школе, які працуе па заданьнях польскай Сэкцыі Інбелкультў. Школьным гуртком у зімовы пэрыод праведзена ў Хойніцкім і Гомельскім раёнах зьбіраньне фолькльёру, народнага эпосу і гісторыі паселішчаў.

### Грашовыя сродкі Т-ва.

Сродкі Т-ва складаюцца з сяброўскіх узносаў і дапамогі па акруговым бюджэце.

а) Сяброўскія ўзносы, ня гледзячы на зьмяншэньне з 50 да 25 к., паступаюць вельмі туга:

| Прыход | Сума | Выдатак | Сума |
|---|---|---|---|
| Астача на 1/Х-27 г. . . . | 14 р. 10 к. | Паштова-канц. выд. . . . | 8 р. 25 к. |
| Паступіла на 1/Х-28 г. . . . | 31 „ 25 „ | Аплата тэхн. працы . . . . | 7 „ — |
| Усяго на 1/Х-28 г. . | 45 р. 35 к. | Усяго . . . . . | 15 р. 25 к. |
| | | Астача на 1/Х-28 г. . | 30 р. 10 к. |
| | | Усяго . . . . | 45 р. 35 к. |

Вышэйпаказаныя сумы знаходзяцца на бягучым рахунку Дзярж. Касы ашчаднасьці пры Гом. Акрфінаддз.

б) У 1928 г. Т-ва атрымала дапамогу па Акруг. бюджэту ў памеры 1500 р. Сродкі гэтыя былі выданы на наступныя патрэбы:

| №№ п. п. | Выдаткі | Сума Руб. | Сума К. | Увага |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Выдавецтва . . . . . . . | 150 | — | Схэматычная карта акругі і клішэ да выд. „Школьнікі Гомельскай акругі". |
| 2. | Аплата навуковае працы. . . . | 260 | — | |
| 3. | Навуковыя камандыроўкі . . . | 127 | 20 | |
| 4. | Выпіска літарат. для Т-ва і раёнаў . | 125 | 25 | |
| 5. | Правядзеньне конфэрэнц. . . . | 74 | 52 | |
| 6. | Абсталяваньне і канц. прылады. . . | 17 | 40 | |
| 7. | Аплата тэхпрацы і соцстрах . . | 199 | 48 | |
| | Усяго. . . . | 1453 | 85 | |
| | Астача на 1/Х-28 г. . . | 46 | 15 | Нявыкананая плянавая паездка. |
| | Усяго . . . | 1500 | — | |

Такім чынам выдатак сумы дапамогі распадаецца на наступныя групы:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Навуковая частка . . . . | 1162 р. 25 к. | ці 77% | агульнай сумы |
| Правядзеньне конфэрэнц. . . | 74 „ 52 „ | „ 5% | „ „ |
| Тэхн. абслугоўваньне . . . | 216 „ 88 „ | „ 15% | „ „ |
| Усяго . | 1453 р. 85 к. | ці 97% | агульнай сумы |
| Астача . . . | 46 „ 15 „ | „ 3% | „ „ |
| Усяго . | 1500 р. — | ці 100% | „ „ |

Рэалізацыя выданай карты перададзена на продаж магазыну Белдзяржвыдавецтва з 25% камісійных пры цане за карту 15 кап. пры продажы паасобных экзэмпляраў—па 10 к. пры масавай продажы.

**Агульныя моманты пляну працы на 1928-29 г.**

У агульны плян працы Т-ва на 1928-29 г. уносяцца наступныя працы і патрэбныя для іх сумы:

1. Закончыць выданьне „Шкоднікі ў Гом. Акр." 1500 р. 2. Надрукаваць брошуру ў 1 др. акр. Экскурсыйны справачнік па Гомелю 500 р. 3. Надрукаваць глебавую карту Гом. акругі 500 р. 4. Прадоўжыць працу па падліку бабр. колёній 100 р. 5. На працу па зьбіраньні слоўнікавага матар'ялу 250 р. 6. Абсьледваньне м. Брагін у культ.-гіст. адносінах 100 р. 7. Дасьледоваць дрэванасадкі саўхозу „Радуга" 50 р. 8. Правесьці нагляданьні за пералётам птушак асеньнім і вясеньнім па воз. Равучым 100 р. 9. Прыняць удзел у працы Бел. Акад. у межах акругі 150 р. 10. Дапамога раёнам на правядзеньне конфэрэнцый 300 р. 11. Правядзеньне акруг. конфэрэнцыі 150 р. 12. Аплата тэх. супрацоўніка і соцстрах 600 р. 13. Командыроўкі ў Менск (2) у ЦБК 50 р. 14. Выпіска літаратуры 150 р. Усяго 4500 р.

Перагружанасьць працай сяброў Праўленьня Т-ва не дазваляе ім весьці тэхнічную працу. Гэта асабліва востра адбіваецца на перапісцы з раёнамі. Трэба наняць за плату сталага дзелавода.

Такім чынам, увесь выдатак распадаецца на наступныя асноўныя групы:

| | |
|---|---|
| 1. Навуковая праца . . | 3250 р. |
| 2. Організ. выдаткі . . | 650 „ |
| 3. Аплата тэхн. працы . | 600 „ |
| | 4500 р. |

# Праца некаторых краязнаўчых організацый у Гомельшчыне.

(*З матар'ялаў абсьледваньня*).

*Уваравіцкае раённ. Т-ва* можна лічыць організацыйна аформленым. Сяброў т-ва налічвае каля 60. Праўленьне да гэтага часу складалася з 3 асоб: старшыня Ткачоў (вясковы наст.), сакратар наст. 7-кі Купрэеў і сябра Праўленьня Аграном Салаўёў. Т-ва вяло і популярызацыйную працу—на конфэрэнцыі настаўнікаў у гэтую восень ад Т-ва быў пастаўлены даклад. Т-ва склала плян працы: уся ўвага зьвернута на вывучэньне рэўруху ў раёне. Пры школе 7-цы існуе краязнаўчы гурток. Будуць наладжаны фэнолёгічныя нагляданьні. Адказнасьць за іх узяў на сябе загадчык школы т. Лашкевіч і сакратар т-ва Купрэеў. Бягучая праца т-ва—запаўненьне розных анкет і нанясеньне на карту раёну азначэньняў глеб раёну. Гэтую справу робіць аграном Салаўёў. Пры маім удзеле быў скліканы сход працаўнікоў м-ка Уваравіч, на якім, апрача заслуханага майго інформацыйна-інструкцыйнага дакладу, былі кооптаваны ў склад праўленьня новыя сябры т-ва: Музычкіна (райком КПБ), Карнееў (інспэктар) і Кулакоў.

*У Церахоўцы* да гэтага часу ня было краязнаўчай організацыі. Уся літаратура і перапіска, якая ішла ад ЦБК і Акруг. Т-ва, невядома куды дзелася, частка яе захавалася ў школе 7-цы (няпоўная). Мне не ўдалося склікаць установчага сходу т-ва, бо м. Церахоўка мае ўсяго 6 настаўнікаў, а другія савецкія служачыя вельмі раскіданы і сабраць у адно месца на працягу двох дзен ня прышлося. Удалося толькі знайсьці краязнаўчы актыў, які абяцаў узяцца за організацыю краязнаўчага Т-ва ў раёне. Гэты актыў—загадчык 7-кі т. Бандарэнка Васіль і настаўнік Янка Гарбачэнка.

Да часу організацыйнага афармленьня т-ва ініцыятыўная група намеціла правесьці наступную краязнаўчую працу: 1) распачаць сталае вядзеньне фэннагляданьняў, заснаваўшы фэнпункт і адказным за гэтую працу прызнаць т. Бандарэнку, 2) пачаць зьбіраньне мясцовай прыродазнаўчай тэрмінолёгіі (назвы расьлін, птушак і г. д.), 3) правесьці рэгістрацыю помнікаў старасьветчыны раёну—даручыць гэта т. Гарбачэнку.

*Брагінскае раённае т-ва* на працягу 1928 г. вяло некаторую працу: заснавала краязнаўчы гурток пры школе 9-цы, які рэгулярна працаваў, заснавала 2 фэнпункты, мела сувязь з Ленінградзкім Гідролёгічным Інстытутам, запоўніла дзьве праграмы асаблівасьцяй бел. мовы, сабрала некаторы фольклёрны матар'ял. У далейшым т-ва намячае ўсю краязнаўчую працу сконцэнтраваць галоўным чынам вакол самога мястэчка, а на раёне весьці эпізодычную працу.

*Хойніцкае раённае т-ва* на працягу году ніякай працай не вызначаецца. Было праведзена 5 пасяджэньняў праўленьня, завербавана 28 сяброў, сабрана некаторая сума грошай ад сяброўскіх складак, заснаваны 2 фэнпункты, але і яны працы не вялі. Умовы для працы ў Хойніках досыць добрыя: яўр. і польская 7-кі, няпоўная беларуская 7-ка, дрэваапрацовачны і крухмальны заводы, бойкі коопэрацыйны гандаль, шпаркі рост мястэчка, шырокае будаўніцтва і г. д. Але за апошні момант праца т-ва спынілася. Прычына: усе сябры праўленьня перабраліся ў іншыя месцы БССР. Мною быў скліканы невялікі сход мясцовага актыву і на сходзе было абрана новае бюро т-ва. Старшынёю т-ва абраны заг. яўр. 7-кі т. Фрадлін. Таксама на сходзе пастаноўлена заснаваць пры яўр. 7-цы фэнпункт і вядзеньне гэтых наглядаваньняў даручыць наст. Ц. Рудкоўскай.

*Рэчыцкае раённая т-ва* краязнаўства некалькі разоў засноўвалася і спыняла сваю працу. У апошні момант фактычна організацыі ня было. А для працы тут шырокія магчымасьці: дзьве 9-кі, добрыя прыродазнаўцы і грамадазнаўцы. Пры школах закладзены школьна-краязнаўчыя музэі, якія абяцаюць мець цікавыя пэрспэктывы. У гэтых музэях, асабліва пры 1-ай школе 9-цы ёсьць вельмі добрыя і прыгожа экспанаваныя матар'ялы прыроды Рэчыцкага раёну. 3/XI быў скліканы невялікі сход рэчыцкага актыву і на сходзе была прынята пастанова: 1) зноў распачаць процу т-ва, 2) у бліжэйшы час склікаць шырокі сход мясцовых культурнікаў, 3) абраць у часовае бюро Т-ва 5 тт.: Ліпава, Шырынскага, Ніжнікава, Недасекіна і Пячкурова, 4) скласьці плян працы т-ва і разглядзець яго на агульнагарадзкім сходзе, 5) заснаваць пры 1-ай 9-цы фэнпункт, 6) даручыць інспэктару асьветы т. Ніжнікаву організацыю краязнаўчых гурткоў на раёне.

## Падарожніцкая справа Слуцкага Т-ва Краязнаўства за летні час 1928 г.

Сёлета з мэтай пазнаньня краю і вывучэньня свайго раёну Праўленьнем Т-ва былі організаваны 4-групавыя доўгатэрміновыя падарожы, з якіх тры адбыліся ў межах свайго раёну і адна па суседніх раёнах. Уся дасьледчая праца была прароблена маладым актывам Т-ва ў складзе Аўгусьцінскага Кастуся, Мікіцінскага Вісарыёна, Крываля Аркадзя і Русака Барыса, якія паклалі шмат энэргіі, выказаўшы працаздольнасьць і максімум зацікаўленасьці.

Падарожы адбыліся па наступных маршрутах:

**Першая падарож (Па Слуцкім раёне).**

*Маршрут:* Г. Слуцак, в. Мялешкавічы, Бярозаўка, Папоўцы, Сорагі, Мір-гара, Красная гара, в. Волашава, Рыжыца, Мелітонава, Вілы, Амговічы, Гутніца, Старэва, зноў Амговічы, Весея, Міхейкі, Слуцак. Працягам 102 вярсты. Патрачана 6 дзён.

**Другая падарож (Па Слуцкім, Грэскім, Пухавіцкім і Стара-Дароскім раёнах).**

*Маршрут:* Г. Слуцак, Васілінкаўскія і Бокшыцкія хутары, в. Угналовічы, Шулякі, м. Грэск, в. Забелы, Шышчыцы, Замосьце, Верабьёва, Вежы, Неспадзянка, Рудзіца, Круглае, Асавец, Шчыткавічы, Леўкі, зноў Шчыткавічы, Дражна, Шчыткавічы, Парэчча, Амельна, Суцін, Жыцін, Крымок, Юравічы, Масеевічы, воз. Скачальскае, Фалічы, Старыя-Дарогі, Солан, Горкі, Амговічы, Слуцак. Працягам 267 в. Патрачана 12 дзён.

**Трэцяя падарож (Па Слуцкім раёне).**

*Маршрут:* Г. Слуцак, Б-Сьліўскія хут., в. Волаты, саўгас Некрашы, в. Панічы, Дарасіно, Княжа-Магіла, м. Урэчча і Слуцак. Працягам 61 в. Патрачана 5 дзён.

**Чацьвертая падарож (Па Слуцкім раёне).**

*Маршрут:* Г. Слуцак Івана-Агароднікі, саўгас Івань, м. Леніна, в. Шэлавічы, Лапацічы, Сярэднікі, Старцавічы, Падліпцы, Бязьверхавічы, Г. Слуцак. Працягам 46 вёрст. Патрачана 3 дні.

У падарожах сабрана шмат апісальнага матар'ялу з боку прыроды, гаспадаркі быту насельніцтва, гістарычнага мінулага, помнікаў старажытнасьці. Зроблена 351 замалёўка, з якіх: 265 узораў рэзьбярства, 8 схэматычных плянаў замкавішч, гарадзішч, сядзіб, будоўляў; 43 краявіды, 22 малюнкі будоўляў: культавых, прыватных, заводаў; 7 агульных выглядаў вёсак, 6—адзеньня, с.-г. прылад.

Набыты некаторыя рэчы каменнага веку, курганных часоў і іншыя старажытнасьці, узоры шкла, якія выраблялa шкляная гута ў Старэве, расьліны, монэты і г. д.

Чатыры падарожы занялі часу 26 дзён. За гэты тэрмін зроблена 467 вёрст, з якіх пешшу 449 в. і 18 в. па чыгунцы. Абышліся падарожы ў 40 руб.

У. Мікіцінскі.

## Аб выданьнях мясцовых краязнаўчых організацый.

Шмат якія Краязнаўчыя Таварыствы (Барысаўскае, Сьмілавіцкае) пачалі выяўляць ініцыятыву ў справе выданьня сваіх прац на ратататры. Уложаныя мясцовымі працаўнікамі, абгрунтаваныя на мясцовым матар'яле гэтыя працы па вывучэньні раёну, бязумоўна, маюць значэньне ня толькі для данае акругі; з гэтае прычыны паўстае пытаньне аб іх захаваньні ва ўстанове, адчыненай для агульнага карыстаньня — Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэцы. Беларускі аддзел бібліотэкі атрымлівае ад кніжнае Палаты і захоўвае ўсе матар'ялы, выданыя на тэрыторыі БССР, але ў лік іх не ўваходзіць адбі-

тае на шклопісу, рататары, шапірографе і рукапісы.

У інтэрэсах, як самых краязнаўчых таварыстваў, так і працаўнікоў-беларусазнаўцаў, якія карыстаюцца зборамі бібліотэкі, пажадана, каб усе краязнаўчыя таварыствы дасылалі адзін паасобнік сваіх прац у Беларускі аддзел бібліотэкі. (Менск, Савецкая, 97).

## Короткая справаздача аб замежнай камандыроўцы т. Касьпяровіча М. І. ў Фіншчыну.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства яшчэ ў 1926 годзе прызнала вельмі карысным скарыстаньне найноўшых мэтодолёгічных дасягненьняў замежнага краязнаўства ў практычнай дзейнасьці нашага краязнаўчага руху. Для вывучэньня гэтых дасягненьняў Цэнтральнае Бюро лічыла патрэбным камандыраваньне за межы свайго прадстаўніка. Прэзыдыум Інстытуту Беларускае Культуры вясной 1927 году згадзіўся з довадамі Бюро і камандыраваў мяне ў замежную камандыроўку з вышэйазначанай мэтай. У камандыроўцы я прабыў з 28 ліпня да 10 верасьня 1927 году. На працягу гэтага часу я змог дасканала азнаёміцца з краязнаўчым рухам у Фіншчыне, адкуль вярнуўся праз Талін, Тарту, Рыгу, Каўнас і Дзьвінск, у якіх таксама цікавіўся разьвіцьцём краязнаўства.

Часовы прыпынак свой у Ленінградзе я скарыстаў для асабовага азнаямленьня з дзейнасьцю Цэнтральнага Бюро Краязнаўства РСФСР, Фэнолёгічнага Аддзелу Рускага Таварыства Аматараў Сьветазнаўства і Рускім Дзяржаўным Музеем. Некаторыя спосабы працы гэтых устаноў, яшчэ невядомыя ў нашай практыцы, былі пазьней скарыстаны Цэнтральным Бюро Краязнаўства БССР у сваёй штодзённай чыннасьці, а артыкул аб колекцыях па этнографіі беларусаў у Этнографічным аддзеле Дзяржаўнага Рускага Музэю, напісаны работніцай музэю згодна маёй умове з апошнім быў надрукованы ў часопісе „Наш Край“ (1927, 11, ст. 8-13).

У Фіншчыне я працаваў пераважна ў сталіцы яе Гэльсінках, але пры патрэбе выяжджаў і на провінцыю—Гранкуме, Тузуле, Сэлікі і інш. Некаторую перашкодаю ў працы зьяўлялася адсутнасьць шмат якіх выдатных фінскіх краязнацаў, якія таксама выехалі ў замежныя камандыроўкі. Але на ўсім працягу сваёй працы я меў самую розную дапамогу з боку навуковых працаўнікоў і ўстаноў. Зацікаўленасьць шырокіх колаў інтэлігенцыі нашым навуковым жыцьцём выклікала шэраг газэтных інформацый у сувязі з маім прыездам („Helsingin Sanomat“, 1927, 214: Suomi ja Valko-Veunäjä“; „Suomen sosialidemokraati“, 1927, 186: Sivistyksellinen ja talouselämä Valkovenäjällâ; „Waba maa“, 1927, 199: Walge-Wene rajariigid; „hetuvos zinios“ 1927, 199: Kulturos darbas Sovietu Gudijòje; „Letuva“ 1927, 199; „Jaunako Sinu“, 1927, 198: Baltkreewu kulturela; „Uusi Suomi“, 1927, 181. Valkorenäläiset tekevät harrasta Kulttuurityöta і інш.). Дзякуючы агульным спрыяючым умовам я пазнаёміўся ня толькі з мэтодолёгіяй краязнаўства, тамашнім разуменьнем задач краязнаўства і складам краязнаўчага руху, але і з штодзённай практычнай чыннасьцю розных навукова-краязнаўчых устаноў, спэцыяльна-краязнаўчых грамадзкіх організацый, краязнаўчых музэяў, часопісаў і д. т. п., а таксама з краязнаўчаю дзейнасьцю розных ведамстваў, інстытуцый, грамадзкіх організацый, кругабегавага друку і г. д. Часамі практычна працаваў для ўсваеньня таго ці іншага мэтоду. Такім чынам я сабраў багата матар'ялу, што да выкананьня задач маёй камандыроўкі. Разам з тым па ініцыятыве мясцовых працаўнікоў я часамі чытаў даклады аб беларускім краязнаўчым руху (Talіina, Kaulas) і яго дасягненьнях, удалося заснаваць шэраг сталых сувязяй з выдатнымі краязнаўцамі і вучонымі, якая пазьней была скарыстана рознымі катэдрамі Інстытуту Беларускае Культуры ў іх навуковай працы.

Вярнуўўшыя з сваёй падарожы, я апрацаваў падрабязную справаздачу памерам каля 12 друк. аркушоў, якая, на жаль, яшчэ не апублікавана і знаходзіцца зараз на скарыстаньні ў суседняй савецкай рэспубліцы. Кароткімі інформацыямі аб выніках камандыроўкі прыходзілася дзяліцца на паседжаньнях Прэзыдыуму і Пленуму Цэнтральнага Бюро Краязнаўства, на акруговых краязнаўчых конфэрэнцыях („Савецкая Беларусь“ 1927, 244, „Зьвязда“, 1927, 245, „Наш Край“ 1927, 11, 1928, 3 і інш.) і інш. Невялічкія інформацыі зьмяшчаліся мной у кругабегавым друку („Маладняк“ 1927, 9: У Фіншчыне; 1928, 1: „Мастацтва Латвіі, Эстоніі, Літвы; Эстонская літаратура; № 8: Латыская літаратура; „Наш Край“ 1927 № 8-9: У Цэнтральным Бюро Краязнаўства РСФСР, 1928, 2: Беларускае краязнаўства па-за межамі БССР; № 4: Аб краязнаўстве ў Фіншчыне; № 5: Краязнаўства ў Эстоніі, Латвіі, Літве і Польшчы; „Полымя“ 1928, № 7: Беларуская літаратура ў Латвіі; „Научный работнік“ 1928, №№ 5-6, 7: Краеведение у западных соседей і інш.). Шмат што з мэтодолёгіі замежнага краязнаўства было ўжо скарыстана ў штодзённай працы Цэнтральнага Бюро Краязнаўства, пры апрацоўцы програм і інструкцый і г. д., як напр., у часе організацыі першай усебеларускай выстаўкі краязнаўчых фотографій і зарысовак, пры ўкладаньні програм для апрацаваньня раённага слоўніка мовы і раённага географічнага слоўніка інш. Пленум Цэнтральнага Бюро Краязнаўства 23-25, 10, 1927 пастанавіў „Камандыраваньне ЦБК свайго прадстаўніка за межы для азнаямленьня з краязнаўчым рухам, якае адбылося ў гэтым годзе, прызнаць цалкам своечасовым і апраўданым“.

Урэшце, мая паездка на Украіну і ў

Крым, у часе якой я ўжо бяз сувязі з данай камандыроўкай знаёміўся з украінскім краязнаўчым рухам, так як перад камандыроўкай у Ленінградзе знаёміўся з рускім,— лішні раз падкрэсьліла правільны кірунак нашага беларускага краязнаўства, які цалкам забясьпечвае краязнаўчую працу шырокіх мас працоўных для перабудовы жыцьця саміх працоўных на социялістычных падставах.

# Да краязнаўчых організацый БССР.

### Аб кальцаваньні птушак.

Кальцаваньне птушак, г. зн. адзнака іх надзяваньнем на ногу лёгкага (алюмініевага) калечка з нумарам, практыкуецца ў большасьці дзяржаў для вывучэньня пералётаў гэтых птушак. Пералёты іх зьяўляюцца вялікім навуковым і практычным інтарэсам. Гэткія пытаньні, як азначэньне шляхоў і напрамкаў, па каторых у восень і ў вясну ляцяць птушкі, дзе зімуюць, ці зьвяртаюцца на старыя месцы гнездаваньня, ці запраўды аселыя тыя птушкі, што мы лічым аселымі, ці яны робяць правільныя вандроўкі, дзе, галоўным чынам, гінуць птушкі—і шмат іншых пытаньняў можна высьветліць толькі шляхам кальцаваньня. Акрамя таго, шмат якія птушкі нішчаць шкодных казюлек і грызуноў, прыносячы гэтым вялікую карысьць сельскай і лясной гаспадарцы. Неабходнасьць аховы такіх птушак відавочна. Зьнішчэньне-ж і гібель птушак бывае найвялікшым у часы пералёту; адгэтуль ясна, што, добра вывучыўшы пералётныя шляхі іх, месцы адпачынку, мы зможам правесьці шэраг мерапрыемстваў для аховы птушак.

У Савецкім Саюзе вялікія працы па кальцаваньні птушак праводзіць Цэнтральная Біолёгічная Станцыя Юных Натуралістых імя К. А. Ціміразева, скарочана—БЮН.

Да гэтага чясу па ўсім Саюзе закальцавана каля 5-ці тысяч птушак і мы ўжо маем шэраг дасягненьняў.

У 1927 годзе на возеры Кіёва пад Масквою было закальцавана 1300 рачных чаек. Да апошняга часу зьвернута каля 30 калец з гэтых чаек (кожнае кальцо мае свой нумар і на ім напісаны скарочаны адрас Біостанцыі) з розных мясцовасьцяй СССР. Кальцаваньнем даведзена, што варона не зьяўляецца аселай птушкай: варона, што ўлетку была каля Ленінграду, паляцела на зімоўку ў паўднёвую Францыю.

Вопыт паказвае, што значных вынікаў у кальцаваньні можна дасягнуць толькі пры ўмовах масавасьці, г. зн., што чым больш будзе закальцавана птушак, тым больш мы будзем ведаць аб пералётах птушак. Дзеля гэтага Біостанцыя пастанавіла ўзімку 28/29 г. правесьці масавую кампанію па кальцаваньні чатырох амаль усім вядомых відаў птушак: сьнягіра (гіля), сініцы вялікай, чачоткі і аўсяніцы.

Лёгка сабе ўявіць, якіх вынікаў можна будзе дасягнуць, калі гэтая кампанія стане запраўды масавай!

Разьлічана яна, пераважна, на вучнёўскую моладзь, на юных натуралістых, на краязнаўцаў, на сьведомых школьнікаў-птушкаловаў.

Акрамя ўмецтва лавіць птушак, дзеля магчымасьці ўдзельнічаньня ў кампаніі неабходна:

1. Добрае веданьне тых птушак, якіх прыходзіцца кальцаваць.
2. Акуратна даваць справаздачы на БЮН.
3. Строгае кіраваньне правіламі працы ў гэтай справе.
4. Магчымасьць закальцаваць за зіму ня меней 50 штук птушак.

Кожны, хто хоча заняцца кальцаваньнем вышэйпамянёных зімовых птушак, павінен паведаміць, не адкладаючы, свой адрас у ЦБ Юн. Натуралістых: Москва, Сокольники, Растокинский пр., 98, „Кампании по кольцованию". Вельмі пажадана і мэтазгодна організацыя спэцыяльных груп, гурткоў пад кіраўніцтвам настаўнікаў у школах або прадстаўнікоў краязнаўчых організацый.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства лічыць пакуль што несвоечасовым утвараць сваю рэспубліканскую організацыю для кіраваньня кальцаваньнем на Беларусі. Таму ў гэтым пытаньні карысна мець сувязь па паказанаму адрасу. Дзякуючы правілам кальцаваньня, у любы момант можна лёгка выявіць па матар'ялах „БЮН'а" ўсіх закальцованых у БССР птушак.

У адным з бліжэйшых нумароў „Нашага Краю" будзе зьмешчаны падрабязны артыкул аб кальцаваньні.

# Бібліографія.

## Матар'ялы да гісторыі друку ў г. Магілеве.

I. Першая друкарня ў гор. Магілеве была заснавана брацтвам пры царкве ў імя ўваходу ў Ерузалім у пачатку XVII сталецьця.

У гэтай друкарні былі надрукованы наступныя набажэнскія кнігі:

1) У 1616 годзе „Служэбнік" [1]).

2) У 1619 г. ў Магілеве было перадрукована „Евангелие учительное Воскресное" з кнігі, якая была выдадзена ў тым-жа годзе ў Рохманаве і мела такую поўную назву: „Евангеліе альбо казаня на неделя през рок и на праздники нарочитых святых угодников божиих. составленное трудолюбием иеремонаха Кирила Транквиліона, проповедника слова божаго, властным стараням, коштом и накладом здруку ново выдано в маетности ей милости княгини Вишневской Михайловой [2]).

3) У 1625 г. „Вера св. кафолическия церкви" [3]).

4) У 1636 г. выхадзец з Украіны Сьпірыдон Собаль, які з 1630 г. быў кіраўніком друкарні паноў Станкевічаў у Кутэінскім манастыры каля Воршы, заснаваў у Магілеве сваю друкарню. З яго друкарні вышлі наступныя кніжкі:

1) „Букварь языка Славеньска. Писании чтения учитися хотящим в полезное „руковожение" [4])

5) У 1637 г. „Псалтыр" [5]).

У 1638 г. „Апостал" [6]).

У канцы XVII-га сталецьця ў Магілеве ажыўляецца выдавецкая дзейнасьць, дзякуючы стараннасьці і спрыту Максіма Вошчанкі. Друкарня належала да брацтва пры Багаяўленскім манастыры. Дакладна дата заснаваньня яе невядома. Першы прывілей на друкарню быд дадзены каралём Уладыславам IV 19 сакавіка 1633 г. У 1676 г. існаваньне друкарні было санкцыянавана новым прывілеем караля Яна Сабескага. Брацтва здала друкарню ў арэнду райцу Максіму Ярмолінічу Вошчанку. Будучы ў 1698 г. у Варшаве на каранацыі ў якасьці пасла ад гораду і брацтва, Вошчанка ўхітрыўся атрымаць на сваё імя грамату, якая пацьвярджала дазвол на дзейнасьць друкарні, а брацтва там не паміналася.

Вошчанка пераносіць друкарню ў сваю кватэру, на выданьнях ставіць сваё імя і грошай брацтву ня плаціць. Пачынаецца доўгая судовая цяганіна паміж брацтвам і Вошчанкам.

Брацтва зварочваецца са скаргаю да караля і мітрапаліта, Вошчанка ўступае, выстаўляе на выданьнях імя брацтва, але грошай ня плаціць.

У 1708 годзе памёр М. Вошчанка. Друкарняю заўладала брацтва. У 1727 г. быў заложаны пад друкарню каменны будынак.

Выдатнымі друкарамі таго часу апрача Максіма Вошчанкі зьяўляюцца: Васіль Вошчанка і Тодар Ангілейка [7]). Гэтая друкарня выпусьціла ў працягу 1693—1754 г.г. многа царкоўных кніг [8]).

Калі была зачынена памянёная друкарня невядома. Біскуп Георгі Коніскі ў другой палове XVIII сталецьця наладзіў друкарню пры Мікольскай царкве. Пэўна ён злучыў з гэтаю друкарняю і брацкую.

У 1761 г., паводле загаду Коніскага, быў надрукован „Катахізіс" Феофана Пракаповіча. Тут-жа друкаваліся казаньні самога Коніскага, якія вытрымалі 4 выданьні.

З далучэньнем Магілеўшчыны да Расійскай імпэрыі друкаваньне кніг у брацкай друкарні спынілася. У 1795 г. Ігумен Іосаф даносіў біскупу, што літары, атрыманыя з Чарнігава, маюцца ў скрынцы, прэс разабраны, даўнейшыя літары ў скрынках у рассыпную знаходзяцца.

### Яўрэйскі друк.

Найвялікшая на Беларусі яўрэйская друкарня была ў Шклове. Адзін з шклоўскіх друкароў Ісаак б. Іосыф перанёс свою дру-

1) У. Пічэта. Артыкул у зб. „400-лецьце беларускага друку" ст. 258.
2) Сопиков „Опыт российской библиографии" ч. I. № 322.
3) Там-жа, стар. XCVIII.
4) „400 лецьце беларускага друку" ст. 258.
5) Там-жа.
6) Там-жа.
7) Зборнік „Могилевская епархия" т. I вып. III ст. 107—109.
8) „400-лецьце беларускага друку". Ст. 258—259. Сопыков. „Опыт российской библиографии" ч. I №№ 1613, 373, 968, 1009, 71. М. Шчакаціхін. „В. Вошчанка, гравер Магілеўскій.

карню з Шклова ў Магілеў і надрукаваў тут у 1825 г. „Хэмдат Цэві". Гэта кніга зьяўляецца адзінаю яўрэйскаю кнігаю магілеўскага друку *).

### II. Царкоўныя выданьні.

Пры Магілеўскай Духоўнай Сэмінарыі існаваў гістарычна-статыстычны Камітэт. Свае творы Члены Камітэту друкавалі ў „Мог. Губ. Вед." і ў „Епарх. Вед.". Паасобным выданьнем вышаў зборнік „Могилевская Епархия", гістарычна-статыст. апісаньне ад 992 г. да 1910 г. Вышла 4 кніжкі. Гэтая праца мае некаторую каштоўнасьць з тэй прычыны, што ў ёй сустракаюцца агульна-гістарычныя весткі.

Быў яшчэ ў Магілеве „Місіянэрны Савет", які таксама займаўся выданьнем кніжок і брошур багаслоўскага і палемічнага характару.

У Магілеве кніжок аб жыцьці розных, так званых, „сьвятых", тлумачэньняў біблii, розных казаньняў „айцоў" царкві і іншага сьмецьця было выдана вельмі многа. Карыстаючыся падтрыманьнем ураду, папы не шкадавалі ні сіл, ні сродкаў дзеля атручваньня мазгоў працоўных.

Пералічаць гэтыя кніжкі ў сучасны момант у такім кароткім нарысе няма патрэбы.

### III. Выданьні Губэрскага Статыстычнага Камітэту.

Яны маюць найбольш важнае значэньне для вывучэньня мінулага Магілеўшчыны.

1. На першым месцы трэба паставіць вялізарную працу „Опыт описания Могилевской губернии в историческом, физико-географическом, промышленном и статистическом отношениях" т. I—8⁰, ст. 782—1882 г., т. II—8⁰, ст. 1000—1884 г. т. III—8 ст. 329—1884 г. Усе тры томы складзены паводле програмы і пад рэдакц. А. С. Дэмбовецкага.

2. Монографічнае апісаньне раёну, да некаторай ступені ўзорнае для нашых раённых т-ваў кр-ва, даў К. Анікіевіч у сваёй кніжцы „Сенненский уезд Могилевской губ."

3. Шмат каштоўных статыстычных матар'ялаў, побач з непатрэбнымі нікому сьпісамі ўрадавых асоб, знаходзіцца ў „Памятных книжках Могилевской губернии".

Такія кніжкі за 1853 г. і за 1861 г. выдала Губэрскае Праўленьне. Асабліва каштоўна кніжка за 1861 г. У ёй зьмешчаны гістарычна-статыстычныя весткі аб гарадох, мястэчках, апісаньне топографіі, клімату Магілеўскае губ. Пачынаючы ад 1863 г. да 1916 г. уключна „Памятныя кніжкі" выдаваў Магілеўскі Губэрскі Статыстычны Камітэт.

4. Яшчэ больш статыстычнага матар'ялу зьмешчана ў кніжках „Обзор Могилевской губернии", якія выдаваліся ад 1908 г. да 1916 г. Гэтыя кніжкі давалі агляд прыроды, сельскай гаспадаркі прамысловасьці, гандлю, народнай асьветы, аховы здароўя, адміністр. кіраўніцтва і інш. Да кожнага артыкулу была дадана табліца.

Яшчэ і да гэтага часу ня страцілі вартасьці кніжкі:

а) „Список населенных мест Могилевской губернии" 1910 г. У арк. Ст. 250.

б) „Училищное дело в Могилевской губернии со времени присоединения Белорусского края к России" 1886 г. 8⁰ 51 ст.

### IV. Працы навуковага, публіцыстычнага характару і падручнікі.

1) Брыліантов „Город Могилев во власти французов" 1912 г. 8⁰ ст. 72.

2) Я. І. Печерин. „Исторический краткий обзор царствования импер. Петра Великого и постройки им С.-Петербурга" 1908 г.

3) Пятницкий Б. І. „Половые извращения и Уголовное Право" з дадаткам 9 аддзельных дыяграм. 1910 г. 8⁰ ст. 84. Друк. Б. Клаза.

4) А. І. Адольф. „М. В. Ломоносов и его значение в области естествознания и в истории русского просвещения". 1911 г. 8⁰ ст. 26. Друк. Клаза.

5) А. І. Белинский. „С кем мы дружили". Гістарычны нарыс расійска-нямецкіх адносін. 1914 г. 8⁰ ст. 71.

6) „Бактерии, их морфология, систематика и цикл развития". Пераклаў з нямецкай мовы П. І. Калтаноўскі 1903 г. 8⁰ ст. 81—45 дадаткаў. Друкарня Падземскага.

7) Е. Романов. „Материалы по исторической топографии Витебской губернии. Уезд Велижский" 1898 г. 8⁰ ст. 308.

8) Михалевич. „За границей" 1915 г. 8⁰ ст. 75. Губэрская друкарня. Аўтар апісвае свой зварот у Расію пасьля абвяшчэньня вайны.

9) „Письмо хуторянина своим членам 3-й Государственной Думы и Государственного Совета" 1911 г. 8⁰ ст. 15. Губэрская друкарня.

10) Подвысоцкій. „Западно-русские политические сочинения по вопросу о восстановлении православной иерархии в Западной Руси в 1620 г.". 1915 г. 8⁰ ст. 337. Друкарня Клаза і Кагана.

11) П. Строганов. „Патриарший Бирюков монастырь" 1914 г. 8⁰ ст. 210 дадаткі на 79 старонках.

12) Лучин А. П. „Наполеон в пределах Могилевской губ." 1912 г. 8⁰ ст. 6.

13) А. Белинский. „Учащиеся средней школы на полевых работах в 1916 г." 1917 г. Друкарня Клаза і Кагана.

14) Г. А. Ермашкевич. „Источник несчастья или страдающий народ. 1913 г. 8⁰ ст. 56. Друкарня Клаза.

Вельмі цікавая кніжка, хоць закваска адчуваецца рэлігійная.

15) Д. Тихомиров. „Методика начальной арифметики".

16) Мирский-Исаев. „К 25-тилетию Могилевского театра". Выданьне Камбурава 1913 г. 8⁰ ст. 34. Друкарня Рабіновіча.

---

*) Пэрлін „Да гісторыі яўр. друку на Беларусі". „Наш Край" № 8-9 за 1927 г. Стар. 13.

17) „Могилевский Музей“ (каталёг) 1891 г. 8⁰ ст. 82.

18) Фурсов и Чоловский „Дневник курганных раскопок“. 1892 г. 4⁰ ст. 38 IV.

19) Фурсов. „Описание Могилевского Музея“. 2-е выданьне 1898 г. 8⁰ ст. (10)—106.

20) „Воззвание и устав Могилевского Белорусского Комитета“ 1917 г. 16⁰ ст. 8. Друкарня Клаза і Кагана.

21) Мирский-Исаев. „Процесс врачей Захарина, Хейфеца и др.“ (по делу об абортах, разбиравшемуся в Могилевском Окружном Суде с 9-го по 17 января 1912 г.) 1912 г., 16⁰, ст. 43. Друкарня Рабіновіча.

22) „Алфавитный список дворянских родов, внесенных в родословные дворянские книги Могилевской губ.“ 1909 г. 8⁰, 25 ст. Друкарня Падземскага.

23) „Труды 1-го с‘езда врачей в представителей Управления Земским Хозяйством Могилевской губ. (12—21 дек. 1907 г.) 1908 г. Друкарня Падземскага.

24) Неручев А. В. „Организацыя оценочных и статистических работ в Могилевской губ.“. Ст. 27.

25) „Математическая теория еврейского календаря. Исследование Иосифа Лурье“. 1887 г. 8⁰ ст. 152—9 астрономических таблиц Друкарня Падземскага.

### V. Поэзія.

1) Е. Р. Романов. „Сказки“ 1901 г., 8 ст. 528.

2) „Тарас на Парнасе“ и другие белорусские стихотворения“. 1902 г. 16⁰ ст. 24. Выданьне Раманава.

3) Е. Р. Романов. „Белорусские тексты вертепного действа 1898 г. 16⁰ ст. 50. Выданьне Раманава.

4) Василий Янов — „Новый путь“. Зборник вершаў 1915 г., 8⁰, ст. 24. Губэрская друкарня.

Досыць цікавы зборнік. Маецца 5 вершаў патрыотычных, даніна свайму часу. (Дазвол на друкаваньне даваў вайсковы цэнзар, князь Друцкі-Сакалінскі). Мотывы астатніх 45 вершаў: прырода, каханьне, людзкое зло. Адчуваецца надзвычайна моцны ўплыў Надсона.

### VI. Пэрыодычныя выданьні.

2-га ліпня 1838 г. вышаў першы нумар офіцыйнага органу Губэрскага Праўленьня газэты „Могилевския Губернския Ведомости“. З нумару 33-га 1845 г. „Могилевския Губерньския Ведомости“ маюць два аддзелы. Першы розныя публікацыі, другі ў сваю чаргу падзяляўся на часьці офіцыйную і неофіцыйную. У часьці неофіцыйнай зьмяшчаліся матар‘ялы гістарычныя, этнографічныя, літаратурныя творы, навуковыя і інформацыйныя артыкулы па пытаньнях прамысловасьці, сельскай гаспадаркі і інш.

З 15-га лістапада 1897 г. пасаду рэдактара неофіцыйнай часьці „Мог. Губ. Вед.“ займае выдатны этнограф Е. Р. Раманаў. Цэлы шэраг артыкулаў самога Раманава і яго супрацоўнікаў па гісторы, этнографіі, архэолёгіі Магілеўшчыны зьмяшчаецца ў „Губернских Ведомостях“. Газэта становіцца да некаторай ступені краязнаўчым органам. Уся гэтая маса каштоўнага матар‘ялу нецярпліва чакае, каб магілеўскія краязнаўцы зьвярнулі на яго ўвагу і заняліся яго дасьледваньнем. На жаль, у нашым музэі і архіве няма поўнага комплекту „Мог. Губ. Вед.“.

Апошні нумар „Мог. Губ. Вед.“ вышаў у 1918 г. пад рэдакцыяй Жудро.

Газэта трохі не дацягнула да 80-ёх гадовага юбілею.

Частка артыкулаў, надрукаваных у „Мог. Губ. Вед.“ за 1893—1903 г. г., зьмешчаны ў зборніку „Могилевская Старина“ Вып. I, II, III і IV.

З 1882 г. выходзіў папоўскі орган „Могилевския Епархиальныя Ведомости“ пад рэдакцыяй Ціхамірава. Рэдакцыя знаходзілася пры духоўнай сэмінарыі. Часопіс выходзіў спачатку тры разы, а потым два разы ў месяц. Апошні нумар (20) вышаў 15-га сьнежня 1917 г. З рэдактараў выдзяляўся І. Пятніцкі, аўтар многіх артыкулаў і кніжок.

Другі царкоўны орган „Духовный Вестник“ выходзіў з 1866 г.

Досыць значную выдавецкую дзейнасьць разгарнула Земства.

З 1906 г. Земствам выдавалася штотыднёвая газэта „Могилевский Вестник“, якая ў 1910 годзе была заменена „Могилевской Земской Неделей“ штотыднёвым часопісам. З 1914 г. да ліпня м-ца 1917 г. замест апошняй выдаваўся „Вестник Могилевскаго Земства“ пад рэдакцыяй спачатку Гартынскага, потым Мусерскага. Часопіс выходзіў два разы ў месяц. У гэтых выданьнях часад-часу зьяўляліся літаратурныя творы: вершы, апавяданьні, а таксама навуковыя артыкулы. Напрыклад у № 8 „Вестника Могилевского Земства“ за 1915 год быў зьмешчан каштоўны артыкул Г. К. Крэера „Ботаническия исследования в Могилевской губернии“.

12 ліпня 1917 г. замест Вестніка выходзіць „Могилевская Жизнь“—штодзённая грамадзка-палітычная газэта, орган Губэрскага Земства. Лёзунг газэты: „Уся ўлада Ўстаноўчаму Сойму. Рэдактарам газэты быў Куніцын. Гэта апошняе Земскае выданьне спынілася на № 99—14 лістапада 1917 г.

З 1906 году да 1917 году выдавалася ў Магілеве газэта „Могилевский Вестник“. Рэдактарам—выдаўцом яе спачатку быў Макоўскі, а ў 1917 годзе Кахановіч.

У 1906 годзе выходзіў лібэральны „Могилевский Голос“ пад рэдакцыяй Бэхлі з удзелам буйных публіцыстычных сіл—„Непримиримого“ вядомага мясцовага публіцыстага Мірскага, Ісаева і інш.

Шмат газэт выходзіла ў 1917 годзе і ў гады грамадзянскай вайны.

21 красавіка 1917 году вышла Могилевская газета „Свобода, Равенство и Братство“,

орган Савету Рабочых і Сялянскіх Дэпутататаў і дэмократычных грамадзкіх груп.

Першы нумар яе быў падпісан Старшынёю Рэдакцыйнай Камісіі М. Ю. Бэхлі. У першым жа нумары абвяшчалася, што „Могилевский Вестник“ „по независящим обстоятельствам“ спыняе сваё існаваньне.

У № 27 за 24 мая 1927 г. абвяшчалася, што „Могилевская газета Свобода, Равенство и Братство“ зьяўляецца беспартыйным соцыялістычным органам. Газэту падпісвае член рэдакцыйнай камісіі Станевіч. Апошні нумар яе (63) вышаў 6 ліпня 1927 г. Друкавалася яна ў Губэрскай Друкарні. Рэдакцыя знаходзілася на Дняпроўскім проспэкце, у д. № 4.

У пачатку чэрвеня 1917 г. выходзіць газэта „Молот“. Яе лёзунг: „У барацьбе знойдзеш ты права свае“. „Няхай жыве Дэмократычная, Рэспубліка“ „Няхай жыве соцыялізм“. Гэта быў новы, больш левы орган Магілеўскага Савету Сялянскіх, Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў. Рэдактарям яго быў С. С. Айзэнштат.

Друкавалася ў друкарні Губэрскага Земства. Рэдакцыя і кантора знаходзіліся ў доме былога дваранства (Комсамольская вул.).

У часы нямецка-польскай окупацыі, у 1918 г., у Магілеве выходзілі дзьве газэты. Чорнае крумкаччо, што наляцела ў Магілеў, зьвіло два гнязды: зусім чорнасотніцкую газэту „Труд“,—выданьне групы афіцэраў і газэту „Эхо“—напрамку кадэцкага.

З уваходам у Магілеў Чырвонай арміі гэтыя гнёзды былі разбураны.

У весну 1918 г. гр. Мірскі-Ісаеў аднаўляе „Могилевский Голос“. Газэта выходзіла 5 тыдняў і была зачынена польскім камандаваньнем, а выдавец быў высланы этапным парадкам за межы окупацыі.

Пасьля Кастрычніка, 27 лістапада 1917 г. выходзіць першы нумар штодзённай савецкай газэты „Революционная Ставка“ орган Ваенна-Рэволюцыйнага Камітэту пры стаўцы.

З № 19 газэта становіцца органам Цэнтральнага Камітэту Дзейнічаючых армій і флётаў (Цэкадарф.) Т. Забкоў лічыцца адказным рэдактарам. Пасьля 1-га Зьезду Саветаў выдаюцца ў Магілеве „Известия Губисполкома“. Такім чынам 2 месяцы выходзілі ў Магілеве адначасова 2 газэты.

У лютым м-цы 1918 г. гэтыя дзьве газэты зьліваюцца ў адну „Известия Губернского Военно-Революционного Комитета“.

Ганебная окупацыя спыніла выхад газэты 2 сакавіка 1918 г.

З лістапада 1918 г. урачыста абвясьціў перамогу пролетарыяту, вызваленьне працоўнага насельніцтва Магілеўшчыны ад гвалтоўнікаў окупантаў першы нумар адноўленай газэты „Известия Могилевского Губернского Революционного Комитета“.

У склад Рэдакцыйнай колегіі ўваходзілі: Дэйман, Гублер, Блюман. Выдавец—Магілеўскі Губ. Рэволюцыйны Камітэт. Друкавалася газэта ў 2-й Савецкай друкарні. Рэдакцыя зьмясьцілася ў буцынку былшай стаўкі.

У хуткім часе газэце даецца новая назва „Соха и Молот“. Яня стала органам Павятовага Камітэту РКП, Выканкому і Профбюро. Улетку 1920 году замест колегіі прызначаецца рэдактарам т. Буткоўскі.

30-га мая 1925 году вышаў апошні (1871) нумар „Сохи и Молота“.

Асталася ў Магілеве сялянская газэта „Магілеўскі Селянін“, якая пачала выходзіць у кастрычніку месяцы 1924 г.

Рэдактарам яе быў т. Баранаў, рэдактар „Сохи и Молота“.

Спачатку адна, потым дзьве старонкі, нарэшце ў верасьні 1926 году, уся газэта цалкам выдаецца пабеларуску. Пасьля т. Баранава рэдактарам быў т. Мацьвяёнак, а затым т. Дуброўскі, які рэдагуе газэту і зараз.

Цяпер „Магілеўскі Селянін“ орган Акруговага Камітэту КПБ, Акруговага Выканаўчага Камітэту і Акрпрофсавету, выходзіць 2 разы ў тыдзень у ліку 4-х тысяч экзэмпляраў і мае 300 сталых селькораў.

Шырака разгарнуў сваю працу „Магілеўскі Селянін“, ахапляючы сваім уплывам самыя глухія куткі Магілеўшчыны. Упарта змагаецца ён са спадчынаю царызму: цемраю, беднасьцю, бюрократызмам, трапна вядзе працоўныя масы Магілеўшчыны па шляху да Соцыялізму.

Часопісы.

У 1919 годзе выдаваўся ў Магілеве часопіс „Новае Хозяйство“ орган Губэрскага Савету Народнае Гаспадаркі. Вышла ўсяго 4 нумары.

У 1923 годзе Магілеўскі Уком РКП(б) выдаваў штомесячнік „Бюллетень Могилевского Уездно-Городского Комитета РКП(б)“. У „Бюллетени“ ўсебакова разглядаліся пытаньні партыйнай працы.

Апрача часопісаў і газэт у Магілеве да Кастрычнікавай Рэволюцыі выдаваліся зборнікі. Выдатны публіцысты, энэргічны Мірскі-Ісаеў (цяпер стары журналіст), пяру якога належыць шмат артыкулаў у розных выданьнях, на працягу 1913—17 гадоў выдаў 9 альманахаў.

Гэта былі кніжкі ў 8°, старонак па 40—50. У іх зьмяшчаліся артыкулы, літаратурныя творы, нататкі, фэльетоны выключна на мясцовыя тэмы. Друкаваліся зборнікі ў друкарні Рабіновіча.

Асабліва цікавы зборнік „Темы дня“, выдадзены ў жніўні месяцы 1916 году. У ім быў зьмешчан плян складаньня гісторыі гор. Магілева, апрацаваны Міхалевічам, старшынёю камісіі, якая была ўтворана ў 1916 годзе дзеля вывучэньня і выданьня гісторыі гор. Магілева.

**VII. Пэрыодычныя выданьні, зьвязаныя з жыцьцём школы.**

1) Дырэкцыя народных вучылішч, пачынаючы з 1891 г., выдавала амаль штогод

